

*Іван Крамской. Хрыстус у пустыні.*
*1872 г. Палатно, алей. 180х210.*
*Масква, Траццякоўская галерэя.*

# Ксёндз Ян Твардоўскі

Аляксандры Іваноўскай

Не плач у лісце
не пішы што лёс цябе ўдарыў
няма на зямлі сітуацый без выйсця
калі Бог зачыняе дзверы — адчыняе вакно
перадыхні — зірні
спадаюць з аблокаў
малыя вялікія няшчасці патрэбныя для шчасця
ад звыклых рэчаў навучыся спакою
і забудзь што ты ёсць калі кажаш што любіш

*Пераклад з польскай мовы*
*Крыстыны Лялько.*



У нумары 2/2011

НАША ВЕРА

# ВАЖНЫ ВІЗІТ

З 12 па 15 мая ў Беларусі з візітам знаходзіўся арцыбіскуп Клаўдыё Марыя Чэллі, старшыня Папскай рады па справах масавай камунікацыі. Асноўнай мэтай візіту прадстаўніка Ватыкана ў нашу краіну было правядзенне канферэнцыі для свецкіх і рэлігійных СМІ.

13 мая ў мінскім касцёле св. Сымона і Алены арцыбіскуп Клаўдыё Марыя Чэллі сустрэўся з прадстаўнікамі свецкіх СМІ. Ватыканскі іерарх выступіў з дакладам на тэму «Інфаэтыка дзеля міру ў глабалізаваным грамадстве», а таксама адказаў на пытанні журналістаў. Госць з Апостальскай Сталіцы заклікаў прысутных прадстаўнікоў СМІ да дыялогу. Менавіта досвед журналістаў, як падкрэсліў арцыбіскуп, дапаможа яму ў разуменні шляху, па якім ідзе Беларусь. Сёння, як і ва ўсе часы, па словах іерарха, неабходна інфаэтыка дзеля абароны чалавечай асобы праз сацыяльную камунікацыю, якая павінна базавацца на «стратэгіі даверу». На чым жа будуецца «стратэгія даверу»? Праўда, справядлівасць, свабода і любоў — вось чатыры слупы гэтай стратэгіі.

У той жа дзень адбылася сустрэча арцыбіскупа Клаўдыё Марыя Чэллі з прадстаўнікамі рэлігійных СМІ. На што павінны звяртаць увагу рэлігійныя СМІ? Як каталіцкай прэсе навучыцца размаўляць на мове сучаснага чалавека, які часта не мае ніякага дачынення да Касцёла? На гэтыя і іншыя пытанні адказаў старшыня Папскай рады па справах масавай камунікацыі.

14 мая ў Епархіяльным упраўленні Беларускай Праваслаўнай Царквы адбылася сустрэча Мітрапаліта Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі, і арцыбіскупа Клаўдыё Марыя-Чэллі.



Арцыбіскуп Клаўдыё Марыя Чэллі. Фота М. Новікава.

15 мая старшыня Папскай рады па сродках масавай камунікацыі ўзначаліў у мінскім архікатэдральным касцёле святую Імшу з удзелам дзяцей. Літургію канцэлебравалі Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч і беларускія святары. У гэты дзень арцыбіскуп Клаўдыё Марыя Чэллі адляцеў у Рым.

*Паводле інфармацыйных агенцтваў.*

# ІНФАЭТЫКА ДЗЕЛЯ МІРУ Ў ГЛАБАЛІЗАВАНЫМ ГРАМАДСТВЕ

*Даклад старшыні Папскай рады па сродках масавай камунікацыі арцыбіскупа Клаўдыё Марыя Чэллі падчас сустрэчы са свецкімі СМІ*
13 мая, Мінск

Перад абліччам эпахальных зменаў, якія з рознай хуткасцю распаўсюджваюцца ў сучасных грамадствах, калі камунікацыя з'яўляецца «рухавіком» новай культуры, што вельмі хутка развіваецца, Каталіцкі Касцёл — разам з іншымі веруючымі ў Хрыста — задае сабе пытанні перадусім адносна таго антрапалагічнага скачка, выкліканага гэтымі зменамі. Іншымі словамі, якім чынам перамяняецца чалавечая асоба? Як змяняюцца адносіны бацькоў і дзяцей? Што ўяўляюць з сябе «суполкі», якія ўзніклі ў віртуальнай прасторы? Да якіх мэтаў імкнецца свабода інфармацыі, грамадская адказнасць за тое, што адбываецца ў так званай «глабальнай вёсцы»? Мы заўсёды імнемся даць адказ, выкарыстоўваючы скарб двухтысячагадовага шляху Касцёла, у святле таго паслання, якое Езус Хрыстус пакінуў вернікам. Гаворка ідзе пра пасланне, якое мае ўніверсальнае значэнне, бо яно сягае каранёў таго, што з'яўляецца чалавечым, гледзячы на гэта ў Божым святле.

У гэтай галіне розныя папы далі настаўленні, што накіроўваюць дзейнасць прафесіяналаў у сферы камунікацыі як веруючых, так і няверуючых. У супольнасці, дзе тэхніка і культура сплятаюцца ў шчыльную камунікацыйную сетку, трэба захаваць яснасць, неабходную для таго, каб прыняць усе магчымасці, якія яны нам даюць, кіруючы развіццё да дабра кожнай асобы, кожнай сям'і і народа. Дабро, якое выяўляецца ў дары міру, угрунтаванага на агульным дабры, што дасягаецца праз праўду, справядлівасць, свабоду і любоў.

Ужо ў часы «халоднай вайны» благаслаўлёны папа Ян XXIII у сваёй энцыкліцы *Pacem in Terris* вызначыў гэтыя чатыры элементы як апоры мірнага грамадства. Пазней, у 2003 годзе, папа Ян Павел ІІ паўтарыў гэта ў сваім 37-м пасланні на Сусветны дзень сацыяльнай камунікацыі. Яны актуальныя таксама сёння і ў апошні час атрымалі развіццё ў вучэнні цяперашняга Папы.

Святы Айцец Бэнэдыкт XVI у 2010 годзе падкрэсліў: «Больш, чым можна сабе гэта ўявіць, сёння неабходная інфаэтыка, падобна да таго, як у галіне медыцыны і даследаванняў, звязаных з жыццём, існуе біяэтыка». Менавіта таму, што на парадку дня стаіць антрапалагічнае пытанне, якое закранае самое сэрца чалавечай асобы, у гэтым сваім пасланні на Сусветны дзень сацыяльнай камунікацыі Папа імкнецца вызначыць стабільны кірунак камунікацыйнай плыні такім чынам, каб яна адпавядала чалавечай годнасці.

Калі камунікацыя губляе этычныя асновы і выходзіць па-за межы сапраўдных каштоўнасцяў, яна трапляе ў залежнасць ад эканамічных і палітычных інтарэсаў, ігнаруе цэнтральнае месца і непарушную годнасць, што належаць чалавеку, і стварае рызыку адмоўнага ўплыву на яго сумленне, яго выбар, канчаткова разбураючы свабоду і само чалавечае жыццё асобаў. Вось чаму неабходна, каб сацыяльная камунікацыя рупліва абараняла чалавечую асобу і ў поўнай меры шанавала яе годнасць.

**Чатыры апоры камунікацыі дзеля міру**

Сённяшнія СМІ разам з усімі тэхнічнымі і культурнымі дасягненнямі, якімі яны характарызуюцца, з'яўляюцца незвычайнай платформай узаемаабмену і дыялогу, прыдатнай для пашырэння справы міру праз справядлівасць. Ян Павел ІІ, звяртаючыся да прадстаўнікоў СМІ у 1987 годзе, заклікаў іх зрабіць і свой унёсак у пераход ад раўнавагі, заснаванай на запалохванні, да стратэгіі даверу. Ён падкрэсліў пры гэтым, што «мір немагчымы без дыялогу, але немагчыма распачаць сапраўдны дыялог, не будучы доб-

ра інфармаванымі, на ўсходзе і на захадзе, на поўдні і на поўначы. Да таго ж ваш дылог павінен быць „усеагульным дыялогам", гэта значыць дыялогам, які вядзецца на абшары глабальнай стратэгіі камунікацыі: зразумела, у інфармацыі, але таксама і ў забаўляльным сектары, рэкламе, мастацкай творчасці, адукацыі, адкрыцці культурных каштоўнасцяў. Менавіта праз такую стратэгію камунікацыі трэба рэалізаваць стратэгію даверу» *(Пасланне на Сусветны дзень сацыяльнай камунікацыі, 1987 г.)*.

Цяпер паглядзім, як можа быць пабудавана гэтая «стратэгія даверу».

СМІ і праўда. Асноўным заданнем усіх відаў камунікацыі з'яўляецца пошук праўды і павага да праўды, каб дзяліцца ёю, паведамляючы тое, што праўдзівае не толькі адносна фактаў і інфармацыі, але таксама і перадусім у тым, што датычыцца супольнага дабра грамадства і адносінаў з Богам. Грамадства, у якім СМІ карыстаюцца даверам дзякуючы сваёй праўдзівасці, жыве ў атмасферы большай калектыўнай свядомасці.

Сапраўды, калі СМІ адважна нясуць служэнне праўдзе, яны спрыяюць сталенню грамадскага арганізму, і наадварот, становяцца прычынаю падзелу, калі распаўсюджваюць «прапаганду» і дэзінфармацыю, робячыся паслугачамі вузкіх інтарэсаў, дзяржаўных, нацыяналістычных, расавых і рэлігійных забабонаў, матэрыяльнай нажывы і фальшывых ідэалогій розных кірункаў.

Чалавек прагне праўды, ён знаходзіцца ў пошуку праўды. Таму найбольшае служэнне, якое можна даць асобе і грамадству, гэта спрыянне такому пошуку ў атмасферы свабоды. СМІ могуць дапамагчы ў дасягненні гэтай мэты дзякуючы стварэнню якасных передачаў і мастацкіх праграмаў, у якіх будуць прызнаныя і добра прадстаўленыя праўда, прыгажосць і веліч чалавечай асобы разам з яе рэлігійнай сферай. Заўважны поспех такой выдатнай прадукцыі пацвярджае, што людзі прагнуць дабра і прыгажосці.

Адзін з прыярытэтных шляхоў, дадзеных чалавеку для таго, каб ён мог наблізіцца да праўды, якую шукае, гэта дыялог. Гэта сустрэча з іншым чалавекам, які, хоць і з'яўляецца інакшым, можа стаць спадарожнікам на шляху гэтага пошуку. Таму варта спрыяць стварэнню ў грамадстве атмасферы, якая дае магчымасць выслухаць іншага чалавека, зразумець чужыя довады і доказы, каб аблегчыць сапраўдны пошук праўды. Для нас, хрысціянаў, праўда ў сваім найбольш поўным і абсалютным сэнсе з'яўляецца боскаю, з'яўляецца спрадвечным «Логасам», што стаўся чалавекам у Езусе Хрысце , які мог з поўнай падставай сцвярджаць: «Я ёсць праўда» (пар. Ян 14, 6). Але як бы там ні было, суіснаванне Касцёла, які моцна трымаецца веры ў нязменны характар праўды, з пашанаю да іншых «праўдаў», або да праўды іншых асобаў, з'яўляецца практыкай, уласцівай самому Касцёлу. У гэтай пашане з дапамогаю дыялогу могуць адчыніцца новыя дзверы для перадачы праўды *(пар. Бэнэдыкт XVI, Прамова да прадстаўнікоў свету культуры, 12 мая 2010 г., Лісабон, Партугалія)*.

Езус сказаў: «Пазнаеце праўду, і праўда зробіць вас свабоднымі» (пар. Ян 8, 32). Праўда, якая робіць нас свабоднымі, — гэта Хрыстус, таму што толькі Ён можа ў поўнай меры наталіць прагу жыцця і любові, якую чалавек адчувае ў сваім сэрцы. Той, хто шукае праўду, раней ці пазней знойдзе Яго. Той, хто асабіста сустрэўся з Ім і захапіўся Яго пасланнем, адчувае нястрыманае жаданне дзяліцца гэтаю праўдаю і перадаваць яе: «Тое, што было ад пачатку, што мы чулі, што бачылі сваімі вачыма, — піша святы Ян, — на што глядзелі і да чаго дакраналіся нашыя рукі, праз Слова жыцця <...>, абвяшчаем і вам, каб і вы мелі еднасць з намі. А нашая еднасць ёсць з Айцом і Сынам Ягоным Езусам Хрыстом. І гэта мы пішам, каб радасць нашая была поўнай» (пар. 1 Ян 1, 1–3).

СМІ і справядлівасць. Глабальны абсяг СМІ у свеце, які пакутуе ад невыноснай няроўнасці, абавязвае да асаблівай адказнасці. СМІ могуць і павінны асвятляць стан забытых усімі групаў насельніцтва, прыгнечаных сацыяльных слаёў, сітуацыі несправядлівасці, каб адчыніць дзверы для лепшага размеркавання дабротаў. Нават калі СМІ часта належаць пэўным групам, якія маюць свае інтарэсы, прыватныя і грамадскія, сама па сабе сутнасць іх уздзеяння на жыццё патрабуе ад іх не ўносіць падзелу паміж рознымі групамі, напрыклад, у імя класавай барацьбы, ваяўнічага нацыяналізму, расавай вышэйшасці, этнічнай чысціні ці рэлігіі. СМІ аказваюць неацэнную паслугу справе справядлівасці і згоды, калі верна апісваюць падзеі, непрадузята прадстаўляючы розныя пункты гледжання, паказваючы кантэкст і даючы ключы для зразумення. Гэта не азначае, што СМІ не павінны цікавіцца несправядлівасцю і

падзеламі, але яны павінны ўскрываць іх карані, каб іх можна было зразумець і выдаліць.

Няма міру без справядлівасці. Мы ўсе гэта цудоўна ведаем. Але не можа быць сапраўднай справядліваці без любові і прабачэння *(пар. Ян Павел II, Пасланне на Сусветны дзень міру, 2002 г.)*. Таму служэнне СМІ справе справядлівасці непасрэдна звязана з праўдай, але павінна ісці яшчэ далей. Як казаў папа Ян Павел II, апорамі сапраўднага міру з'яўляюцца справядлівасць і гэтая своеасаблівая форма любові — прабачэнне. Безумоўна, роля СМІ не павінна дубляваць ролю выхаваўцаў і Касцёлаў у гэтай сферы. Але яны маюць важнае заданне — ды яшчэ якое! — абудзіць у грамадстве ўсведамленне таго, наколькі вялікае значэнне маюць сапраўдная роўнасць усіх людзей перад законам і роўны для ўсіх людзей і ўсіх сацыяльных слаёў доступ да дасягненняў прагрэсу.

Як вам добра вядома, асаблівым выклікам нашага часу з'яўляецца так званая «электронная няроўнасць», а дакладней, розніца, што падзяляе людзей на тых, хто мае доступ да кіберпрасторы з усімі яе сацыяльнымі і культурнымі перавагамі, і тых, хто нават ні разу ў жыцці не тэлефанаваў або не ведае, што такое камп'ютар. Гэты падзел існуе не толькі паміж індустрыяльнымі краінамі і краінамі на шляху развіцця, але і ўнутры саміх найбольш развітых краінаў. Геаграфічна далёкія тэрыторыі, маленькія або ізаляваныя, пажылыя і немаладыя людзі, этнічныя і моўныя меншасці, а таксама тыя, хто церпіць ад розных фізічных калецтваў, маюць цяжкасці з уваходам у гэтую электронную культуру, якая ўключае ў сябе ўдзел, інфармаванне і нават доступ да адміністрацыйных дзяржаўных службаў. Усё грамадства абавязана прыкласці намаганні для таго, каб гэтыя сацыяльныя пласты далучыліся да «піру» культуры, таксама і электроннай. СМІ могуць зрабіць надзвычай плённы ўнёсак у гэтую справядлівую справу, паказваючы становішча тых, хто выключаны з гэтага сацыяльнага дыялогу, і спрыяючы іх далучэнню.



Арцыбіскуп Клаўдыё Чэллі падчас сустрэчы з журналістамі ў Мінску.
Фота М. Новікава.

СМІ і свабода. Свабода — гэта першая з умоваў сапраўднага міру, а таксама адзін з найкаштоўнейшых яго плёнаў. Касцёл абараняе свабоду слова і друку адзіна ў межах маральнага парадку і супольнага дабра як неадменную ўмову грамадскага міру. СМІ служаць свабодзе, служачы праўдзе, і яны ж знішчаюць свабоду, калі аддаляюцца ад праўды, распаўсюджваючы хлусню або ствараючы атмасферу нездаровай эмацыйнай рэакцыі на падзеі. Толькі калі людзі маюць доступ да праўдзівай і вычарпальнай інфармацыі, яны ў стане імкнуцца да супольнага дабра і бачаць у афіцыйных уладах адказных за гэтае дабро.

Калі СМІ знаходзяцца на служэнні свабодзе, яны самі павінны заставацца свабоднымі і правільна карыстацца сваёю свабодаю, гэта значыць дзейнічаць у духу адказнай свабоды. СМІ маюць прывілеяваны статус у грамадстве, таму яны ў найбольшай ступені абавязаны дзейнічаць вышэй за выключна эканамічныя інтарэсы, становячыся на служэнне сапраўдным патрэбам і сапраўднаму дабрабыту грамадства. Таму ў інтарэсах супольнага дабра неабходнае пэўнае рэгуляванне ў сферы СМІ і недапушчальныя медыя-манаполіі ні ў якім выглядзе. Мне здаецца, што выдаўцы, кіраўнікі рэдакцый, карэспандэнты і журналісты павінны моцна адчуваць маральны абавязак ісці за тым, што падказвае ім сумленне, і супрацьстаяць ціску, які на іх аказваецца з мэтаю «дастасаваць» праўду, каб задаволіць прэтэнзіі розных сацыяльных групаў.

Новыя тэхналогіі робяць ін-

фармацыю больш даступнай для найслабейшых сектараў грамадства, а таксама дазваляюць усім у большай ступені ўдзельнічаць у СМІ. Перадусім моладзь бачыць у гэтых сродках актыўную прастору, якую часам не знаходзіць на месцах вучобы і працы. Гэта яшчэ адна нагода для таго, каб належным чынам падрыхтаваць гэтую новую форму сувязі і дыялогу, а таксама патрабаваць ад новых пастаўшчыкоў інфармацыі праўдзівых і адказных адносінаў.

Адзін з клопатаў, звязаных з такім адкрытым абшарам, як кіберпрастора, гэта, як мы ўсе ведаем, той факт, што акрамя рэчаў добрых і праўдзівых у ёй змяшчаюцца таксама амаральныя і гвалтоўныя рэчы. Сапраўды, неабходна мець крытэрыі выбару, іерархію каштоўнасцяў і гэтак далей. Таму не дастаткова толькі тэхнічнай інструкцыі па выкарыстанні, патрэбна перадусім этыка бачання, чытання, слухання. У гэтай сферы вельмі важна абараніць дзяцей і падлеткаў, якія так спрытна засвойваюць гэтыя тэхналогіі і якія часта не валодаюць крытэрыямі выбару, адпаведнымі іх асабістай годнасці. Такім чынам, трэба суправаджаць дзяцей у карыстанні новымі СМІ, а таксама забяспечыць сур'ёзнае выхаванне ў сферы каштоўнасцяў. У іншым выпадку яны сустрэнуцца з вялікай і непатрэбнай рызыкай.

СМІ і любоў. Калі халодная вайна дасягнула свайго піку, благаслаўлёны папа Ян XXIII сказаў: «Абарона міру павінна будавацца паводле прынцыпу, цалкам адрознага ад таго, які існуе сёння. Сапраўдны мір паміж народамі не залежыць ад валодання аднолькавай колькасцю ўзбраенняў, але выключна ад узаемнага даверу» (*Pacem in Terris*, 113). Гэты давер павінен стаць першым крокам да прыязнасці, да сяброўства паміж паасобнымі людзьмі і народамі, што ў хрысціянскім слоўніку называецца словам «любоў» у самым узнёслым яго значэнні. Цяпер мы маем выдатную магчымасць для развіцця такога даверу!

Папа Бэнэдыкт XVI у 2009 годзе сказаў: «Жадаю заахвоціць усіх людзей добрай волі, якія дзейнічаюць у свеце электроннай камунікацыі, заняцца развіццём культуры ўзаемапавагі, дыялогу, сяброўства».

Для развіцця гэтай культуры было б пажадана пераадолець адно з уяўленняў, зазвычай прысутнае ў СМІ, а менавіта «ідэал наймацнейшага». Такое імкненне да перавагі, якое, зрэшты, толькі павялічвае ўзаемны страх, супярэчыць культуры сяброўства і цывілізацыі любові.

Сучасныя сродкі камунікацыі, як традыцыйныя (друк, радыё, тэлебачанне), так і найноўшыя (інтэрнэт, сацыяльныя сеткі, мабільныя тэлефоны), займаюць ключавыя пазіцыі ў абмене думкамі, ініцыятывамі, культурнымі дасягненнямі. У сённяшнім свеце яны павінны адыграць вялізную ролю ў развіцці адносінаў, пабудаваных на ўзаемапазнанні і ўзаемным даверы. Яны маюць такую вялікую моц, што за кароткі час могуць выклікаць шырокую грамадскую рэакцыю на падзеі, пазітыўную або негатыўную, паводле ўласнага жадання. Тое, што цяпер адбываецца ў Сяродземнамор'і і на Блізкім Усходзе, таксама выклікана новымі СМІ, якія дазваляюць новым пакаленням звярнуцца да іншых мадэляў грамадства і ладу жыцця. Мы нават не можам цалкам усвядоміць магутнай сілы новых СМІ як у добрым, так і ў дрэнным.

Людзі, не абыякавыя да дабра чалавека і грамадства, разумеюць, што гэтая вялізная моц патрабуе намаганняў на карысць праўды і дабра на самым высокім узроўні. У сувязі з гэтым усе людзі, а не толькі прафесіяналы, якія працуюць у СМІ, нават кожны паасобны карыстальнік, абавязаны спрыяць справе міру ў кожным куточку свету, знішчаючы бар'еры недаверу, лічачыся з поглядамі іншых і імкнучыся заўсёды заахвочваць паасобных людзей і цэлыя народы да ўзаемаразумення і ўзаемапавагі. Нават ідучы далей, да прымірэння і міласэрнасці!.. «Там, дзе пануюць нянавісць і прага помсты, дзе войны нясуць пакуты і смерць нявінным, неабходная міласэрнасць, каб злагодзіць розумы і сэрцы людзей і пабудаваць мір» *(Ян Павел II, Гамілія ў санктуарыі Божай Міласэрнасці ў Кракаве-Лагеўніках, 17 жніўня 2002 г.)*.

Усё гэта з'яўляецца вялізным выклікам, але не празмерным патрабаваннем для тых, хто працуе ў СМІ. З увагі на сваё пакліканне і прафесію яны абавязаны быць працаўнікамі праўды, справядлівасці, свабоды і любові, спрыяючы сваёю такою важнаю працаю ўсталяванню грамадскага парадку, «заснаванага на праўдзе, збудаванага дзякуючы справядлівасці, узгадаванага і ажыўленага любоўю і ўведзенага ў дзеянне пад штандарамі свабоды» *(Pacem in Terris, 167)*.

*Пераклад з італьянскай мовы Міколы Гракава.*

Клаўдыё Марыя Чэллі,
старшыня Папскай рады па сродках масавай камунікацыі

# Музыка, якая гучыць у нашых сэрцах

Тэма камунікацыі нараджаецца ўнутры чалавека. Памятаеце, як Святы Айцец Ян Павел ІІ апошні раз з'явіўся ў вакне апостальскага палаца? Яму не ўдалося нават нічога сказаць, з ягоных вуснаў не выйшла ніводнага слова. Здавалася б, гэтае маўчанне пярэчыць камунікацыі, адмаўляе яе. Але яго позірк, яго жэсты вельмі шмат перадавалі тым, хто глядзеў на яго. Таму галоўнае ў камунікацыі — ведаць, што знаходзіцца ў сэрцы чалавека, а не толькі добра разбірацца ў тэхналогіях.

Ёсць вельмі прыгожая лацінаамерыканская гісторыя. Адзін чалавек хадзіў з вёскі ў вёску, з мястэчка ў мястэчка. Ён ехаў на маленькім вослiку, пры гэтым іграў на арфе і спяваў, бо менавіта для гэтага яго і запрашалі ў розныя мясціны. Аднойчы ўначы, калі ён быў у дарозе, на яго напалі бандыты і ўкралі вослiка, панеслі арфу, а самога збілі так, што ён застаўся ляжаць на дарозе, паміраючы. На наступны дзень некалькі чалавек, ідучы гэтаю дарогаю, знайшлі параненага. Яны спыталіся, што з ім здарылася. Той расказаў, што яго абакралі і збілі. «Але яны не змаглі вырваць музыку з майго сэрца», — дадаў ён. Дык вось, галоўнае, каб мы мелі музыку ў нашых сэрцах, таму што наша камунікацыя нараджаецца з той музыкі, якая гучыць унутры нас. Гэта гісторыя дапамагае зразумець: мая справа не ў тым, каб разбірацца ў тэхналогіях, бо ў такім выпадку дастаткова было б мець пэўную суму грошай, каб набыць сучаснае абсталяванне. Але гэта не вырашыць праблему камунікацыі ў Касцёле. Важна, каб у маіх словах заключалася тое, кім ёсць Бог, у якога я веру. Мы павінны данесці да сучаснага чалавека, што Бог любіць яго, шукае яго, каб даць яму шчасце.

Касцёл — гэта служэнне, канчатковая мэта Касцёла не заключаецца ў ім самім, таму першы вобраз, які я хацеў бы вам пакінуць, гэта абмыццё ног. Я бачыў розныя прафесійна зробленыя вэб-старонкі, але мэтаю гэтай дзейнасці не з'яўляецца проста стварэнне добрага сайту. Сайт можа быць толькі пачатковым момантам у размове з сучасным чалавекам. Вельмі важна, каб гэты чалавек ведаў, што хрысціянская супольнасць выходзіць яму насустрач, гатовая прыняць яго. У Мадрыдзе ў мяне ёсць сябар — пробашч. Ён стварыў цудоўны сайт. Кажа, што на гэты сайт заходзіць больш людзей, чым прысутнічае на нядзельнай Імшы ў касцёле. Але праблема ў тым, што сайт — не мэта сама па сабе. Сайт можа быць толькі адкрыццём дарогі да сапраўднай супольнасці, да супольнасці, якая дапамагае ад-



Арцыбіскуп Клаўдыё Марыя Чэллі і арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч падчас сустрэчы з прадстаўнікамі свецкіх СМІ. Фота М. Новікава.

крываць Езуса Хрыста. Вось у чым праблема: акрамя сайту, паза сайтамі мы павінны ствараць жывую супольнасць.

Другі біблійны вобраз, які мне хацелася б вам пакінуць, быў паказаны на днях у біблійным чытанні падчас Імшы. Памятаеце аповед пра дыякана Філіпа, які, ідучы па пустыннай дарозе, сустрэў еўнуха — саноўніка эфіопскай царыцы Кандакі? Ён — сапраўдны натхняльнік. І таму пакідаю вам гэта як вобраз сапраўднай дыяканіі культуры. Сучасны свет падобны да таго еўнуха, які едзе ў сваёй павозцы па пустыннай дарозе. Можа, вам падасца гэта дзіўным, але, нягледзячы на тое, што сёння мы маем такія добрыя сродкі камунікацыі, чалавек адчувае вельмі глыбокую самоту. Я не вельмі добра знаёмы з гуманітарнай сітуацыяй у Беларусі, але ў Еўропе, у ЗША сітуацыя сучаснага чалавека выглядае сапраўды жахлівай. Гэта безвыходная самота. У нас заўсёды з сабою ўключаны мабільны тэлефон, часам ажно два, і, нават кладучыся спаць, многія пакідаюць тэлефон уключаным. Кажуць, што ў Еўропе малады чалавек штодзённа піша каля 60 СМС. Чалавек, адчуваючы самоту ўнутры сябе, усведамляе патрэбу быць у лучнасці з іншымі.

У аповедзе з Дзеяў Апосталаў Філіп ідзе побач з павозкаю, на якой едзе еўнух. Гэта як Касцёл, што ідзе побач з чалавекам. Ён не крытыкуе, не абвінавачвае. Часам у людзей складваецца такі вобраз Касцёла, які гатовы выступіць супраць кагосьці, хто ўчыніў нейкую памылку. І сёння Касцёл павінен паўстаць перад сучасным чалавекам у такім абліччы, на якім будуць прачытвацца сімпатыя, добразычлівасць у адносінах да чалавека. Сучасным людзям вельмі цяжка ісці па жыцці, і не проста з-за нейкіх эканамічных цяжкасцяў, тут выяўляюцца вельмі глыбокія экзістэнцыйныя праблемы, таму адносіны Касцёла да чалавека павінны мець такія рысы як адкрытасць, сімпатыя, гатоўнасць выслухаць. Памятаеце, якое пытанне задаў Філіп: «Ці разумееш, што чытаеш?» І еўнух адказвае: «Як жа магу разумець, калі ніхто не раз'ясніў мне?» І праблема не ў тым, каб проста ведаць тэкст прарока Ісаі. Праблема ў тым, каб разумець сэнс жыцця. Касцёл павінен ісці поруч з чалавекам, каб адкрываць яму сэнс жыцця, таму я кажу пра дыяканію ў свеце лічбавай культуры. Мы гаворым цяпер не толькі пра прылады і абсталяванне, бо ўжо Папа Рымскі Ян Павел II адзначыў, што новыя сродкі камунікацыі нараджаюць новую культуру, новыя спосабы камунікацыі, новыя адносіны паміж людзьмі.

Калі мы нядаўна крочылі разам з арцыбіскупам Тадэвушам Кандрусевічам па вуліцы, хтосьці, ідучы насустрач нам, сказаў: «Пахвалёны Езус Хрыстус!» Я сказаў тады вашаму арцыбіскупу, што ў Італіі мяне ніхто б так не прывітаў. Але вы павінны быць гатовыя да таго, што калісьці і ў Беларусі вам ніхто не скажа: «Пахвалёны Езус Хрыстус!», таму што секулярызацыя вядзе да страты некаторых рэчаў. З вобразам Філіпа звязана пэўная настальгія, туга па тым, хто знаходзіцца далёка. Часам я кажу, што мы бываем падобныя да тых, хто лавіць рыбу ў акварыуме. Але вельмі шмат людзей жыве па-за межамі акварыума. Хто думае пра гэтых людзей? Хто клапоціцца пра іх? Карыстаючыся сучаснымі сродкамі камунікацыі, мы павінны паклапаціцца і пра тых, хто знаходзіцца далёка, хто ніколі не прыйдзе ў касцёл, не будзе маліцца, але адчувае ў сваім сэрцы вялікую тугу па Богу. Я не хачу павучаць і казаць, што трэба рабіць так і так. Той, хто любіць, сам знойдзе шляхі для таго, каб паказаць сваю любоў. І мне хацелася б прыехаць да вас праз год ці два, каб паглядзець, што вы вынайдзеце ў сферы сваёй камунікацыі, каб сказаць мужчынам і жанчынам, жыхарам вашай краіны, што Бог любіць іх вельмі глыбока, вельмі моцна.

Наша камунікацыя — гэта тая музыка, якая гучыць у нашых сэрцах, таму я пакідаю вам гэтыя два вобразы, а таксама пажаданне быць крэатыўнымі, быць вынаходнікамі, а вынаходніцтвы павінны выходзіць з сэрца і дапамагаць рабіць тое, што можна зрабіць, каб музыка нашага сэрца як мага мацней загучала ў нашым штодзённым жыцці.

*Пераклад з італьянскай мовы Міколы Гракава.*

# Сапраўдная таямніца гэтага чалавека — яго надзвычайная блізкасць да Бога

У лістападзе 2010 г. выйшла ў свет новая кніга вядомага нямецкага журналіста Петэра Зээвальда, якая прыцягнула да сябе ўвагу мільёнаў чытачоў у розных краінах: «Бэнэдыкт XVI. Святло свету: Папа, Касцёл і знакі часу. Размова з Петэрам Зээвальдам». Прычына папулярнасці гэтай кнігі зразумелая ўжо з самой яе назвы — вялікую зацікаўленасць выклікаюць і асоба цяперашняга Пантыфіка, і праблемы, звязаныя з Каталіцкім Касцёлам, і спроба зразумець, куды рухаецца сучасны свет і што чалавецтва можа і павінна рабіць у гэтай сітуацыі.

Беларускія чытачы таксама маюць магчымасць бліжэй пазнаёміцца з гэтым сусветным бестселерам — рэдакцыя «Нашай веры» плануе друкаваць у некалькіх нумарах часопіса пераклад раздзелаў з першай часткі кнігі «Знакі часу». А ў якасці ўводзінаў прапануем інтэрв'ю Петэра Зээвальда нямецкаму Каталіцкаму інфармацыйнаму агенцтву Kath.net.

*Kath.net:* Спадар Зээвальд, у гэтыя гадзіны выходзіць кніга, якая стане сусветным бестселерам, — у прадмове Вы гаворыце пра тое, што ў рэшце рэшт Папа скіроўвае драматычны заклік да Касцёла і свету, да кожнага чалавека. Ён нібы ўсклікае: «Мы не можам далей паступаць так, як да гэтага часу!». «Чалавецтва стаіць на раздарожжы», — пішаце Вы. Што для Вас стала гэтым драматычным заклікам Папы і пра што ў ім ідзе гаворка?

*Петэр Зээвальд:* На самай справе, у кожную эпоху ёсць імкненне аб'явіць Бога памерлым; імкненне звярнуцца да таго, што здаецца адчувальным; у кожную эпоху ёсць залатыя цяльцы. Сёння мы павінны запытаць сябе: «Што мы зрабілі з гэтага стварэння, з гэтай мары пра планету? І што — з саміх сябе?». Мы бачым, што грамадства, якое пазбаўляе сябе каранёў, ідзе на дно. Што яно, пры адсутнасці каштоўнасцяў і арыенціраў, не толькі губляе дасягнутае, але прыходзіць у самы сапраўдны заняпад. Гэта датычыць нашай экалагічнай, сацыяльна-эканамічнай, але асабліва нашай духоўнай і рэлігійнай сітуацыі. Усё больш яўнай становіцца таксама небяспека дыктатуры антыхрысціянскай грамадскай думкі, ад чаго Ёзаф Ратцынгер перасцерагаў яшчэ тады, калі быў кардыналам.

Пасланне Бэнэдыкта XVI — гэта на самай справе заклік да Касцёла і свету, да кожнага чалавека: «Настаў час для пераменаў, — усклікае ён, — час для навяртання». Пры гэтым Святы Айцец мае на ўвазе перамены не ў палітычным сэнсе, а выходзіць далёка за межы гэтага. «Існуе так шмат праблемаў, — кажа Папа, — якія павінны быць вырашаныя, але яны не могуць вырашыцца, калі ў цэнтры не

будзе стаяць Бог, калі Ён зноў не стане відочным у свеце».

*Kath.net:* Кніга распачынаецца рэтраспектывай, зваротам да моманту выбараў Папы. І тут мы чуем словы Святога Айца: «Што Ты робіш са мною? Цяпер Ты нясеш адказнасць. Ты павінен мяне весці! Я не здольны да гэтага. Калі Ты пажадаў ад мяне гэтага, то павінен таксама дапамагаць мне!». Гэта былі вельмі шчырыя думкі, выказаныя папам Бэнэдыктам. Ці адчувалі Вы ў гэтыя хвіліны спачуванне да Святога Айца?

*Петэр Зээвальд:* Так, у пэўным сэнсе. Менавіта гэта адчуваеш, калі з’яўляешся сведкаю таго, што лягло на плечы гэтага чалавека. Але, з другога боку, як казала Эдыта Штайн, Бог нічога не патрабуе ад чалавека, не даўшы яму таксама сілы для гэтага. І мы бачылі на працягу мінулых пяці гадоў, наколькі вялікая сіла, што выяўляецца ў гэтым «будаўніку мастоў» падчас яго пантыфікату.

Папа — гэта чалавек, які цалкам вычарпаны, ён — вялікі дарыцель. Але таксама чалавек, які можа чэрпаць з вялікай, сапраўды бясконцай крыніцы. І ён ведае, што з тым гіганцкім заданнем, якое ляжыць на ягоных плячах, адзін ён увогуле не можа справіцца. Але таксама ведае, што і не павінен спраўляцца адзін, што тут ёсць не толькі супольнасць вернікаў, але таксама Той, які трымае гэты Касцёл, які трымае Папу і які большы, чым усе мы разам узятыя.

*Kath.net:* Святы Айцец кажа ў кнізе: «Сярод 1,2 мільярдаў ёсць шмат такіх, якія ўнутрана не маюць да Касцёла ніякіх адносінаў. Ужо св. Аўгустын сказаў у свой час: „Многія знаходзяцца звонку, хоць здаецца, што яны ўнутры; і многія знаходзяцца ўнутры, хоць здаецца, што яны звонку“. У такой справе, як вера, прыналежнасць да Каталіцкага Касцёла, унутранае і знешняе таямнічым чынам непарыўна звязаныя адно з адным». Што тут мае на ўвазе Папа? І ці не больш ён шчыры, чым многія нямецкамоўныя дыяцэзіі, дзе часта большасць утвараюць католікі, якія толькі ахрышчаныя?

*Петэр Зээвальд:* Гэта шырокая тэма. <...> Касцёл у секулярызаваным свеце <...> страціў не толькі вельмі каштоўныя структуры і шматлікіх вернікаў; тут, па сутнасці, можа рухнуць уся рэлігійная культура. Рэлігійныя веды знікаюць, і, перадусім, існуе гэтая страшлівая вычарпанасць веравызнання. Як магло стацца, што ў грамадскасці склалася ўражанне, нібыта хрысціянства адышло ў мінулае, стала гісторыяй меншасці?

Папа не заплюшчвае на гэта вочы. Ён вельмі наступальна падышоў да гэтага задання, а менавіта: праз толькі што створаную Раду па справах новай евангелізацыі. Усе мы занадта доўга толькі назіралі. Мы задавальваліся ўсяго толькі тым, што мы нібыта дзейнічаем па-хрысціянску. <...> Таму сённяшні Папа хоча ад свайго Касцёла, каб ён, пасля жахлівых выпадкаў злоўжыванняў і ненармальнасцяў, здзейсніў пэўнага роду ачышчэнне асноваў. Каб ён, пасля шматразовых і такіх бескарысных дыскусій і паралізуючага займання самім сабою, нарэшце зноў паставіў у цэнтр Езуса.

У той жа час Святы Айцец кажа, што эпоха рэлятывізму з уласцівым яму светапоглядам, калі ў якасці канчатковага крытэрыя прызнаецца толькі ўласнае «я» і ягоныя жаданні, заканчваецца. І цяпер мы бачым, што ўсе фальшывыя ідалы адзін за адным церпяць крах. Насамрэч, Касцёл знаходзіцца ў глыбокім крызісе. <...> Хоць у глабальным маштабе нельга сказаць, што Каталіцкі Касцёл, безумоўна, знаходзіцца на спадзе, наадварот, на самай справе ён яшчэ ніколі не быў такім вялікім і такім распаўсюджаным, як сёння.

*Kath.net:* У кнізе знаходзіцца таксама вельмі шмат прыватных выказванняў пра жыццё Бэнэдыкта XVI. Так, з яе можна даведацца, што Папа з задавальненнем глядзіць фільмы пра Дона Каміло і Пепонэ і пазбягае велатрэнажора. Ці можна сказаць, што Святы Айцец — гэта «звычайны чалавек»?

*Петэр Зээвальд:* Як мог бы ён не быць ім? З усім, што адносіцца да чалавечнасці. Але, несумненна, яму застаецца вельмі няшмат часу для нечага прыватнага. Бэнэдыкт XVI прытрымліваецца ўрэгуляванага, вельмі сістэматызаванага рытму, які ўключае працу, малітву і аднаўленне арганізма. Гэта дапамагае яму спраўляцца з велізарнай нагрузкай і быць надзвычай эфектыўным працаўніком. Але яму вядома таксама, што да жыцця належыць і вольны час. Папа — вялікі аматар музыкі і натхнёны піяніст. Аднак многае застаецца на дыстанцыі, напрыклад, больш частыя сустрэчы з былымі сябрамі, якімі ён вельмі даражыць, бо з’яўляецца вельмі верным чалавекам.

*Kath.net:* «Што датычыць Папы, то ён таксама з’яўляецца

сціплым жабраком перад Богам — яшчэ ў большай ступені, чым усе іншыя людзі», і яшчэ: «У мяне блізкія сяброўскія адносіны з Аўгустынам, Бонавентурам, Тамашам Аквінскім», — кажа Бэнэдыкт XVI у раздзеле пра малітву. На самай справе, маючы так шмат абавязкаў, ці звяртаецца Святы Айцец да малітвы? Як выглядае яго малітва?

*Петэр Зэевальд:* Як і кожны святар, біскуп або законнік, Папа мае ўстаноўлены час малітвы. Святы Айцец упэўнены, што без малітвы, без звяртання да Бога і без дапамогі, якую ён з гэтага чэрпае, ён увогуле не мог бы выконваць гэтую працу; без прыярытэту малітвы, якая на гэтай пасадзе, як кажа Бэнэдыкт XVI, так часта з'яўляецца сапраўдным выпрошваннем міласціны, ён мог бы зусім звар'яцець.

Папа Бэнэдыкт XVI самым найлепшым чынам інфармаваны і ідзе ўпоплеч з векам. Ён валодае неверагоднай памяццю, ні з чым не параўнальнай адукацыяй і эрудыцыяй, а таксама здольнасцю даваць фармулёўкі. Аднак я думаю, што сапраўднай таямніцай гэтага чалавека з'яўляецца яго надзвычайная блізкасць да Бога. Ён бачыў Святло свету і сам стаў такім святлом. Таму пры ўсёй сваёй інтэлектуальнасці ён застаўся простым і сапраўды пабожным чалавекам. Гэтая пабожнасць, глыбіня і прастата веры, прыклад чаго ён дае сваім жыццём, па сутнасці, сталі пячаткаю гэтага пантыфікату. <...>



Петэр Зэевальд і папа Бэнэдыкт XVI падчас прэзентацыі новай кнігі ў Ватыкане.

*Kath.net:* Выклікае цікаўнасць таксама пытанне пра магчымую адстаўку Папы. Тут Бэнэдыкт XVI кажа: «Так. Калі Папа прыйдзе да яснага разумення, што ён фізічна, псіхічна і духоўна больш не можа спраўляцца з заданнямі, якія вынікаюць з ягонай пасады, то ён мае права, а пры пэўных абставінах нават абавязак, пайсці ў адстаўку». Наколькі, на Вашу думку, працаздольны папа Бэнэдыкт XVI, і ці доўга яшчэ мы зможам цешыцца «гадамі Бэнэдыкта»?

*Петэр Зэевальд:* Гэтая пасада нясе з сабой страшэнную нагрузку. Таму часам Папа можа дазволіць сабе быць крыху стомленым. Але ён валодае ўменнем аднаўляць сябе ў адзін момант, нібы акунаючыся ў крыніцу вечнай маладосці. Яшчэ будучы школьнікам, Ёзаф Ратцынгер адрозніваўся асаблівай цярплівасцю, дысцыплінаванасцю, руплівасцю і перадусім эфектыўнасцю ў працы. Ён не займаўся ніякім спортам, але прытрымліваўся пэўнага рытму ў працы, малітве і аднаўленні сілаў, кіруючыся парадай Езуса: «Хопіць кожнаму дню свайго клопату», — тое, што будзе на наступны дзень, убачым заўтра. Шчыра кажучы, я ведаю няшмат людзей, якія знаходзяцца ў такой добрай форме, такія працаздольныя і высокапрадукцыйныя, бадзёрыя і цікаўныя, а таксама, у пэўным сэнсе, такія маладыя і сучасныя, як гэты з выгляду стары ўжо мужчына на Пятровым пасадзе. Ягонае жыццё ў Божых руках, як і жыццё кожнага чалавека. Але я магу добра ўявіць, што і ў наступныя пяць гадоў мы будзем сведкамі таго, як і надалей гэты вельмі энергічны Папа, які валодае незвычайным прароцкім дарам, будзе паказваць нам праўдзівы шлях.

*Kath.net:* Вялікі дзякуй за інтэрв'ю!

*Пераклад з нямецкай мовы Ірыны Бурак.*
*Паводле http://www.kath.net/detail.php?id=29016*

Айцец Пётр Рудкоўскі ОП

# ХАЙ СЫДЗЕ ДУХ ТВОЙ І АДНОВІЦЬ АБЛІЧЧА ГЭТАЙ ЗЯМЛІ!

*Кожны і кожная павінны прыкласці намаганне*
*дзеля выпраўлення сітуацыі ў адпаведнасці са сваім становішчам,*
*інакш зло, якое ўжо і так стала вялікім,*
*у выніку адтэрміноўкі стане зусім невылечным.*

Леў XIII, *Rerum novarum*, 62.

*Аднаўляйцеся ў мысленні вашым!* — заклікае аўтар Паслання да Эфесцаў (пар. Эф 4, 23). Аднаўленне мыслення ў біблейным разуменні — гэта перадусім прачытванне знакаў, якія паходзяць ці то з вонкавага, ці ўнутранага свету, прачытванне ў святле Божай мудрасці.

Месяц май бягучага года аказаўся асабліва «цяжарны» знакамі, якія падлягаюць духоўнаму прачытанню. Беатыфікацыя Яна Паўла II (1 мая), 20-я гадавіна выдання энцыклікі *Centesimus annus* (таксама 1 мая), 50-я гадавіна энцыклікі *Mater et Magistra* (15 мая) і 120-я гадавіна фундатарскай для сацыяльнага навучання як асобнай дысцыпліны энцыклікі *Rerum novarum* (таксама 15 мая) — усё гэта ўтварыла ўзаемазвязаны «комплекс знакаў» з глыбокай семантыкай. Што яшчэ? А яшчэ 30-я гадавіна пакушэння на жыццё Яна Паўла II (13 мая).

Супадзенне дня беатыфікацыі Яна Паўла II і круглай гадавіны выдання ягонай энцыклікі, прысвечанай грамадскай этыцы, як нішто лепей прадпісвае спосаб перажывання гэтай падзеі. Зварот да багаслоўскай і этыка-філасофскай спадчыны благаслаўлёнага пантыфіка можа стацца ці не найлепшым спосабам ушанавання яго як нябеснага заступніка.

Што ж, паспрабуйма аднавіцца ў мысленні нашым.

* * *

***Першы акт аднаўлення:***
**адкрыцца на Духа Святога**

У чэрвені 1979 года папа Ян Павел II прыбыў у Польшчу, любую сваю Айчыну, якая ў той час была зняволеная камуністычным рэжымам. Савецкае кіраўніцтва на чале з Брэжневым было катэгарычна супраць. Тагачасныя польскія ўлады вырашылі ўсё ж дазволіць Папу наведаць Бацькаўшчыну, бо забарона азначала б для іх сур'ёзную кампраметацыю ў вачах насельніцтва і быццё пасмешышчам для міжнароднай супольнасці. Аднак, дазволіўшы, распачалі энергічную прапаганду, скіраваную на тое, каб стварыць чорны вобраз Яна Паўла II. За тры месяцы да прыбыцця Пантыфіка ўлады разаслалі сярод настаўнікаў патаемную інструкцыю, дзе гаварылася адкрытым тэкстам:

«*Папа з'яўляецца нашым ворагам... Дзякуючы незвычайным здольнасцям і вялікаму пачуццю гумару ён небяспечны, бо здольны зачараваць кожнага, асабліва журналістаў. Апроч таго, у кантакце з натоўпам любіць выкарыстоўваць танныя прыёмы, напр., апранае гуральскі капялюш, падае ўсім руку, цалуе дзяцей і г.д. Капіруе стыль амерыканскіх прэзідэнцкіх кампаній*»[1].

Гэтай цытаты дастаткова, каб усвядоміць, што першая (гэтаксама як і наступныя тры) пілігрымка Яна Паўла II у Айчыну была не столькі «трыумфальным вяртаннем», колькі самым што ні ёсць сапраўдным крыжовым шляхам. Трэба было прайсці праз калючы дрот прымітыўных інтрыгаў савецкага кіраўніцтва і панасіць на галаве цярновы вянок ядавітай прапаганды, які няспынна плялі як савецкія, так і «айчынныя» пээрэлеўскія ідэолагі.

Што сказаў або зрабіў Ян Павел II у адказ?

Прыбыўшы на сваю Айчыну 2 чэрвеня 1979 г., падчас першай у рамках візіту Імшы на плошчы Перамогі ў Варшаве Папа пра-

**Айцец Пётр РУДКОЎСКІ ОР** — багаслоў, філосаф. Нарадзіўся ў 1978 г. у мястэчку Канвэлішкі, на Гродзеншчыне. У 2000 г. уступіў у дамініканскі ордэн. Абараніў магістарскую дысертацыю па багаслоўі ў дамініканскім калегіуме ў Кракаве і па філасофіі ў Ягелонскім універсітэце. У 2010 г. прыняў святарскае пасвячэнне. Займаецца сацыяльнай этыкай і метадалогіяй навук, выкладае логіку і метадалогію ў Еўрапейскім гуманітарным універсітэце. Аўтар кніг «Паўстаньне Беларусі», Вільнюс, 2007 г., і «Białoruska idea narodowa w XXI wieku», Люблін, 2008 г. і шматлікіх артыкулаў.

мовіў прарочыя словы:

*«Клічу з глыбіні гэтага тысячагоддзя; клічу напярэдадні свята Спаслання, клічу разам з вамі ўсімі: Хай сыдзе Дух Твой!*

*Хай сыдзе Дух Твой і адновіць аблічча зямлі! Гэтай зямлі».*

Духа нянавісці, варажнечы, хлусні трэба перамагаць пры дапамозе Духа Святога, Духа любові, міру і праўды. Перад хлуснёй і нянавісцю, асабліва калі яны маюць «сістэмны» характар, нельга ні ў якім разе капітуляваць і замыкацца ў нары баязлівай абыякавасці і страху. Трэба ўзброіцца моцаю Духа Святога і адважна кідаць выклік злачынным сістэмам і паталагічным ідэалогіям. Іншага выйсця, дарэчы, няма: можна альбо служыць праўдзе і ўзрастаць у Духу Святым, альбо ўцякаць ад гэтага служэння і тым самым духоўна дэградаваць.

### *Другі акт аднаўлення:* палюбіць «гэтую» зямлю

Ян Павел II быў вялікім крытыкам «абстрактнага» служэння чалавеку, г.зн. ператварэння служэння ў прыгожую рытарычную фігуру, за якой амаль нічога не стаіць. Кажучы пра пакліканне Касцёла абараняць чалавечую годнасць, ён з націскам падкрэслівае, што

*«...гаворка йдзе не пра „абстрактнага" чалавека, а менавіта пра рэальнага, „канкрэтнага" і „гістарычнага": гаворка йдзе пра* кожнага чалавека, *паколькі кожны ахоплены Таямніцай Адкуплення і з кожным Хрыстус злучыўся назаўсёды праз гэту таямніцу»*[2].

Так, лёгка крытыкаваць або асуджаць злачынцаў з іншай эпохі або з іншага кутка свету, але няпроста бывае выступіць з крытыкай прыніжэння годнасці чалавека *тут і цяпер*. Пераход ад служэння «абстрактнаму» чалавеку да служэння «канкрэтнаму», «гістарычнаму» — гэта складаны, але неабходны этап духоўнага аднаўлення. Ад гэтага пераходу залежыць «быць або не быць» аднаўленню.

Пабачыць і палюбіць *канкрэтную*, «гэтую» зямлю — асобны выпадак таго самага пастулату. Зямля спакон веку сімвалізавала *еднасць чалавечага досведу* ў працягу многіх стагоддзяў. Чалавек мае натуральную патрэбу пераступаць межы ўласнага веку і праз сімвалы, традыцыі, культурныя коды яднацца са шматвяковым досведам пэўнай супольнасці. І Касцёл абавязаны дапамагчы чалавеку ў гэтым яднанні.

### *Трэці акт аднаўлення:* перастаць хлусіць і падтрымліваць хлусню

Адзін дамініканец, Мацей Земба, былы правінцыяльны прыёр Польскай правінцыі дамініканцаў, прыгадваючы першую пілігрымку Яна Паўла II на Айчыну (Земба быў тады студэнтам фізічнага факультэта), вызнае наступнае: «Калі я пачуў тыя словы на плошчы Перамогі: *Хай сыдзе Дух Твой і адновіць аблічча гэтай зямлі*, то ўсвядоміў, што нешта павінна змяніцца. І што змена пачнецца з мяне самога: магчыма, нам давядзецца жыць і паміраць пад уладай камунізму. Але цяпер я хацеў жыць так, каб не быць хлусам»[3].

Ёсць два ключавыя моманты ў гэтым вызнанні:

*1) змена пачнецца з мяне самога.* Гэта сапраўды істотны момант. Да той пары, пакуль мы думаем, што нехта іншы або нешта іншае павінна змяніцца, каб адбыліся сістэмныя перамены, то мы — у пройгрышы.

*2) «... Цяпер я хацеў жыць так, каб не быць хлусам».* Першы крок ва ўнутраным перамяненні, навяртанні — гэта перастаць хлусіць і пагаджацца з хлуснёй.

У энцыкліцы *Centesimus annus* Папа ў сваім маральным аналізе працэсаў, якія мелі месца напрыканцы 80-х пачатку 90-х у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе, выяўляе вялікую моц паслядоўнага процістаяння хлусні:

*«Здавалася, што еўрапейскі парадак, які замацаваўся з часоў Другой сусветнай вайны і быў санкцыянаваны ялцінскімі пагадненнямі, можа пахіснуць толькі вайна. Тымчасам ён быў пераадолены намаганнямі людзей, якія не прыбягалі да насілля, але, не пагаджаючыся адступаць перад сілавымі аргументамі, заўжды ўмелі знайсці эфектыўныя спосабы сведчання праўды. Такая пазіцыя раззброіла праціўніка, бо насілле заўжды змушана апраўдвацца пры дапамозе хлусні, змушана прыкідвацца, што яно нібыта абараняе чыесьці правы альбо з'яўляецца ўсяго толькі рэакцыяй на нейкую пагрозу»*[4].

* * *

«Дзе Дух — там свабода», — гаворыць св. Павел (пар. 2 Кар 3, 17). Сыход Духа Святога, узаемадзеянне з Духам у справе аднаўлення «аблічча зямлі» і ўнутранае перамяненне — вось евангельскі алгарытм вызвалення. Хрысціянскае сацыяльнае навучанне — гэта, можна сказаць, «метэаралагічная» дысцыпліна, якая вывучае «павевы Духа» і фармулюе пастулаты іх аптымальнага выкарыстання.

Было б дрэнна, калі б мы занядбалі «павевы», якія адзін за адным з'явіліся ў гэты перыяд (беатыфікацыя, гадавіны сацыяльных энцыклік). У вэрхале featureознага роду «крызісаў» і «абвалаў» гучыць нягромкі голас Святога Духа. Як паказвае жывы прыклад благаслаўлёнага Яна Паўла II, будучыня належыць тым, хто слухае гэты голас.

---

1. Цыт. паводле: Джордж Вайгель. *Иоанн Павел II*. Книга 1. – Москва: Издательство Act, 2001. – С. 464.
2. *Centesimus annus*, пункт 53. Гл. таксама: *Redemptor hominis*, пункт 13.
3. З размовы Дж. Вайгеля з М. Зембам 10 верасня 1991 г. (Выказванне прыведзена паводле вышэйцытаванай кнігі Дж. Вайгеля).
4. *Centesimus annus*, 23.

Ксёндз Аляксей Юркайць

# ПОГЛЯД У МІНУЛАЕ З ДУМКАЙ АБ СУЧАСНАСЦІ

Энцыкліка Яна Паўла II «CENTESIMUS ANNUS» была напісана 1 мая 1991 года, у сотую гадавіну напісання папам Львом XIII энцыклікі «RERUM NOVARUM», якая атрымала прывілей высокаацэненага дакумента. Святы Айцец Ян Павел II называе яе «несмяротным дакументам», які распачаў фармаванне сацыяльнага навучання Касцёла, а яго энцыкліка «CENTESIMUS ANNUS» з'яўляецца падзякай Богу за сотую гадавіну яе сыходу з трону Апостальскай Сталіцы. Энцыкліка «CENTESIMUS ANNUS» — гэта трэцяя сацыяльная энцыкліка Яна Паўла II пасля «LABOREM EXERCENS» — гэта трактат аб людской працы, і «SOLLICITUDO REI SOCIALIS» — аб актуальных праблемах развіцця людзей і народаў. Святы Айцец заклікае перачытаць энцыкліку папы Льва XIII, каб «зазірнуць у будучыню» — у тады яшчэ не вядомае трэцяе тысячагоддзе. Ян Павел II паказвае ў сваёй энцыкліцы плённасць прынцыпаў дактрынальнай спадчыны Касцёла, выказаных папам Львом XIII, і дае асабісты аналіз некаторых падзеяў сучаснай гісторыі.

У мінулую эпоху адбываліся розныя перамены ў палітычным, эканамічным і ў сацыяльным жыцці. У выніку гэтых зменаў узнікла новая канцэпцыя ўлады — таталітарызм як новая форма несправядлівасці і зняволення ў грамадстве. У эканамічнай сферы ўзнікла новая форма маёмасці — капітал, і новая форма працы — наёмная праца. Праца стала падпарадкоўвацца адзінай мэце — росту прыбытку, і стала такім чынам таварам, які можна лёгка купіць ці прадаць, не беручы пад увагу пражытачны мінімум для існавання чалавека. А з другога боку, над чалавекам увесь час вісела пагроза беспрацоўя. У выніку гэтага адбывалася расслаенне грамадства на два класы: працоўны клас і клас эксплуататараў-працадаўцаў. У кульмінацыйны момант іх супрацьстаяння ў шматлікіх краінах рэзка выявілася несправядлівасць сацыяльнай рэчаіснасці і пагроза рэвалюцыі. І менавіта ў гэты час папа Леў XIII выдаў дакумент, у якім радыкальна паставіў «працоўнае пытанне». «Новыя рэчы», якія ён меў на ўвазе, не былі станоўчымі — адбываўся канфлікт паміж працай і капіталам. У гэтым «працоўным пытанні», якое ўвасаблялася ў імкненні адных выжыць, а другіх — пабагацець, Святы Айцец не мог маўчаць у сілу свайго «апостальскага служэння». Папа Леў XIII меў намер усталяваць сваёй энцыклікай супакой і гармонію, асновай якіх ёсць справядлівасць у эканамічнай і сацыяльнай сітуацыі, і сфармуляваў дактрынальны corpus, дактрынальную канцэпцыю «грамадскіх правоў». У наш час «новая евангелізацыя» павінна зрабіць неад'емным сваім элементам абвяшчэнне сацыяльнага вучэння Касцёла, пацвярджаючы фундаментальныя правы і годнасць працоўных. Праца з'яўляецца рэалізацыяй паклікання кожнай асобы і мае сацыяльнае вымярэнне, бо мае сувязь з сям'ёй і сацыяльным дабром усяго грамадства. Другі важны прынцып — гэта права на прыватную ўласнасць, права мець усё неабходнае для асабістага развіцця і развіцця сваёй сям'і. У лучнасці з правам на прыватную ўласнасць Папа ўказвае і на права заснавання асабістых аб'яднанняў, прафесійных саюзаў. Дзяржава павінна прызнаваць і права на «абмежаванне працоўнага часу», каб працаўнікі мелі законны адпачынак і час для сям'і. «Несправядліва і бесчалавечна прыгнятаць людзей празмернай працай, каб прытуплялася іх свядомасць, а цела падала ад бяссілля»[1]. Святы Айцец акрэслівае і іншае права працаўніка як асобы — права на «справядлівы заробак», каб працадаўца выплачваў заробленую плату і не заставаўся «даўжніком». Да пералічаных правоў папа Леў XIII дадае вельмі важнае права свабодна выконваць рэлігійныя абавязкі, якія належаць выключна да асабістай сферы, асабліва неабходнасць нядзельнага адпачынку, каб чалавек скіраваў свае думкі да нябесных дабротаў і малітвы. Гэтае права мае крыніцу ў Божай запаведзі, і ніякая дзяржаўная ўлада не можа адмяніць абавязак перад Богам і абразіць чалавечую годнасць. У энцыкліцы «RERUM NOVARUM» востра крытыкуюцца дзве сацыяльныя і эканамічныя сістэмы: сацыялізм і лібералізм. Папа Леў XIII пацвярджае элементарны прынцып любой здаровай палітыч-

**Ксёндз Аляксей Юркайць** — адміністратар парафіі ў в. Мосар. У 2001 г. паступіў у Міждыяцэзіяльную вышэйшую духоўную семінарыю імя св. Тамаша Аквінскага ў Пінску. У 2008 г., скончыўшы яе, абараніў магістэрскую працу ў Люблінскім каталіцкім універсітэце. У 2009 г. прыняў святарскае пасвячэнне.

най арганізацыі жыцця дзяржавы: «чым больш безабароннымі з'яўляюцца асобныя людзі ў грамадстве, тым у большай ступені яны патрабуюць клопату з боку іншых і асабліва дзяржаўнай улады» — гэта прынцып салідарнасці[2]. Сацыяльнае вучэнне Касцёла заклікае да здаровай канцэпцыі прыватнай маёмасці, працы, эканамічнага прагрэсу і правільнай ацэнкі годнасці чалавека, «створанага на вобраз і Божае падабенства» (пар. Быц 1, 26).

Святы Айцец Ян Павел ІІ звязвае свае разважанні з упадкам сусветнага камуністычнага блоку. Ён закранае саму сутнасць праблемы сацыялізму як зла, бо ён (сацыялізм) «разглядае чалавека як просты элемент, малекулу сацыяльнага арганізму, так што дабро індывідуума цалкам падпарадкавана функцыянаванню сацыяльна-эканамічнага механізму»[3]. Таму знікае паняцце асобы, а з'яўляецца бязлікая маса, і гэтая памылка прывяла да адмаўлення ад прыватнай уласнасці. Памылковая канцэпцыя сацыялізму аб прыродзе асобы і «суб'ектыўнасці» грамадства выходзіць з атэізму. Кожны чалавек можа адчуваць кульмінацыю ў ім усяго чалавечага, і ніякі сацыяльны механізм ці калектыўны суб'кт не можа яе замяніць. Адмаўленне Бога, адмаўленне сапраўднай каштоўнасці чалавечай асобы вядзе да адмаўлення збаўлення. З таго ж атэістычнага кораня вырастаюць і класавая барацьба, і мілітарызм, і імперыялізм, якія пагарджаюць асобаю, што вядзе да перавагі прынцыпу моцы над прынцыпам розуму і закону.

Кантроль над сродкамі вытворчасці з боку дзяржавы ператварае кожнага грамадзіна ў маленькую «дэталь» вялікага механізму дзяржавы. Энцыкліка «CENTESIMUS ANNUS» працягвае думку з «RERUM NOVARUM» пра тое, што шляхам дзяржаўных рэформаў трэба вярнуць працы годнасць вольнай дзейнасці чалавека, і дзяржава павінна прыняць на сябе адказнасць за абарону працаўнікоў ад беспрацоўя. Акрамя гэтага, грамадства і дзяржава павінны забяспечыць той узровень заробку, якога б хапала для ўтрымання працоўнага і яго сям'і. Немалую ролю ў гэтым пытанні адыгрываюць прафсаюзы[4].

Рэформы былі часткова здзейсненыя дзяржавамі, але вялікую ролю ў іх здзяйсненні адыгралі акцыі пратэсту працоўных. Гледзячы ў мінулае, Святы Айцец Ян Павел ІІ заклікае падзякаваць Богу за тое, што вялікая энцыкліка папы Льва XIII не засталася без водгуку ў людскіх сэрцах і стала стымулам для дзеяння на карысць бліжняга. Дзякуючы гэтаму можна заўважыць вынік памылкі сацыяльна-эканамічнай сферы, якая крыецца ў канцэпцыі чалавечай свабоды, адарванай ад праўды і абавязку паважаць правы іншых людзей. Зместам такой вольнасці становіцца любоў да самаго сябе ажно да пагарды Богам і бліжнімі. Менавіта гэтая памылка стала вынікам шматлікіх войнаў, выкліканых мілітарызмам і агрэсіўным мілітарызмам, і злучанымі з імі формамі таталітарызму, войнаў, якія сталі вынікам класавай барацьбы, грамадзянскіх і ідэалагічных войнаў[5]. Вялікія дзяржавы не спыняліся перад парушэннем правоў чалавека, плануючы і здзяйсняючы знішчэнне цэлых народаў і сацыяльных груп. Жудасны лёс яўрэйскага народа стаў сімвалам парушэння, да якога можа схіліцца чалавек, супрацьпаставіўшы сябе Богу. Хоць з 1945 года ў Еўропе знік гук гарматных залпаў, сітуацыю можна акрэсліць хутчэй як адсутнасць вайны, чым сапраўдны спакой. Палова кантыненту трапіла ў палон камуністычнай сістэмы, у той час як другая палова арганізоўвалася для абароны ад такой небяспекі. Гонка ўзбраення паглынала рэсурсы, неабходныя для развіцця ўнутранай эканомікі і для дапамогі іншым народам, навуковы і тэхнічны прагрэс выкарыстоўваўся для вытворчасці ўсё больш дасканалай зброі. Між іншым, ідэолагі шукалі дактрынальнага апраўдання для новай вайны. Над сусветам навісала пагроза атамнай вайны, якая магла прывесці да знішчэння ўсяго чалавецтва.

Пасля Другой сусветнай вайны трэба было звярнуць увагу на распаўсюджанне камуністычнага таталітарызму на большай палове Еўропы. Неаднойчы ўтвараліся сістэмы «нацыянальнай бяспекі», якія імкнуліся кантраляваць грамадства, каб засцерагчы яго ад духу камунізму. Спажывецкая супольнасць імкнецца нанесці паражэнне марксізму, дэманструючы грамадства свабоднага рынку, якое ў стане дасягнуць больш поўнага задавальнення матэрыяльных патрэбаў чалавека. У той жа час праходзіць грандыёзны працэс «дэкаланізацыі», калі многія краіны вяртаюць сваю незалежнасць і права суверэнітэту. У пасляваенны час узмацнілася і стала больш жывым усведамленнем правоў чалавека, што знайшло ўвасабленне ў распрацоўцы новага міжнароднага права.

У многіх краінах у сярэдзіне 1980-х гг. паступова сталі рушыцца рэжымы дыктатарства і прыгнёту. Святы Айцец Ян Павел ІІ указвае, што фундаментальная памылка сацыялізму мела антрапалагічны характар[6]. Касцёл сцвярджаў, што кожны чалавек, незалежна ад сваіх поглядаў, нясе ў сабе Божы вобраз, а таму заслугоўвае павагі[7]. Многія пастыры, хрысціянскія супольнасці, асобныя веруючыя, а таксама людзі добрай волі ў цяжкіх умовах далі гераічнае сведчанне сваёй нязломнай хрысціянскай веры. Святы Айцец заклікае да малітвы за тых,

хто стварае лепшую будучыню, вырашаючы праблемы шляхам дыялогу і салідарнасці.

Галоўным фактарам падзення прыгнятальных рэжымаў быў фактар парушэння права на працу. Абапіраючыся на цяжкі вопыт працы, прыгнёту і прынцып сацыяльнай дактрыны Касцёла, працоўныя масы выкарыстоўвалі толькі праўду і справядлівасць, мірным шляхам адмовіліся прызнаваць законную ідэалогію. Такі від барацьбы прывёў да краху марксізму; перамагла праўда, якая сама вызваляе, заклікаючы да сумлення супрацiўніка і імкнучыся ўзбудзіць у ім пачуццё асабістай годнасці. Другім фактарам крызісу стала неэфектыўнасць эканамічнай сістэмы. Гэта быў вынік парушэння правоў чалавека на прадпрымальніцтва, прыватную ўласнасць і свабоду ў эканоміцы. Таксама трэба мець на ўвазе культурны і нацыянальны аспекты, бо нельга разумець чалавека аднабакова. Святы Айцец указвае на прычыну ўзнікнення «новых рэчаў» — гэта духоўны вакуум, народжаны атэізмам, які пазбавіў людзей сапраўдных арыенціраў. Марксізм абяцаў выкараніць патрэбу ў Богу з сэрца чалавека, але ў выніку аказалася, што гэтага немагчыма дасягнуць без душэўнага ўзрушэння.

Здарэнні 1989 года — гэта прыклад поспеху добрай волі да перамоваў і евангельскага стаўлення да супрацiўніка. Гэтыя змены, безумоўна, патрабавалі яснага розуму, умеркаванасці, пакутаў і ахвяраў, яны ўзніклі з малітвы і былі б бессэнсоўнымі без даверу да Бога. Чалавек падуладны першароднаму граху, які схіляе яго да зла, але мае імкненне да дабра. Дзякуючы Ахвяры Хрыста на крыжы Божае Валадарства забяспечвае надзею на перамогу ў барацьбе супраць спакусаў і сілаў зла. Толькі ў канцы гісторыі Пан вернецца ў славе для Апошняга Суда (пар. Мц 25, 31), а пакуль што ідзе барацьба між дабром і злом у сэрцы чалавека. Падзеі 1989 года маюць сусветнае значэнне, хоць і адбываліся пераважна ва Усходняй і Цэнтральнай Еўропе, бо датычаць усёй чалавечай сям'і. Рух за вызваленне асобы і за сцвярджэнне яе правоў ахопліваў шматлікія краіны. Касцёл прадстаўляе сваю сацыяльную дактрыну і мае абавязак барацьбы супраць прыгнёту і пакутаў. Другі вынік датычыць народаў Еўропы, бо накопленая нянавісць і злоба маюць рэальную небяспеку, што пасля крушэння дыктатуры могуць узнікнуць новыя канфлікты і непаразуменні, калі на дапамогу не прыдуць маральная стойкасць і ўсведамленне праўды. Святы Айцец падкрэслівае, што для гэтага патрэбныя адпаведныя крокі для стварэння і ўмацавання моцных міжнародных структураў. Радыкальная рэарганізацыя эканомікі патрабуе падтрымкі былых камуністычных краінаў у духу салідарнасці ў цяжкасцях іншых народаў. У першую чаргу, яны самі павінны стаць творцамі свайго развіцця, але падтрымка з боку іншых еўрапейскіх краінаў — гэта абавязак справядлівасці. Неабходна мабілізаваць усе рэсурсы, якія мае сусвет, каб перaразмеркаваць прыярытэты і перагледзець іерархію каштоўнасцяў. Гэтае развіццё не павінна разумецца толькі ў эканамічным сэнсе, але ў сэнсе агульначалавечым[8]. Кульмінацыяй развіцця з'яўляецца здзяйсненне права абавязку шукання Бога і жыцця паводле Яго пазнання.

Прынцып прыватнай уласнасці ляжыць у аснове незалежнасці і развіцця кожнай асобы. Карыстанне ўласнасцю падпарадкавана агульнаму прадвызначэнню створаных даброт. Другі Ватыканскі Сабор кажа: «Чалавек, карыстаючыся дабротамі павінен разглядаць іх як належачыя не толькі яму, але і іншым; карыстанне імі дае асабістую і сямейную незалежнасць і свабоду і дапамагае ў развіцці»[9]. Бог даў чалавеку зямлю, каб ён панаваў над ёй сваёй працай і карыстаўся яе плёнамі (пар. Быц 1, 28–29). З гэтага вынікае, што даброты зямлі маюць агульнае прызначэнне. Робячы зямлю падданай сабе, чалавек мае права на прыватную ўласнасць. Чым больш чалавек працуе, тым больш можа адкрыцца на патрэбы іншага чалавека. Чалавек не адарваны ад супольнасці і ўдзельнічае ў «супольнай працы»[10]. Сутнасць такой працы ў арганізацыі вытворчасці даброт, якія могуць быць вынікам супрацоўніцтва пэўнай групы людзей. Існуюць і іншыя віды ўласнасці — валоданне ведамі, тэхнікай і навыкамі. Галоўным жа багаццем чалавека і яго працы ёсць сам чалавек.

Калісьці вырашальным фактарам вытворчасці была зямля, пазней — капітал, а цяпер — сам чалавек, яго здольнасць да пазнання, да салідарнай арганізацыі, здольнасць прадбачыць і задавальняць патрэбы іншага. У гэтым працэсе ёсць рызыка, што не кожны можа рэалізаваць свае здольнасці. Працуючы на зямлі, чалавек часта пазбаўлены права валодання ёю і зведзены да паўрабскага існавання. У кантэксце «трэціх» краінаў захоўвае сваю актуальнасць вырашэнне задачаў, пастаўленых «RERUM NOVARUM», пазбегнуць адносінаў да чалавека і да яго працы як да тавару. Касцёл прызнае законную функцыю прыбытку як паказчыка развіцця прадпрыемства і рэгулятару яго працы. Чалавеку трэба звярнуць сваю ўвагу не толькі на наяўнасць тавару, але і на яго якасць. Патрабаванне якасці — законнае жаданне, аднак спажывецкі стыль жыцця недапушчальны і шкодны для фізічнага і духоўнага жыцця. Таму вельмі неабходна выхаваўчая

праца, якая прывучае спажыўца да адказнага выкарыстання магчымасці выбару якасці. «Няма нічога дрэннага ў жаданні жыць лепш, аднак не трэба накіроўваць усе імкненні, каб мець, але кіравацца тым, каб быць»[11]. Святы Айцец заклікае да дзялення хоць бы мінімумам, «лішкамі» і заклікае да міласэрнасці. Чалавек, адкрываючы свае здольнасці, змяняе гэты свет, першапачаткова Божы дар, да лепшага, але, захоплены жаданнем мець і атрымліваць, неразумна расходуе зямныя рэсурсы і ўласнае жыццё.

Святы Айцец Ян Павел II услед за навучаннем папы Льва XIII, разумее праўдзівую тэорыю дзяржавы, у якой забяспечана нармальнае развіццё розных відаў чалавечай дзейнасці, як духоўнай, так і матэрыяльнай. Аднак культура і практыка таталітарызму адкідаюць погляды Касцёла. Дзяржава лічыць, што яна мае права вырашаць усе пытанні самастойна. Касцёл станоўча ацэньвае дэмакратычную сістэму ў той меры, у якой яна забяспечвае ўдзел грамадзянаў у палітычным выбары. Праўдзівая дэмакратыя магчыма толькі ў прававой дзяржаве і на аснове праўдзівай канцэпцыі чалавечай асобы. Галоўная задача дзяржавы — гарантаваць эканамічную стабільнасць, каб чалавек меў упэўненасць у заўтрашнім дні, мог карыстацца плёнам сваёй працы і адчуваў стымул да яе. Другой задачай дзяржавы з’яўляецца захаванне і абарона правоў чалавека ў эканамічным сектары праз пасрэдніцтва кантралюючых органаў. Дзяржава павінна спрыяць дзейнасці прадпрыемстваў і кардынаваць яе, а не толькі кантраляваць. Таксама не трэба забываць аб умовах існавання бежанцаў, эмігрантаў, асобаў старэйшага ўзросту, хворых і ўсіх, каму патрэбныя дапамога. Касцёл заўсёды ўдзельнічае ў гэтым і дапамагае церпячым. Пошукамі, адкрытымі на праўду, характарызуецца культура ўсёй нацыі, у якую ўваходзіць і евангелізацыя. Але, калі культура замыкаецца толькі ў сабе, не прымаючы праўды пра чалавека, яна становіцца бясплённай і вядзе да ўпадку. Уся чалавечая дзейнасць рэалізуецца ўнутры пэўнай культуры і ўзаемадзейнічае з ёю. Першая і самая важная дзейнасць адбываецца ў чалавечай душы, і той спосаб, якім яна карыстаецца для стварэння сваёй будучыні, залежыць ад яго ўяўлення аб самім сабе і сваім прадвызначэнні. Святое Пісанне кажа нам аб актыўнай дапамозе бліжняму і аб неабходнасці адказнасці за іншага, якая павінна ахопліваць усіх людзей. Гэтае патрабаванне не абмяжоўваецца толькі рамкамі сям’і, нацыі ці дзяржавы, а ахоплівае ўсё чалавецтва. Гэта шлях альтэрнатыўны войнам.

Чалавек — адзінае стварэнне, для якога адкрыты ўдзел у вечным жыцці. Касцёл не можа змусіць чалавека, які «прадстаўляе найважнейшы шлях, які павінен прайсці Касцёл, каб споўніць сваю місію...» Гэтая думка ажыўляе сацыяльнае навучанне Касцёла як каштоўную зброю евангелізацыі, абвяшчаючы таямніцу збаўлення ў Езусе Хрысце кожнаму чалавеку. Касцёл атрымлівае «веды аб чалавеку» з Божага Аб’яўлення. Як казаў папа Павел VI: «Каб пазнаць чалавека, сапраўднага чалавека ва ўсёй яго цэласнасці, трэба пазнаць Бога». Багаслоўскі аспект з’яўляецца неабходным як для тлумачэння, так і для вырашэння актуальных праблемаў чалавечай экзістэнцыі. Гэты погляд мае сілу для «атэістычнага» рашэння, якое пазбаўляе чалавека аднаго з асноўных яго кампанентаў — духоўнага. Калі чалавеку абвяшчаецца Божае слова, тады яму прапануецца і перадаецца праз сакрамэнты Божае жыццё, калі яго жыццё накіроўваецца да захавання запаведзі любові да Бога і бліжняга, тады Касцёл уносіць свой уклад ва ўзбагачэнне годнасці чалавека.

Святы Айцец Ян Павел II асаблівым чынам заклікае пазнаёміцца са сваёй энцыклікай у краінах, дзе адбылося падзенне «рэальнага сацыялізму» і існуе шмат цяжкасцяў для аднаўлення. Для Касцёла сацыяльная вестка Евангелля не павінна быць тэорыяй, бо на працягу многіх стагоддзяў манахі апрацоўвалі зямлю, засноўвалі шпіталі і прыстанішчы для бедных, займаліся дабрачыннасцю, бо сказана: тое, што «зрабілі вы аднаму з гэтых братоў Маіх найменшых, тое Мне зрабілі» (пар. Мц 25, 40). Любоў да чалавека і ў першую чаргу да беднага, у якім Касцёл бачыць Хрыста, канкрэтызуецца ў барацьбе за справядлівасць. Каб запанавала справядлівасць, патрэбны дар Божай ласкі. Божая ласка і чалавечая свабода складаюць тую таямнічую прысутнасць Бога ў гісторыі, якім з’яўляецца Божы Провід.

Энцыкліка «CENTESIMUS ANNUS», гледзячы на мінулае, звернута ў будучыню. Праўдзівая і вечная «навізна рэчаў» ідзе ад Божай моцы, якая кажа: «Вось, Я раблю ўсё новае» (пар. Адкр 21, 5). Гэтыя словы адносяцца да апошніх часоў гісторыі, калі Хрыстус «перадасць валадарства Богу, каб Бог быў усім ва ўсіх» (пар. 1 Кар 15, 24. 28).

---

[1] Пар. Ян Павел II, энцыкліка *Centessimus Annus* (1 мая 1991 г.), 7.
[2] Тамсама, 11.
[3] Тамсама, 13.
[4] Тамсама, 15.
[5] Тамсама, 17.
[6] Тамсама, 13.
[7] Тамсама, 22.
[8] Тамсама, 29.
[9] Пар. II Ватыканскі Сабор, Пастырская канстытуцыя пра Касцёл у сучасным свеце. *Gaudium et spes*, 69. 71.
[10] Пар. Ян Павел II, энцыкліка *Centessimus Annus* (1 мая 1991 г.), 31–32.
[11] Тамсама, 36.

Іван Крамской. Хрыстус у пустыні.
1872 г. Палатно, алей. 180х210.
Масква, Траццякоўская галерэя.



# Іван Крамской. Хрыстус у пустыні

Пецярбургскі мастацтвазнаўца Раіса Уласава пісала пра мастака: «Роля, якую адыграў у развіцці рускага рэалістычнага мастацтва Іван Мікалаевіч Крамской, сапраўды велізарная. Вялікі талент мастака спалучаўся ў яго з выдатным дарам тэарэтыка мастацтва. Ясны аналітычны розум, моцная любоў да мастацтва і айчыны, паслядоўны дэмакратызм поглядаў — выразныя рысы Крамскога»[1].

Іван Мікалаевіч Крамской (1837—1887) нарадзіўся ў горадзе Астрагожску Варонежскай губерні, у сям'і пісара. Ён рана застаўся сіратой і цяжка працаваў з дзяцінства. Талент рысавальшчыка дазволіў яму ўладкавацца рэтушорам у фотамайстэрні ў Харкаве, а потым у Пецярбургу. У 1857 годзе юнак паступіў у Імператарскую Акадэмію мастацтваў вучнем прафесара Маркава. Ужо ў маладыя гады праявіліся лідарскія якасці І. Крамскога. Менавіта ён быў ініцыятарам знакамітага «бунтуа 14-ці»: чатырнаццаць лепшых выпускнікоў акадэміі адмовіліся ад выканання праграмы на вялікі медаль (сённяшняй мовай — дыпломнай работы) на зададзеную тэму з скандынаўскай міфалогіі і запатрабавалі свабоднага выбару тэмы. 9 лістапада 1863 года маладыя таленты на чале з Іванам Крамскім увайшлі ў залу паседжанняў акадэмічнай рады і сталі насупраць абвешаных ордэнамі фарысеяў ад мастацтва, якія давялі пецярбургскую акадэмію да стагнацыі. «Калі б такое здарылася раней, то вас бы ўсіх у салдаты!» — гукнуў акадэмік Тон. Атрымаўшы адмову, мастакі пакінулі акадэмію. Гэты эпізод не зашкодзіў, аднак, Івану Крамскому атрымаць званне акадэміка ў 1869 годзе. Дэмакратычныя памкненні мастака выявіліся таксама ў ягонай грамадскай дзейнасці. Менавіта І. Крамской быў ідэолагам і адным з галоўных арганізатараў у 1870 годзе Таварыства перасоўных мастацкіх выставак, першага ў сваім родзе прафесійнага аб'яднання мастакоў-аднадумцаў. Выстаўкі Таварыства пераязджалі з аднаго горада ў другі, далучаючы мноства людзей да мастацтва.

Найвышэйшыя дасягненні Івана Крамскога — гэта ягоныя партрэты. Самы лепшы з партрэтаў Льва Талстога, у якім перададзены характар генія літаратуры, быў намаляваны І. Крамскім у 1873 годзе. Партрэты мастакоў І. Шышкіна, Ф. Васільева, селяніна Міны Маісеева сведчаць аб майстэрстве мастака-псіхолага, выдатнага рысавальшчыка і кампазітара (майстра кампазіцыі). І памёр мастак з пэндзлем у руках, працуючы над чарговым партрэтам, у маладым творчым узросце, маючы ўсяго 50 гадоў, у росквіце таленту. Але ён паспеў выхаваць цэлую плеяду маладых творцаў. Дарэчы, ягоным вучнем быў Ілья Рэпін, вялікі мастак рэалізму.

Савецкае мастацтвазнаўства (прыслужніца пануючай ідэалогіі) увесь час не ведала, што рабіць з творамі І. Крамскога на хрысціянскую тэму. Аўтары (хутчэй за ўсё, пад уплывам цэнзуры і самацэнзуры) паведамлялі, што «Хрыстус тут ні пры чым, мастак апавядаў пра дэмакратаў, сваіх сучаснікаў». Антынавуковасць і неадэкватнасць гэтага хліпкага тэзісу не вытрымлівае ніякай крытыкі. Нічога дзіўнага, у тыя дзесяцігоддзі царква ў будынку Акадэміі мастацтваў у Ленінградзе была ператворана ў клуб для забаваў і афіцыйных сходаў. Толькі цяпер спадчына Івана Крамскога атрымала сапраўдную ацэнку і належнае месца ў скарбонцы гісторыі мастацтва.

Творчасць і асоба І. Крамскога не ўкладаюцца ў традыцыйную мадэль так званага крытычнага рэалізму і ў рамкі амплуа дэмакрата-разначынца. Паводле мадэлі і амплуа, гэтыя людзі, мякка кажучы, не былі вернікамі. І нават калі разглядаць кантэкст тагачаснага еўрапей-

скага мастацтва, то адбываўся паўсюдны адыход мастакоў ад хрысціянскай тэмы. Лібералізм і сацыялізм лічыліся перадавымі ідэямі, на іх будавалася міфічная вера «ў лепшую будучыню». А тут раптам не маргінальны акадэміст-святоша, а лідар дэмакратычнага руху ў расейскім мастацкім жыцці прысвячае свой твор Хрысту. Твор, які назаўжды застанецца яркім сведчаннем глыбокай і шчырай веры мастака. Зразумела, што ён быў задуманы і выкананы паводле правілаў станковага жывапісу і гарманічна ўключаецца ў музейную экспазіцыю. Але ўявіце сабе палатно І. Крамскога як алтарную карціну ў касцёле — якая гэта была б моц і хвала Пану Богу! Па-рознаму каментавалі карціну сучаснікі мастака. А Ільля Рэпін, напрыклад, падае супярэчлівыя звесткі пра адносіны Івана Крамскога да афіцыйнай царкоўнай дактрыны. Але толькі Божы дар, толькі натхненне маглі спарадзіць гэты твор.

Карціна «Хрыстус у пустыні» прысвечана пераломнаму моманту ў жыцці Збаўцы, калі Ён аддаляецца ад людзей і існуе ў пустыні, ва ўладзе малітвы і роздуму над сваім далейшым шляхам. Усе даследчыкі напісалі пра першы няўдалы вопыт мастака ў вырашэнні гэтай тэмы. І. Крамской паспрабаваў выкарыстаць вертыкальную кампазіцыю, але зразумеў, што карціна не атрымліваецца. Пасля замежнага творчага падарожжа, узбагачаны ўражаннямі ад шэдэўраў хрысціянскага жывапісу, мастак кардынальна мяняе кампазіцыю і абірае гарызантальны фармат. Па гарызанталі кампазіцыя палатна падзелена на дзве роўныя часткі: бясконцая прастора неба і бясконцая прастора суровай пустыні. Хрыстус належыць абедзвюм стыхіям, і сімволіка ніяк не супярэчыць рэалістычнай канцэпцыі жывапіснага выканання. Фігура Хрыста паказана не ў самым цэнтры кампазіцыі, яна ссунута крыху ўправа, што надае пэўны дынамізм гэтай строга статычнай кампазіцыйнай канструкцыі. Але цэнтр (перасячэнне дыяганаляў палатна) моцна замкнёны выявай сціснутых рук Хрыста — разам з Ягоным тварам гэта таксама адзін з цэнтраў вобразнага ладу карціны. Сапраўды, кампазіцыйнае вырашэнне і рысунак бяруць на сябе асноўны цяжар стварэння вобразу. Па каларыце карціна проста мінімалісцкая. Але як яшчэ распавесці пра аскезу, пра самаахвярны выбар Боскага шляху?

Хрыстус сядзіць на вялікім камяні. У прыгнечанай Яго фігуры, у схіленай галаве — ва ўсім сілуэце — чытаецца вострае перажыванне, адлюстроўваецца Яго спакутаваная душа. Развітальнае святло сонца, якое апускаецца за далягляд за вялікімі камлыгамі, асвятляе краявід за плячыма Хрыста. Аднак на фоне вечаровага неба ясна бачны не толькі сілуэт постаці, але і твар Сына Божага. У апушчаных долу вачах ёсць вялікі чалавечы боль ад драматычнага выбару зямнога шляху. Менавіта чалавечая сутнасць Хрыста, далучанасць Яго да людскога існавання найбольш выявіліся ў карціне рускага рэаліста. Не выпадкова сучаснікі мастака так востра ўспрынялі гэты ачалавечаны вобраз. Афіцыёз убачыў у карціне парушэнне кананічных правілаў і пагрозу для сябе, людзі дэмакратычных поглядаў, моладзь убачылі героя свайго часу, барацьбіта за народнае шчасце. Як заўсёды адбываецца з сапраўдным мастацтвам, сваё, новае прачытанне твора Івана Крамскога робіць кожнае пакаленне...

Падпарадкоўваючыся волі Айца, Хрыстус абірае шлях самаахвярнага выкуплення чалавецтва. Не адчай і не страх пануюць у Ягоным сэрцы. Ён ужо прыняў сваё рашэнне. Мы дазволім сабе выказаць менавіта такую трактоўку вобраза, хаця большасць каментатараў пісалі пра тое, што Хрыстус паказаны ў карціне на ростанях, апанаваны сумнівам. Хрыстус Крамскога пераадольвае сваю чалавечую слабасць і гатовы ісці па *Via Crucis* да свайго трыумфу. На наш погляд, пра гэта сведчыць і краявід, які з'яўляецца вельмі важнай часткай карціны. За плячыма Хрыста — ужо ў мінулым! — хаос разламанай каменнай пароды. А перад ім — у будучыні — няроўная, нягладкая, але адкрытая дарога, па якой Ён будзе крочыць. У пустынных далячынях гусцее чарната змроку. Але проста над роўняддзю цёмнай пустыні трапяткімі, такімі жывымі рысамі цягнуцца празрыстыя воблакі і кранае далягляд лёгкае ружовае святло, якое ёсць водгукам глыбокай чырвані шатаў Хрыста.

Рэалізм аказаўся не чужым хрысціянскаму ідэалу. Вера не пакінула мастака авангардных мастацкіх і грамадскіх поглядаў. Карціна Івана Крамскога стала яркай з'явай рускага мастацтва другой паловы XIX стагоддзя, адной з першых спробаў сучаснага асэнсавання несмяротнай тэмы.

*Валеры Буйвал*

[1] История русского искусства. Под ред. В.И. Плотникова. – Москва, 1980. – С. 123.

**Валеры Буйвал** — мастацтвазнаўца, перакладчык. Нарадзіўся ў 1955 г. Закончыў Інстытут жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Рэпіна ў Санкт-Пецярбурзе (1977). Даследуе беларускае і заходнееўрапейскае мастацтва. Пераклаў на беларускую мову асобныя творы М. дэ Сервантэса, Г. Г. Маркеса, Ж. Амаду, Б. Б'ёрнсана, А. Стрындбэрга, Дж. Вэргі, К. Чапэка і інш.



# Кветачкі святога Францішка

У імя Пана нашага
ўкрыжаванага Езуса Хрыста
і Яго Маці Панны Марыі
ў гэтай кнізе выкладзеныя
некаторыя справы,
цуды і прыклады добрапрыстойнасці
слаўнага нябогі Хрыстовага
месэра святога Францішка
ды іншых яго святых паплечнікаў.
Хвала Езусу Хрысту.
Амэн.

**Частка XLIX**
*Як Хрыстус з'явіўся брату Яну з Верны*

Сярод іншых мудрых і святых братоў і сыноў святога Францішка, якія, згодна са словамі Саламона, ёсць слава айца, быў у нашыя часы ў згаданай правінцыі Маркі шанаваны і святы брат Ян з Ферма, якога называлі таксама братам Янам з Верны, паколькі быў ён асаблівага жыцця і вялікай святасці, бо доўгі час правёў у святым кляштары Верны і там адыйшоў з гэтага жыцця.

Калі гэты брат Ян быў свецкім юнаком, то усім сэрцам жадаў абраць дарогу пакаяння, каб захаваць чысціню цела і душы; дык вось, калі ён яшчэ быў свецкім падлеткам, то пачаў насіць на голым целе кальчугу і жалезны пояс і захоўваць моцнае ўстрыманне; асабліва, калі жыў разам з канонікамі святога Пятра з Ферма, якія жылі ў раскошы, пазбягаў цялесных радасцяў і выпрабоўваў сваё цела моцной суворасцю і ўстрыманнем. Але паплечнікі яго вельмі былі супраць, кальчугу з яго здымалі і вельмі перашкаджалі яго ўстрыманню; і ён, натхнёны Богам, падумаў пра тое, каб пакінуць свет разам са сваімі прыхільнікамі і аддаць усяго сябе цалкам у рукі Укрыжаванага, у адзенні Укрыжаванага, дадзеным святым Францішкам. І так і зрабіў.

Паколькі яго прынялі ў ордэн яшчэ юнаком і даручылі апекавацца ім настаўніку навіцыянтаў, ён зрабіўся такім духоўным і такім пабожным, што кожны раз, калі слухаў, як настаўнік гаварыў пра Бога, яго сэрца мякчэла, быццам воскоўка ля агню, і з такой салодкаю ласкай грэўся ён у Боскай любові, што, не могучы стаяць на адным месцы і вытрымліваць такой ласкі, уставаў і, быццам ап'янелы духам, бег то ў сад, то ў лес, то да касцёла, у залежнасці ад таго, куды агонь і імпэт душы яго штурхалі.

Пасля, з цягам часу, Божая ласка пастаянна дапамагала гэтаму анёльскаму чалавеку расці ад цноты да цноты і ў нябесных дарах, і ў Боскіх узнясеннях і захапленнях так, што часам яго думка ўзнімалася да бляску херубімаў, часам да полымя серафімаў, часам да ўсхваленняў шчасных, часам да любоўных і моцным абдымкаў з Хрыстом, не толькі ва ўнутраных духоўных рухах, але найперш у знешніх выявах і ру-

*Працяг. Пачатак у 3 за 2007 г.*

хах цялесных. І асабліва аднойчы запалілася яго сэрца агнём Боскай любові, і палаў у ім гэты агонь ажно тры гады. За гэты час ён атрымаў цудоўныя суцяшэнні і Боскія наведванні, і часта быў захоплены Богам; і, карацей кажучы, у той час ён увесь здаваўся ахопленым полымем і запаленым любоўю да Хрыста. І адбывалася гэта на святой гары Верна.

Але паколькі Бог мае асаблівы клопат аб дзецях сваіх і ў розныя часы дае ім то суцяшэнне, то хваляванне, то росквіт, то беднасць, у залежнасці ад таго, у чым яны маюць найбольшую патрэбу, каб заставацца ў паслушэнстве, або каб запаліць у іх прагу нябесных рэчаў, Божай ласцы было заўгодна праз тры гады, забраць у згаданага брата Яна гэты прамень і гэты агонь і пазбавіць яго ўсіх духоўных суцяшэнняў, з-за гэтага брат Ян застаўся без святла і без Божай любові несуцешаны, сумны і тужлівы. Засмучаны гэтымі рэчамі, ён хадзіў у лес і бегаў там то туды, то сюды, клікаючы ўголас, са слязьмі і ўздыхамі абранага Сужэнца душы сваёй, які схаваўся і пайшоў прэч ад Яго, і без чыёй прысутнасці душа яго не знаходзіла ні адпачынку, ні спакою; але ні ў якім месцы і ніякім чынам ён не мог знайсці ласкавага Езуса, ні зведаць ізноў тых салодкіх душэўных рухаў Хрыстовай любові, да якіх ён прывык. І доўжылася гэтая яго пакута шмат дзён, у якія ён знаходзіўся ў бясконцым плачы і ўздыхах, і ў малітвах Богу, каб злітаваўся і вярнуў яму абранага Сужэнца яго душы.

У рэшце рэшт, па волі Бога, што так выпрабоўваў яго цярпенне і запаліў у ім такі агонь, аднойчы, калі брат Ян ішоў у згаданы лес вельмі засмучаны і зажураны і ад стомы прысеў, абапершыся на бук, сядзеў там з мокрым ад слёзаў тварам і глядзеў у неба, каля яго адразу ж з'явіўся Езус Хрыстус на той сцяжынцы, па якой брат Ян туды прыйшоў, але нічога не казаў. Калі брат Ян пабачыў і пазнаў, што гэта быў Хрыстус, то адразу кінуўся Яму ў ногі і з непамерным плачам пакорліва маліў Яго і казаў: «Дапамажы мне, Пане мой, бо без Цябе, салодкі мой Збавіцель, я жыву ў цемры і ў плачы, без цябе, Ягня ціхмянае, я жыву ў трывозе і ў страху; без Цябе, Сын найвышэйшага Бога, я жыву ў неспакоі і сораме, без Цябе я пазбаўлены ўсякага скарбу, я аслеплены, бо Ты, Езус, ёсць сапраўднае святло душаў; без Цябе я разгублены і асуджаны, бо Ты ёсць жыццё душы і жыццё жыцця, без Цябе я пусты і бясплодны, бо Ты ёсць крыніца любога дару і кожнай ласкі; без Цябе я ні ў чым не суцешаны, бо Ты, Езус, ёсць нашае суцяшэнне, любоў і жаданне, хлеб суцяшальны і віно, што весяліць хоры анёлаў і сэрцы ўсіх святых. Прасвяці мяне, ласкавы настаўнік і жаласлівы пастух, бо я — Твая авечка, хоць і нявартая».

Але паколькі жаданне святых людзей, якое Бог не спяшаецца задаволіць, запальвае ў іх большую любоў і заслугу, Хрыстус благаслаўлёны пайшоў прэч, не задаволіўшы яго і не пагаварыўшы з ім, і пайшоў па той сцяжынцы. Тады брат Ян падняўся і пабег Яму ўслед, і зноў кінуўся Яму ў ногі, са святой настойлівасцю Яго трымаў і з пабожнымі слязьмі маліў Яго і казаў Яму: «О салодкі Езус, май літасць да мяне, спакутаванага, задаволь мяне веліччу Тваёй літасці і праўдай Тваёй крыві, і вярні мне радасць твару Твайго і Твайго літасцівага пагляду, паколькі Тваёй літасцю поўная зямля». А Хрыстус ізноў ідзе прэч і не гаворыць яму нічога, і не дае яму ніякага суцяшэння, а робіць так, як маці хлапчука, калі забірае ў яго грудзі з малаком і прымушае бегчы за ёю са слязьмі, з-за чаго ён смокча з большай ахвотай.

І брат Ян пасля таго стаў з большым імпэтам і жаданнем бегчы за Хрыстом, і калі ён прыбег да Хрыста, Хрыстус благаслаўлёны звярнуўся да яго і, пазіраючы вясёлымі і пяшчотнымі вачыма, раскрыў свае абдымкі і пяшчотна яго абняў. І між раскрытых абдымкаў бачыць брат Ян, як выходзяць са святых грудзей Збавіцеля промні цудоўнага святла, што асвяцілі ўвесь лес і найперш яго душу і цела.

Тады брат Ян укленчыў каля ног Хрыста, і Хрыстус благаслаўлёны, нібыта Магдалене, падставіў яму добразычліва нагу для пацалунку, а брат Ян, узяў яе з вялікай пашанай, абмыў яе такімі моцнымі слязьмі, што насамрэч здаваўся новай Магдаленай, і казаў пабожна: «Прашу цябе, Пане мой, не зважаць на мае грахі, а дзеля Тваіх найсвяцейшых цярпенняў і дзеля найкаштоўнейшай Тваёй Крыві, што пралілася, уваскрасіць маю душу ў ласцы Тваёй любові, бо раз такі Твой загад, каб мы любілі Цябе ўсім сэрцам і ўсёй пяшчотай, то гэты загад ніхто не можа выканаць без Тваёй дапамогі. Памажы мне так, найлюбімейшы Сын Божы, каб я любіў Цябе ўсім сваім сэрцам і ўсімі сваімі сіламі».

І пакуль стаяў так брат Ян каля ног Езуса, быў ён пачуты і атрымаў ад Яго першую ласку, а менавіта агонь Боскай любові, і адчуў сябе цалкам адноўленым і суцешаным; і, зведаўшы, што дар Божай ласкі вярнуўся да яго, пачаў дзякаваць Хрыстусу благаслаўлёнаму і пабож-

на цалаваць Яго ногі. І пасля, калі ён устаў, каб паглядзець у твар Збавіцелю, Хрыстус працягнуў і даў яму для пацалунку свае найсвяцейшыя рукі, а брат Ян пасля таго, як іх пацалаваў, наблізіўся і прыхіліўся да грудзей Езуса, і абняў Яго, і пацалаваў Яго найсвяцейшыя грудзі, а Хрыстус гэтаксама абняў яго і пацалаваў. І ў гэтых абдымках і пацалунках брат Ян адчуў такі Боскі водар, што калі б нават усе спецыі і ўсе духмяныя пахі свету былі сабраныя разам, то здаліся б яны смуродам у параўнанні з тым водарам; і ў ім быў тады брат Ян захоплены, суцешаны і прасветлены, і захоўваў гэты водар у сваёй душы яшчэ шмат месяцаў.

З таго часу і надалей з яго роту, якім ён напіўся з крыніцы Божай мудрасці з святых грудзей Збавіцеля, выходзілі цудоўныя нябесныя словы, якія змянялі сэрца тых, хто іх слухаў, і сабралі вялікі ўраджай душаў. А на сцяжынцы ў лесе, па якой ступалі благаслаўлёныя ногі Хрыста, на вялікай адлегласці навокал, брат Ян заўсёды адчуваў той водар і бачыў тое ззянне, калі яшчэ доўгі час туды хадзіў.

Пасля таго, як брат Ян прыйшоў у сябе пасля гэтага захаплення, а цялесны вобраз Хрыста знік, ён доўгі час быў настолькі прасветлены ў душы ад глыбіні Яго Боскасці, што, не зважаючы на тое, што не быў чалавекам адукаваным чалавечай навукай, тым не менш дзіўным чынам узнімаў і тлумачыў складаныя і высокія пытанні Боскай Тройцы і глыбокія цуды Святога Пісання. І шмат разоў пасля, гаворачы перад Папам і кардыналамі, і перад каралём з баронамі, і перад настаўнікамі і дактарамі, здзіўляў іх усіх сваімі высокімі словамі і глыбокімі заключэннямі, якія ён выказваў.

Слава Хрысту. Амэн.

**Частка L**

*Як, цэлебруючы Імшу ў Дзень задушны, брат Ян з Верны убачыў мноства душаў, вызваленых з чыстца*

Аднойчы згаданы брат Ян з Верны цэлебраваў Імшу на наступны за днём Усіх Святых Дзень задушны, згодна з тым, што загадвае Касцёл, і выконваў гэты высокі сакрамэнт (які дзеля яго дапамогі душы памерлых чакаюць больш за любую добрую рэч, што могуць зрабіць для іх) з такім пачуццём замілавання і з такім шкадаваннем і спачуваннем, што здавалася, быццам ён плавіцца ад пяшчоты жалю і брацкай міласэрнасці. Таму на гэтай Імшы, падымаючы пабожна Цела Хрыста і ахвяруючы яго Богу Айцу і молячы Яго, каб дзеля любові Яго благаслаўлёнага Сына Езуса Хрыста, які дзеля выкуплення душаў быў распяты на крыжы, вызваліў ён ад пакутаў чыстца душы памерлых, створаныя і адкупленыя Ім; і адразу ён убачыў бясконцую колькасць душаў, што выходзілі з чыстца, убачыў, як бясконцая колькасць вогненных іскраў выходзіць з распаленай печы, і бачыў, як узыходзілі яны на неба дзякуючы цярпенням Хрыста, які кожны дзень ахвяруе сябе жывым і мёртвым у Найсвяцейшай Гостыі, якая вартая шанавання на векі вечныя. Амэн.

**Частка LI**

*Пра святога брата Якава з Фалеронэ і пра тое, як пасля смерці ён з'явіўся брату Яну з Верны*

У час, калі брат Якаў з Фалеронэ, чалавек вялікай святасці, ляжаў цяжка хворы ў кляштары Мальяна ў кустодыі Ферма, брат Ян з Верны, які тады жыў у кляштары Масы, пачуў пра яго хваробу і, паколькі любіў яго, як свайго дарагога айца, пачаў за яго маліцца, просячы пабожна Бога малітваю ў думках, каб вярнуў здароўе целу брата Якава, калі гэта будзе лепш для душы.

І стоячы так у гэтай пабожнай малітве, быў ён захоплены Богам і ўбачыў у паветры вялікую армію шматлікіх анёлаў і святых над яго келляй, што знаходзілася ў лесе, у такім ззянні, што ўсё наваколле было імі асветлена. І пабачыў ён сярод гэтых анёлаў апранутага ў белую ззяючую вопратку хворага брата Якава, за якога ён маліўся. А яшчэ ўбачыў сярод іх благаслаўлёнага айца святога Францішка, упрыгожанага святымі Хрыстовымі стыгматамі і вялікай славай. Яшчэ ён убачыў і пазнаў святога брата Лючыда, і брата Масея з гары Руб'яна, і яшчэ іншых братоў, якіх ён ніколі не бачыў і не ведаў у гэтым жыцці. І пакуль глядзеў так брат Ян з вялікай радасцю на гэтае благаслаўлёнае войска святых, была яму адкрыта праўда аб уратаванні душы згаданага хворага брата, і што ад гэтай хваробы ён павінен быў памерці і пасля смерці трапіць у рай, але не адразу, бо яму трэба было крыху ачысціцца ў чыстцы. З-за гэтага адкрыцця брат Ян меў такую вялікую весялосць дзеля здароўя душы, што аб смерці яго цела зусім не хваляваўся, а з вялікай пяшчотай духу клікаў пра сябе, кажучы: «Брат Якаў, мой пяшчотны айцец; брат Якаў, пяшчотны брат; брат Якаў, верны служка і сябар Бога; брат Якаў, паплечнік анёлаў і сужэнец благаслаўлёных». І ў гэтай упэўненасці і радасці ап-

рытомнеў і адразу ж пакінуў кляштар, і пайшоў праведаць брата Якава з Мальяна.

І калі пабачыў, што таму стала настолькі горш, што ён ледзь мог гаварыць, то абвясціў яму пра смерць цела і пра здароўе і славу душы, згодна з той упэўненасцю, якую ён атрымаў праз Боскае адкрыццё; таму брат Якаў, увесь узрадаваны ў душы і з твару, прыняў гэтую навіну з вялікай радасцю і са шчаслівым тварам, дзякуючы за добрыя прынесеныя навіны, пабожна даручыўся яму. Тады брат Ян ласкава папрасіў вярнуцца пасля смерці да яго і расказаць яму аб сваім стане, і брат Якаў яму гэта паабяцаў, калі будзе на тое воля Божая. А паколькі набліжаўся час яго адыходу, то пасля гэтых словаў брат Якаў пачаў пабожна прамаўляць словы псальма: «*У спакоі вечнага жыцця я засну і адпачну*», і пасля гэтых словаў з радасным і шчаслівым тварам адыйшоў з жыцця зямнога.

Пасля таго, як яго пахавалі, брат Ян вярнуўся ў кляштар Масы і чакаў, калі выканаецца абяцанне брата Якава, які павінен быў вярнуцца да яго ў абяцаны дзень. Але ў той дзень ён маліўся, і з'явіўся яму Хрыстус у суправаджэнні анёлаў і святых, сярод якіх не было брата Якава; тады брат Ян, вельмі здзівіўшыся, даручыў яго пабожна Хрысту. Потым, на наступны дзень, калі брат Ян маліўся ў лесе, з'явіўся яму брат Якаў у суправаджэнні анёлаў, увесь у славе і радасці, і сказаў яму брат Ян: «О айцец святы, чаму ты не прыйшоў да мяне ў той дзень, у які паабяцаў?». Адказаў яму брат Якаў: «Таму што я меў патрэбу ў адным ачышчэнні, але ў той самы момант, калі Хрыстус з'явіўся і ты мяне Яму даручыў, Хрыстус выканаў тваю волю і вызваліў мяне ад усіх пакутаў. І тады я з'явіўся брату Якаву з Масы, святому свецкаму, які служыў на Імшы і бачыў, як асвячоная Гостыя, узнятая святаром, перамянілася і ператварылася ў вобраз прыгожага жывога юнака, і я сказаў яму: «Сёння разам з гэтым юнаком я адпраўляюся ў царства вечнага жыцця, у якое ніхто не можа пайсці без Яго». І пасля гэтых словаў брат Якаў знік і пайшоў на неба з усім сваім благаслаўлёным суправаджэннем анёлаў; а брат Ян застаўся вельмі суцешаны.

Памёр згаданы брат Якаў з Фалеронэ напярэдадні дня святога апостала Якава ў месяцы ліпені ў памянёным вышэй кляштары Мальяна, у якім, дзякуючы яго заслугам, Божая дабрыня здзейсніла пасля яго смерці мноства цудаў.

Слава Хрысту. Амэн.

**Частка LII**

*Пра візію брата Яна з Верны, калі ён зведаў усе таямніцы Святой Тройцы*

Вышэйзгаданы брат Ян з Верны змог цалкам адмовіцца ад усіх радасцяў і суцяшэнняў часовых і свецкіх і ў Богу знайшоў усю сваю радасць і ўсю сваю надзею. Божая дабрыня дарыла яму цудоўныя суцяшэнні і адкрыцці, асабліва ў святы Хрыстовы. І вось, калі набліжалася аднойчы свята Хрыстовага Нараджэння, на якое ён, безумоўна, чакаў суцяшэння ад Бога пяшчотнай чалавечнасцю Хрыста, Святы Дух уклаў у яго душу такую вялікую і моцную любоў і імкненне да літасці Хрыстовай, дзеля якой ён прыніziўся да прымання нашай чалавечнасці, што сапраўды, здавалася, быццам душа яго была аддзелена ад цела і палае, быццам горан. Не вытрымліваючы гэтага агню, ён пачаў сумаваць і таяць, і крычаць моцным голасам, бо з-за парыванняў Духа Святога і з-за моцнай палымянасці любові не мог ён устрымацца ад крыку. І ў той самы момант, калі гэтая бязмежная палымянасць ахапіла яго, разам з ёй ахапіла яго такая моцная і трывалася надзея на збавенне, што ён не верыў у неабходнасць прайсці праз чысцец, калі б ён зараз памёр. І гэтая любоў доўжылася ў яго цэлых паўгода, хоць гэтую бязмежную палымянасць меў ён не бесперапынна, а ў пэўныя гадзіны дня.

І ў гэты час і пасля ён атрымліваў цудоўныя шматлікія наведванні і суцяшэнні ад Бога; і шмат разоў быў захоплены Богам, як гэта бачыў той брат, што першы запісаў гэтыя рэчы, сярод якіх такая, што аднойчы ўночы ён быў узняты і захоплены Богам, бо пабачыў у ім Стварыцель усе створаныя ім нябесныя і зямныя рэчы, і ўсе іх розныя дасканаласці, ступені і парадкі. І тады ён ясна зведаў, што кожная рэч выяўляла свайго Стварыцеля, і што Бог і зверху, і ўсярэдзіне, і звонку, і з бакоў кожнай створанай рэчы. І ў хуткім часе зведаў ён аднаго Бога ў трох асобах і тры асобы ў адным Богу, і бясконцую міласць, якую зрабіў Сын Божы, калі стаў чалавекам з паслушэнства Айцу. І нарэшце зведаў у гэтай візіі, што няма ніякага іншага шляху, па якім душа магла б пайсці да Бога і мець вечнае жыццё, акрамя як праз Хрыста благаслаўлёнага, які ёсць і шлях, і праўда, і жыццё душы. Амэн.

*Пераклад з італьянскай мовы Аксаны Данільчык.*

*Працяг будзе.*

Тамаш Кэмпійскі

# СЬЛЕДАМ ЗА ХРЫСТОМ

## Чатыры кніжкі

*З лацінскай мовы пераклаў д-р Ст. Грынкевіч*

### КНІЖКА ТРЭЦЯЯ
### АБ УНУТРАНАЙ ПАЦЕСЕ

#### Разьдзел LVIII

*Ня трэба дасьледаваць рэчаў, за наш розум вышэйшых, ды таёмных Божых прысудаў*

**1.** Сыне, сьцеражыся распраўляць аб справах, вышэйшых ад розуму твайго: чаму адзін гэтак пакінуты, а іншы карыстаецца гэткаю ласкаю? Чаму адзін жыве сярод самых турботаў, а іншы гэтак вельмі цешыцца?

Усё гэта немагчыма сьцяміць розумам чалавека: ды ніякія досьледы ці меркаваньні не адчыняць нам таёмных прысудаў Божых.

І таму, калі вораг збаўленьня людзкога пабуджае цябе да такіх пытаньняў, або калі дапытваюцца цікаўныя людзі, адкажы ім словамі прарока: *Справядлівы Ты, Пане, і праўдзівыя прысуды Твае* (Пс 118, 137).

Або гэткімі яшчэ: *Справядлівыя прысуды Пана, апраўданыя самыя ў сабе* (Пс 18, 10).

Прысудаў Маіх баяцца трэба, а не дасьледжваць іх, бо не да ўцямку яны чалавецкаму розуму.

**2.** Не дапытвайся і не разглядай заслугаў сьвятых, які з іх сьвяцейшы за іншых або які з іх вялікшы ў Нябесным Валадарстве.

Бо з гэтага пачынаюцца часта бескарысныя спрэчкі; павялічваюць яны пыху ды марную славу; згэтуль пачынаюцца зайздрасьці ды сваркі, калі адзін таго сьвятога, а другі іншага ў пысе сваёй імкнецца зрабіць вялікшым.

Хаценьне гэта ведаць або дасьледзіць — не дае ніякага карыснага плоду людзям ды сьвятым зусім неўспадобу:

Бо ж я ня Бог сваркі, а супакойнасьці, якая хутчэй знаходзіцца ў сапраўднай спакорнасьці, чымся ў тым, што нехта сябе зрабіў вялікшым.

**3.** Іншыя з вялікае пабожнасьці больш любяць адных, чымся другіх сьвятых, гэта, аднак, больш пачалавецку, чымся па-Божаму.

Гэта ж Я, які стварыў усіх сьвятых, Я надарыў іх ласкаю, Я даў ім славу.

Я ведаю заслугі паасобных; Я *папярэдзіў кожнага з іх салодкасьцю благаславенства свайго* (Пс 20, 4).

Я знаў улюблёных сваіх перад вякамі, Я іх выбраў з цэлага сьвету, а не яны выбіралі Мяне.

Я паклікаў іх ласкаю сваёю, Я іх прыцягнуў сваёю міласэрнасьцю, Я іх правёў цераз усенькія пакусы.

Я даваў ім найвышэйшую пацеху, Я даў ім вытрываласьць, Я ўкаранаваў іхную цярплівасьць.

**4.** Я ведаю першага і самага апошняга з іх, Я ўсіх іх агортваю нявыказанаю любоўю сваёю.

Мяне трэба хваліць ува ўсенькіх Маіх сьвятых: Мяне трэба бласлаўляць ды чэсьць даваць у кожным з іх асобна, бо ж бяз ніякіх іх папярэдніх заслугаў гэтак іх узьвялічыў сваёю Божаю прадбачнасьцю.

Дык хто ганьбуе аднаго з найменшых Маіх, той ужо ня хваліць і найвялікшага, *бо і малога і вялікага Я стварыў* (Мудр 6, 8).

І той, хто закідае нешта аднаму з сьвятых, закіды робіць Мне самому і ўсенькім у Валадарстве Нябесным.

Усе адным з'яўляюцца ў лучнасьці любові, тое самае ім здаецца, таго самага хочуць, і ўсе любяць адзін другога ў вадным.

**5.** Апроч гэтага — што яшчэ ёсьць лепшым — яны больш Мяне, чымся сябе ды свае заслугі, любяць.

Бо ў захопленьні вышэйшым за самых сябе і над любоўю ўласнаю ўзьнесены, цалкам у любові да Мяне затапляюцца, у якой узноў цешацца шчасьцем ды супакоем.

---

*Працяг. Пачатак у 1–4 за 2007–2010 гг.*

Нічога няма, што здолела б адвярнуць іх ад Мяне або паменшыць любоў іх, бо яны, поўныя вечнае праўды, зіхацяць агнём бязмернае любові.

Дык няхай змоўкнуць і ня сварацца аб стане сьвятых людзі цела ды пачуцьця, якія патрапяць любіць толькі ўласныя радасьці, яны адымаюць ці прыдаюць паводле свайго нахілу, а не паводле спадобы праўдзе спрадвечнай.

**6.** Шмат хто робіць гэтак з нясьведамасьці, а найбольш тыя, што мала асьвечаныя сьвятлом Божым, яны рэдка каго патрапяць любіць дасканальнаю, духоваю любоўю.

Шмат каго прыродны нахіл ды прыязьнь чалавецкая да гэтых або да іншых схіляе, і яны паводле таго, як бачаць ды разумеюць на зямлі, бяруцца судзіць аб справах нябесных.

Далячыня нязьмерная — паміж тым, што недасканальным людзям здаецца, і тым, што бачаць іншыя, асьвечаныя сьвятлом нябесным цераз Аб'яўленьне.

**7.** Сьцеражыся ж, сыне, лезьці з цікаўнасьцю ў гэткія справы, якія шмат вялікшыя за ўсенькую мудрасьць тваю: хутчэй імкніся ды мяркуй, каб дастаць сабе няхай і найменшае месца ў Валадарстве Божым.

Бо калі б і мог ведаць хто, які з іх сьвяцейшы або вялікшы ў Валадарстве Нябесным, дык пашто яму гэта ведаць было б, якая карысьць, калі б дзеля гэтага ён не спакарыўся перада Мною ды больш яшчэ не хваліў бы імя Майго?

Шмат мілей Богу, калі хто разважае велічыню грахоў сваіх і маленькасьць цнотаў, ды так далёка яшчэ яму да дасканальнасьці сьвятых, чымся той, хто калоціцца — які сьвяты вялікшы, а які меншы.

Лепш зьвяртацца да сьвятых з пабожнымі малітвамі, сьлязьмі іх маліць ды з пакорлівым духам прасіць іхнае помачы, чымся дасьледжваць марна таёмнасьці іхнае хвалы.

**8.** Сьвятыя жывуць у заўсёдным захопленьні ды шчаслівасьці; няхай людзям гэтага хопіць і няхай пакінуць яны сваё пустаслоўе.

Сьвятыя ня хваляцца сваімі заслугамі і нічога добрага ня кажуць аб сабе, а ўсё адносяць да Мяне, бо ж ім усё даў Я з бязьмежнае любові свае.

Гэтулькі ў іх любові да Бога ды вясельля бязьмежнага, што ўсяго даволі ім для іхнае хвалы, усяго хапае дзеля іхнае шчасьлівасьці.

Чым вялікшая слава сьвятога, тым больш спакораны ён у сабе самым, а дзякуючы гэтаму штораз стульней ён лучыцца са Мною і штораз мілейшы Мне.

І дзеля гэтага было напісана, што кідалі кароны свае перад Богам і падалі на твар свой перад Баранкам *ды кланяліся жывучаму на векі векаў* (Ап 5, 14).

**9.** Шмат такіх, якія пытаюцца, хто вялікшы ў Валадарстве Божым, а ня ведаюць, ці здадуцца яны, каб папасьці ў лік яго на'т найменшых.

Надта шмат быць ужо і найменшым у небе, бо ўсе там вялікія; бо ўсе яны там назавуцца сынамі Бога дый сапраўды гэткімі будуць.

*Найменшы будзе за тысячу* (Іс 60, 22), *а грэшнік, які сто гадоў мае, памрэ* (Іс 65, 20).

Таму, калі пыталіся вучні, хто вялікшым мае быць у Валадарстве Нябесным, такі пачулі адказ:

*Калі не навернецеся, ды ня будзеце быццам маленькія дзеткі, не трапіце ў Валадарства Нябеснае. Дык хто спакарыцца, як дзіця гэта, той вялікшы ў Валадарстве Нябесным* (Мц 18, 3–4).

**10.** Блага тым, якія ня хочуць самахоць спакарыцца, якія ня хочуць быць дзіцяткам, бо нізкія вароты Валадарства Нябеснага ня пусьцяць іх туды ўвайсьці.

*Такжа блага багачом, якія тутака маюць пацехі свае* (Лк 6, 24), бо калі бедныя будуць уваходзіць у Валадарства Нябеснае, яны астануцца з надворку, плачучы і ўздыхаючы.

Дык весяліцеся, пакорныя і бедныя, бо ж вашае Валадарства Божае, калі толькі ідзіцё шляхам праўды.

## Разьдзел LIX

*Усю надзею і веру толькі ў Богу мець трэба*

**1.** Пане, на каго ж я маю спадзявацца ў гэтым жыцьці, або якая ж гэта найвялікшая пацеха з усяго, што толькі бачу пад небам?

Ці ж ня Ты, Пане Божа мой, якога міласэрнасьць без меры?

Дзе ж было мне добра без Цябе? Або калі блага мне будзе ў прысутнасьці Тваёй?

Лепш буду бедным дзеля Цябе, чымся багатым без Цябе.

Лепш буду з Табою вандроўнікам на зямлі, чымся без Цябе небам валадаці.

Дзе Ты — там неба; а сьмерць і пекла там, дзе Цябе нямашака.

Ты адзін — імкненьне маё, і дзеля таго неабходна мне клікаць Цябе, уздыхаць за Табою ды маліцца да Цябе.

Нігдзе не змагу гэтак цалкам спадзявацца, хто лепш памог бы мне ў патрэбах маіх, чымся Ты адзін, о Божа мой.

Ты надзея мая і вера мая; Ты пацяшаеш мяне заўсёды і Ты мне найвярнейшы.

**2.** Усе толькі сваёй карысьці глядзяць, а Ты хочаш толькі збаўленьня і поступу майго ды ўсё на дабро мне кіруеш.

Калі на'т дапускаеш на мяне розныя пакусы і супрацiўнасьці — усё гэта дзеля маёй карысьці Ты робіш, бо Ты часта на тысячы спосабаў робіш спробы з улюблёнымі сваімі.

Аднак у гэтых спробах ня менш трэба любіць і хваліць Цябе, чымся тады, калі нябеснымі пацехамі мяне Ты абсыпаў бы.

**3.** На Цябе толькі і спадзяюся, Пане Божа, у Табе толькі ўся абарона мая; Табе даручаю ўсе турботы і труднасьці свае, бо ўсё нядужае і нятрывалкае, апроч Цябе.

Нічога не патрапяць і шматлікія прыяцелі ды ня здолеюць памагчы і магутныя сьвету гэтага, ніхто з мудрых карыснае рады ня дасьць ды не пацешаць і кнігі мудрацоў, найвялікшыя скарбы ня выратуюць, ані месца ніякае патайное ды мілае не забясьпечыць — калі Ты сам ня будзеш прысутным, не дасі падмогі, не пацешыш, не навучыш ды ня будзеш сьцерагчы.

**4.** Усё, што здаецца карысным дзеля супакою і шчасьця — з Тваёю адсутнасьцю нічогасьць, і сапраўднага шчасьця няма там зусім.

І дзеля гэтага Ты пачатак і канец усялякага дабра, Ты крыніца жыцьця і глыбіня ўсялякае мудрасьці, і на Цябе трэба заўсёды раней усяго спадзявацца; Ты наймагутнейшая пацеха слугаў Тваіх.

На Цябе зьвяртаю я свае вочы, толькі на Цябе спадзяюся, Божа мой, Айцец міласэрнасьці.

Благаславі і сьвяці душу маю бласлаўленьнем нябесным, няхай будзе яна сьвятым памяшканьнем дзеля Цябе і тронам вечнае славы Тваёй; няхай нічога ня будзе ў гэнай сьвятыні Тваёй велічы, што магло б з'яўляцца нягодным вачэй Тваёй Велічы.

Паводле шматлікасьці дабраты Тваёй ды веліччыні міласэрнасьці глянь Ты на мяне і паслухай малітвы беднага слугі Твайго, згнаньніка далёкага ў край сьмерці і цені.

Барані і ня кінь Ты душы слугі свайго сярод гэтулькі небясьпек грэшнага жыцьця, а памагаючы ласкаю сваёю, вядзі шляхам супакою да бацькаўшчыны сьвятла вечнага. Амэн.

*Працяг будзе.*

# Аркадзь ШПУНТ

*О горкі роздум! Дзе знайсці той схоў,*
*Каб скарбы часу ўратаваць ад часу?*

У. Шэкспір. Санет 65.
(Пераклад на беларускую мову Ю. Гаўрука.)

ЗАКІНУТЫЯ драўляныя цэркаўкі і такія ж закінутыя касцёлы, якія ўсё яшчэ ўражвалі веліччу архітэктуры, нагадвалі сваёй безабароннасцю сіротаў. Гледзячы на касцёлы, часам нельга было зразумець, навошта ў такой маленькай вёсачцы такая грандыёзная пабудова?

Цэрквы чамусьці не здаваліся такімі абяздоленымі, як касцёлы, але лёс у іх быў аднолькавы, хоць іх сцены «ўпрыгожвала» іржавая «ахоўная» дошка, на якой запэўнівалася, што ўшчэнт занядбаны будынак з'яўляецца помнікам гісторыі, архітэктуры і нават культуры. Культуры, якая, мяркуючы па ўсім, была ніко-



Маці Божая Адзігітрыя Рымская (Снежная). XVIII ст.
Дрэва, тэмпера.
Рэстаўратар — П. Р. Журбей.

# Адкрыццё святой прыгажосці




Укрыжаванне. 1806 г. Палатно, алей.
Рэстаўратар — С. В. Дзікуль.

му не патрэбная. Менавіта такім чынам выглядалі гэтак званыя «зачыненыя культавыя памяшканні» — абезгалоўленыя, пазбаўленыя знакаў сваёй прыналежнасці хрысціянскія святыні...

Здавалася, што разам з разбурэннем помнікаў знікне і сама памяць пра рэлігію. Аднак гэта толькі здавалася. У мярзотнасці занядбання, пад дзіравым дахам, сярод адсырэлых сценаў з закалочанымі фанерай вокнамі раптам уражвалі чыста вымытая падлога, алтар, убраны бялюткімі адпрасаванымі тканінамі, ахутаны водарам свежых кветак... Там не было твораў жывапісу і скульптуры. Каля тых абрабаваных алтароў вера абыходзілася без цудаў рамяства і мастацтва. Аднак гэта былі сапраўды святыя алтары. І здавалася, што ніякага часу няма, і што не прайшлі два тысячагоддзі з тае пары, калі Пліній Малодшы пісаў свайму імператару: «Я ніколі не прысутнічаў на следствах аб хрысціянах, таму не ведаю, аб чым прынята дапытваць і да якой ступені караць...» І ў напружанай маўклівасці апаганенай святыні рабілася неяк не па сабе. А старшыня сельсавету, не гледзячы ў нашы дакументы-дазволы, адмаўляўся адчыніць замок на дзвярах, кажучы: «Там цяпер прыбіраюць. Верычыя ў мяне самыя добрыя работнікі, так што прабачце». І глядзеў на нас неяк нядобра, пагардліва.

...Экспедыцыйны аўтобус калясіў па дарогах Савецкай Беларусі з вобласці ў вобласць у пошуках твораў жывапісу і дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва. Ад аднаго зачыненага храма да другога, не пакідаючы без увагі нават маленькія капліцы на могілках. Гэта была невясёлая і, як я цяпер разумею, небяспечная праца, бо гатовых абараніць свае святыні было дастаткова — варта толькі падысці да дзвярэй царквы ці касцёла, як аднекуль імгненна з'яўляліся вясковыя людзі з прыладамі сваёй земляробчай працы. Яны звыкла трымалі ў руках вілы ці косы і панура маўчалі... Аднак Бог ратаваў. І многія рэчы былі выратаваныя ад немінучай гібелі на запаскуджаных галубамі гарышчах і на звалках хімічных угнаенняў, што падточвалі сцены Божых святыняў, разбураючы фарбавы слой і грунт жывапісу старажытных іконаў і алтарных абразоў...

Часам даводзілася проста ў лесе тэрмінова рабіць прафілактычнае ўмацаванне грунту і фарбавага слою іконы, каб прывезці яе ў музей без стратаў. Палова з вывезеных падчас экспедыцыі рэчаў ужо даследаваная і адрэстаўраваная, але 236 палотнаў і дошак чакаюць свайго часу. Ужо сорак гадоў чакаюць. Але, падобна, дачакаліся — настаў час ратаваць іх ад часу.

Рэстаўратар не гаворыць, што няма надзеі.

**Аркадзь ШПУНТ —** мастак-рэстаўратар вышэйшай катэгорыі. Нарадзіўся ў 1947 г. у Барысаве. Закончыў мастацкую вучэльню. Навучаўся прафесіі ў майстроў Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута рэстаўрацыі. Рэстаўраваў пінскі катэдральны касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, мінскую архікатэдру Імя Найсвяцейшай Панны Марыі, іншыя помнікі сакральнай архітэктуры і мастацтва. Аўтар аповесцяў-эсэ «Блики уходящего дня» (1989), «Момент нуль» (2000) і шэрагу сцэнарыяў дакументальных фільмаў. Працуе ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Жыве ў Мінску.

Рэстаўратар робіць даследаванні, распрацоўвае сваю методыку, вызначае рэстаўрацыйныя мерапрыемствы, зацвярджае праграму работ на нарадзе і ... бярэцца за справу ратавання згаслага вобразу. І вось ён усё выразней праглядае з-пад наслаенняў і запісаў, замацоўваецца сродкамі, якія звязваюць пігмент, і ... светлае аблічча праясняецца з цемры часу...

Беларуская рэстаўрацыя, не паспеўшы дасягнуць сапраўднага развіцця, вельмі хутка стала лічыць сваё мінулае росквітам, амаль класічным перыядам і... не пазбегла дэкадэнсу, што, пагадзіцеся, гучыць больш прыгожа, чым заняпад. А прычына заняпаду, хутчэй за ўсё, у сацыяльным разломе 90-х гадоў. Рэстаўрацыя помнікаў гісторыі і культуры — справа дзяржаўная, а дзяржаве ў той час было не да таго...

Сёння, падобна да таго, сітуацыя змяняецца і нашай незалежнай Радзіме ўжо важная рэстаўрацыя помнікаў гісторыі і культуры. Аднаўляюцца палацы, замкі, касцёлы і цэрквы. Іншая справа — як гэта робіцца, з якім стаўленнем да арыгіналу, да яго аўтэнтычнасці. І тут спецыялісты — рэстаўратары, тэарэтыкі, мастацтвазнаўцы — не павінны адседжвацца, апрацоўваючы кожны «сваю дзялянку» і цешачы свае амбіцыі. Відаць, трэба было б аб'яднаць усе намаганні на ніве захавання і рэстаўрацыі помнікаў культуры, выпрацоўваючы прынцыпы навуковай рэстаўрацыі, якія сталі б законам і для рэстаўратараў, і для чыноўнікаў, і для прарабаў.

Аднак — не будзем пра сумнае... Лепш парадуемся адкрыццю дзесяці твораў старога беларускага жывапісу, выстава якога яшчэ нядаўна экспанавалася ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Відавочна, што выстаўленыя на агляд творы жывапісу з'яўляюцца помнікамі мастацтва, вартымі музейнай калекцыі, помнікамі гісторыі і культуры нашай Айчыны. Кожны з гэтых твораў — помнік страчанага ў часы атэістычных ганенняў іканапісу ці алтара, а часам і



Апосталы Сымон Кананіт, Барталамей, Якуб Алфееў і Ян. Другая чвэрць XVIII ст. Дрэва, тэмпера, алей. Рэстаўратар — С. В. Шаціла.



Святая Марыя Магдалена. XVIII ст. Палатно, алей. Рэстаўратар — С. А. Ішмаева.



Хрыстос Уседзяржыцель. XVIII ст.
Дрэва, тэмпера.
Рэстаўратар — Д. А. Карлёнаў.



Маці Божая Адзігітрыя. XVIII ст.
Дрэва, тэмпера.
Рэстаўратар — С. В. Шаціла.

ўсяго храма. Аднак лепш адзін раз убачыць, чым сто разоў пачуць, і сёння ў вас ёсць цудоўная магчымасць бачыць на ілюстрацыях тое, што было нябачным як мінімум сто і максімум усе трыста гадоў. І паспрабуйце ўявіць сабе тыя алтары ды іканастасы...

Састарэлыя палотны і запыленыя дошкі працаю рэстаўратараў ператвораны ў музейныя каштоўнасці і ўведзены ў навуковы ўжытак. З’яўленне гэтых твораў, безумоўна, узбагаціць уяўленне пра культуру Беларусі і, магчыма, дапаможа мастацтвазнаўцам удакладніць свае тэорыі і канцэпцыі.

Нерэстаўраваны жывапіс у сховішчах музея хавае пад слоем яго панаўленняў і запісаў мноства нечаканасцяў для рэстаўратараў, мастацтвазнаўцаў, а таксама для аматараў старога мастацтва. Недаследаваныя і нерэстаўраваныя творы старажытнага беларускага жывапісу — як белыя плямы на карце нашай культуры. Але гэтых плямаў ужо трохі менш — дзесяць з 246 твораў сталі дарагімі экспанатамі на выставе новых адкрыццяў рэстаўратараў, каб узбагаціць калекцыю фондаў старажытнага беларускага мастацтва Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі і радаваць людзей вернутай ім святой прыгажосцю.

Дарэчы, выставу наведалі мітрапаліт Філарэт і мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч. Не думаю, што нашым першаіерархам падабаецца, што іконы і алтарныя абразы знаходзяцца ў музеі, а не ў Божых святынях, але іх увага і пашана да працы рэстаўратараў успрымаецца як своеасаблівае разуменне гэтага факту і дараванне.

*P.S. Музейныя экспедыцыі па зачыненых святынях былі дазволеныя нашымі ўладамі — і мясцовымі, і вышэйшымі. Аднак адчуванне крадзяжу і апаганьвання святыняў не пакідае мяне да гэтага часу, таму даравання ў продкаў я па-ранейшаму шукаю ў сваёй працы рэстаўратара — як магчымасці захавання вывезеных у музеі твораў і... адкуплення за нашы агульныя грахі.*




# АХОЎНАЯ СЦЯНА БЕЛАРУСІ

Юры Туронак. За кардонам Бацькаўшчыны: успаміны. – Мінск, Медысонт, 2010. – 276 с.

Вялікая кітайская сцяна, змураваная з сабранага па ўсёй імперыі камення, стагоддзямі аберагала жыхароў паднябеснай ад варожых набегаў.

Рыцары ў сярэднявечнай Еўропе абносілі свае замкі землянымі валамі, абкопвалі глыбокімі равамі і выседжвалі ў непрыступных фартэцах самыя працяглыя аблогі.

Абарончая сцяна ў самым высакагорным горадзе Мачу-Пікчу ў перуанскіх Кардыльерах высечаная з суцэльнай скалы, якая і сёння вежавымі зубцамі прычэсвае аблокі, хоць ахоўваць няма каго — турыстаў і тых няшмат на каменных вузкіх вулачках.

З чаго складзеная ахоўная сцяна Беларусі? З якіх найтрывалейшых матэрыялаў, што і ў агні не згарэлі, і перад ваеннымі землятрусамі ўстаялі? З кніг. З тысячаў і мільёнаў кніг, якія леглі ў тую сцяну замест цаглінаў і камянёў. І гэта самая трывалая сцяна ў свеце, бо яе не падкапаеш і таранам не разаб'еш.

Беларусь шматкроць кроілі дзяржаўнымі межамі, дзялілі на чужацкія *гміны*, заганялі то ў літбелы, то ў бээсэсэры, то ў райхі, а беларусы як жылі на сваёй зямлі, так і жывуць. І цары, і генеральныя сакратары сыходзілі, а Беларусь заставалася. Значыць, мае яна надзейны абарончa-ахоўны мур, які падступнаму чужаку разбурыць не пад сілу. І няхай мур гэты, кажучы сучаснай мовай, віртуальны, ён можа абараніць вас ад усіх нашэсцяў. Гэты мур самаўзводзіцца ў кожным з нас дзякуючы прачытаным кнігам. Таму мы, беларусы, павінны ў кожнай кватэры-хаце мець па бібліятэцы. Нечытанне кніг мяжуе для нас з нацыянальным злачынствам. Невыпадкова вялікі будаўнік ахоўнай сцяны Беларусі Уладзімір Караткевіч напісаў у адным са сваіх праграмных вершаў: «Чалавек прыходзіць з-за далёкіх, чужых нам меж і здзіўляецца: што вы за нацыя, хай вас халера, што ні дом – сотні кніг! Гэта правільна, дружа, іначай мы не былі б ні народам, ні нацыяй, а гноем, хімерай». Таму і не дзіўна, што беларус купляе кнігі «коштам пайковага хлеба», а «выходзячы пад бомбы ў дарогу, мае — у сэрцы Бога, а ў кайстры — Багдановіча, Танка, Купалу, Коласа, Панчанку і Эклезіяста».

Нам трэба радавацца кожнай таленавітай беларускай кнізе — з яе выхадам ахоўная сцяна Беларусі мацнее.

Кожны муляр ведае, што самае галоўнае ў мулярскай справе — закласці кутнія камяні, выверыць па іх падмуркі, узвесці вуглы. Далей па нацягнутым шнурку цэглу класці здолее і вучань. У ахоўнай сцяне Беларусі кутнія камяні кладуць і вуглы ўзводзяць гісторыкі. На іх працу раўняюцца астатнія будаўнікі.

Юры Туронак паклаў свае кутнія камяні глыбока і трывала. Можна сказаць — нязрушна. Стаяцьме на іх наша ахоўная сцяна вечна.

Не мною заўважана, што гіс-

торыя чалавецтва — гэта пераважна гісторыя войнаў. Не стала тут выняткам і гісторыя Беларусі — на нашай тэрыторыі зброя лязгала часцей, чым дзе. Але паколькі войны на беларускай зямлі, як правіла, ішлі за чужыя інтарэсы, то і гісторыю гэтых войнаў для нас пісалі таксама чужакі. Як прыклад можна прывесці таўшчэзны двухтомавік «Усенародная партызанская вайна ў Беларусі супраць фашысцкіх захопнікаў» аўтарства Цанавы (ён жа Джанджагава, ён жа Лаўрэнцій II паводле чэкісцкіх «святцаў»). Паводле гэтага партызаназнаўцы ў генеральскіх пагонах ледзь не з першых дзён вайны ўсе беларусы, якія не паспелі змабілізавацца ў Чырвоную армію, шчыльнымі радамі пайшлі ў лес, адкуль білі фашыстаў і днём і ўночы, і ў хвост і ў грыву. На падобных гісторыях і выхоўваліся мы ўсе, у тым ліку аўтар гэтых радкоў. Але ў школе мне пашанцавала на настаўніка, які часам расказваў тое, чаго не было ў савецкіх падручніках. Аднойчы настаўнік, Пятро Мікалаевіч Марціноўскі (светлая яму памяць), проста на ўрок прынёс дзве кнігі — «Беларускую граматыку» Браніслава Тарашкевіча і «Беларускі правапіс» Антона Лёсіка. Абедзве — выдання 1943 года. Дапытлівым вокам я неўзабаве згледзеў, што наклад тых «ваенных» падручнікаў — па 100 000 асобнікаў. Лічба мяне ўразіла. Атрымлівалася, што пад нямецкай акупацыяй у Беларусі дзейнічала прыкладна 500 школаў з прыблізна такой жа колькасцю вучняў, як у нашай сярэдняй Дзярэчынскай. Наклады кніг Тарашкевіча і Лёсіка ў два разы пераўзыходзілі наклады аналагічных савецкіх падручнікаў!

Улучыўшы хвілінку, каб нам ніхто не перашкаджаў, я падаўся ў роспыты да настаўніка. Аказалася, што ён пры немцах вучыўся ў беларускай школе, ведаў дружыновага Саюза беларускай моладзі на Слонімскую акругу Барыса Суравога, ад якога навучыўся спяваць файныя песні. Настаўнік па-маладому матлянуў густым пасівелым чубам і напаўголасу праспяваў: «Дык ці ў шчасця дзень пагодны, ці у буры дні благім знайма першы кліч народны: Беларусь — перадусім!».

З таго часу прайшлі доўгія гады, пакуль складаная гісторыя апошняй вайны большменш упарадкавалася ў маёй галаве. І ўпарадкаваў яе гісторык з Варшавы Юры Туронак. Памятаю, як на маіх вачах у менскай кнігарні «Светач» людзі стаялі ў чарзе, каб набыць ягоную «Беларусь пад нямецкай акупацыяй» у кідкай бел-чырвона-белай вокладцы. І бралі па дзве, па тры — сабе і сябрам. Дайце веры, навуковая кніга стала сапраўдным бестселерам!

Зразумела, што і ўсе пазнейшыя кнігі Юрыя Туронка не прайшлі міма мяне — і «Беларуская кніга пад нямецкім кантролем», і «Людзі СБМ», і «Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі», і — нарэшце — «Мадэрная гісторыя Беларусі», куды ўвайшлі асноўныя працы гісторыка. Усе кнігі чыталіся запойна. Чытаў і думаў — гэта ж адзін чалавек зрабіў работу за цэлы інстытут, прычым не маючы папярэднікаў, ідучы па цаліку. Асоба! А паколькі асоба гэтая жыве ў Варшаве, куды і пасля прыўзнятай жалезнай заслоны не заўсёды даедзеш, то звестак пра Туронка мы мелі мала. Хацелася ведаць больш. Звычайна незамінныя штрыхі да партрэту любой асобы дадаюць мемуары. І вось — маем іх і ад Юрыя Туронка. Пра гэтую выдавецкую падзею мне паведаміў куратар і апякун бібліятэчкі часопіса «Беларускі гістарычны агляд» Генадзь Сагановіч, дзякуючы якому кніга «За кардонам Бацькаўшчыны» з усмешлівым фотаздымкам аўтара на форзацы і пабачыла свет.

Юры Туронак і ў мемуарах застаецца гісторыкам, таму чытача чакае падрабязная гісторыя яго родных Дукштаў — з лічбамі і табліцамі, па якіх можна параўнаць два стагоддзі ў жыцці мястэчка — XIX і XX. У Дукштах будучы гісторык 27 красавіка 1929 года прыйшоў на свет, там немаўлём быў ахрышчаны ў парафіяльным касцёле ксяндзом Зянонам Буткявічусам, там падшпаркам на вуліцах услухоўваўся ў польскую, жыдоўскую, расейскую і літоўскую мовы. (Свая — беларуская — культывавалася ў сям'і, у доме, дзе на сценах віселі партрэты Багушэвіча, Купалы і Казіміра Сваяка.)

«Jak ty się nazywasz? Jureczek?» — пыталася ў трохгадовага лабатага хлопчыка суседка. «Nie Jureczek, а Юрачка», — адказваў той насуплена, і рабілася відавочным — такога не перавучыш і не пераназавеш.

Вялікую ўдзячнасць да сваіх бацькоў — Браніслава Туронка і Марыі з дому Рэшэцяў — захаваў у сваім сэрцы сын. Бацька, лекар па прафесіі, лячыў усю ваколіцу, а сабе не дапамог — рана памёр ад запалення лёгкіх. Але спрыяў сыну і пасля смерці — у 1942 годзе, пачуўшы прозвішча Туронак, дырэктар Віленскай гімназіі без іспытаў залічыў Юрку ў гімназісты і нават вызваліў ад платы за навучанне ў 100 марак. Прыйдзе час, і ўдзячны сын напіша пра баць-



Юры Туронак. 2010 г.
Фота М. Новікава.

ку цэлую кнігу, якую выдасць слынны нью-ёркскі БІНіМ.

Успаміны Юрыя Туронка часам жахаюць сваёй праўдай. Вось малаўцямная для нас, сённяшніх, карцінка: жанчыны на каленях моляцца ў хаце: «Божа, пашлі вайну!». Але што гэтаму папярэднічала? Дэпартацыя ў клятую Сібір (тры дні і тры начы энкавэдысты напаўнялі эшалон на станцыі ў Дукштах)... Мястачковы ветэрынар, псіхалагічна не вытрымаўшы тэрору, брытвай перарэзаў сабе горла... Дарэшты запалоханая, як і ўсе мястачкоўцы, новай уладай Юркава бабуля спаліла ў печы кніжку Францішка Аляхновіча «У кіпцюрах ГПУ»... Вайна насамрэч была збаўленнем і ачышчэннем не толькі для маленькіх Дукштаў, але і для ўсёй вялізнай краіны, якая на касцях сваіх грамадзянаў будавала цёмны шлях у светлую будучыню. Была яна збавеннем і для галоўнага тырана, якому спісвала ўсе грахі, і для ягоных незлічоных памочнікаў, якія перад абліччам больш грознага ворага маглі не актыўнічаць у пошуку ворагаў народа сярод суайчыннікаў.

Так што сапраўды не пазбаўленая сэнсу дзіўная на першы погляд расейская прыказка: „кому война, а кому мать родна". На вайну можна спісаць любыя злачынствы, як тое і рабілася неаднойчы ў паваенны час. Напрыклад, па звыклай завядзёнцы на немцаў спісалі забойства беларускіх ксяндзоў Станіслава Глякоўскага і Дзяніса Мальца, а забілі іх менскія праваслаўныя экстрэмісты пад кіраўніцтвам беларуса-паліцыянта. Пра ўсё гэта піша ў сваіх мемуарах праўдзівы гісторык Юры Туронак. Колькі яшчэ савецкіх міфаў дрыжыць у страху перад ім?

Са школьнай лаўкі памятаю ўзрушаны аповед настаўніцы пра партызанскія «зялёныя школы», дзе вучыліся без падручнікаў, а пісалі ледзь не на бяросце. Сам у адным з музеяў трымаў у руках скручаны дротам цуд партызанскага самвыдату — паэтычны зборнік Анатоля Астрэйкі «Слуцкі пояс», аздоблены застаўкамі з бярозавых і дубовых плашак... Ніхто ж не спрачаецца — і «зялёныя школы», і партызанскі самвыдат мелі месца, але, гаворачы пра іх, не варта аддаваць забыццю другія школы, другія кнігі і другія друкарні. Паводле падлікаў Юрыя Туронка ў акупаванай немцамі Беларусі пабачылі свет 52 кнігі. Нібыта і няшмат (у суседняй Латвіі за той жа перыяд — 1500), але гэта былі вартыя выданні — «Сягоння» Наталлі Арсенневай, «Мае песні» Алеся Салаўя, «Беларусь учора і сяння» Язэпа Найдзюка...

За настаўніцкую працу падчас вайны прафесар Тадас Іванаўскас (родны брат Вацлава Іваноўскага) меў ад літоўскага савецкага ўрада медаль «За доблестный труд». Генерал дэ Голь пасля вызвалення публічна дзякаваў тым настаўнікам, якія пад немцамі навучалі дзетак пафранцузску... А якія падзякі атрымалі беларускія настаўнікі, што вучылі школьнікаў па тых «статысячных» падручніках Тарашкевіча і Лёсіка? Добра яшчэ, калі абыходзілася дзесяцігадовай выправай у Сібір, а магло скончыцца і трагічна, як тое бліскуча апісана ў апавяданні Вячаслава Адамчыка «Прылёт кажана». Многа, ой многа прыгадак-асацыяцый прыходзіць на памяць над старонкамі Туронкавых успамінаў.

Славуты афарызм Тэрэнцыяна Маўра *Habent sua fata libelli* мы звыклі цытаваць у абсечаным выглядзе: *«Кнігі маюць свой лёс»*. Але ёсць яшчэ і працяг: «Кнігі маюць свой лёс, гледзячы па тым, як іх прымае чытач». І тут зноў хочацца вярнуцца да кнігі «Беларусь пад нямецкай акупацыяй». Я ўжо згадваў, як яе размяталі з прылаўкаў менчукі. Але хто падрабязней ведае лёс кнігі, яе біяграфію, як не сам аўтар? Аказваецца, самая знакамітая кніга Юрыя Туронка перад тым, як трапіць на варштат Скарыны, пабыла навуковай дысертацыяй і прынесла даследчыку годнасць доктара гуманітарных навук у галіне гісторыі. Прычым (факт рэдкі!) усе 23 чальцы навуковай рады прагаласавалі «за». З поспехам абароненую дысертацыю рыхтавалі да выдання ў варшаўскім нелегальным выдавецтве WERS (1987 год, яшчэ існавала народная Польшча). Пакуль тэкст набіраўся, польскі камуністычны рэжым ляснуў і кніга выйшла ў свет легальна. З польскага арыгінала яе пераклалі ў Менску Вітаўт Мартыненка і Уладзімір Панада і паспелі цісkануць некалькі раздзелаў у газеце «Чырвоная змена», пакуль не спахапіліся іх камсамольскія куратары. І нарэшце «Беларусь пад

нямецкай акупацыяй» своечасова патрапіла на Першы з'езд беларусаў свету — у тым самым бел-чырвона-белым аздабленні выдавецтва «Беларусь».

Акрылены поспехам кнігі аўтар правамерна чакаў не толькі захопленых чытацкіх водгукаў (іх было шмат), але і ўзважанага слова калегаў-гісторыкаў і мужоў дзяржаўных. І дачакаўся. Тагачасны прэм'ер-міністр Беларусі Вячаслаў Кебіч на сустрэчы з ветэранамі паабяцаў прыцягнуць Юрыя Туронка да крымінальнай адказнасці і дадаў: «По поводу книги „Беларусь под немецкой оккупацией" я уже вёл разговор с министром информации, кому подчинено издательство. Как можно такое издавать?». Прысутная на сустрэчы старэнькая Марыя Осіпава (удзельніца замаху на Вільгельма Кубэ) падтакнула прэм'еру: «Есть ли мозги у того, кто написал книгу?» Магчыма, калі б Юры Туронак з'яўляўся грамадзянінам Беларусі, яго і сапраўды паспрабавалі б пасадзіць на лаву падсудных. Хто ведае — такі быў час. А сёння месца злосным філіпікам прэм'ера бачыцца хіба толькі сярод каментараў да будучага трэцяга выдання «Беларусі пад нямецкай акупацыяй», якое даўно наспела.

Кніга «За кардонам Бацькаўшчыны» — гэта панарама чалавечага жыцця, дзе трэба — дакладна-падрабязная (відно, што аўтар абапіраецца на дзённікі), дзе трэба — жывапісна-кінематаграфічная. Вось адна з яскравых сцэнак. 29 чэрвеня 1944 года, Дукшты. Беларус Пецька Кузьміцкі, які служыць у латышскім (!) вайсковым аддзеле, у форме люфтвафэ (!) ідзе з вінтоўкай наварту і спявае на ўсю вуліцу расейскую савецкую (!) песню «С нами Сталин родной, он железной рукой...» Наўрад ці дзесяцігадовы падлетак разумеў усю трагікамічнасць гэтай сітуацыі, але — запомніў, каб потым выкарыстаць як аздобу-дэталь у сваіх мемуарах. Ці яшчэ адна сцэнка, ужо з гісторыі найноўшай, якая так і просіцца ў які-небудзь гіторыка-прыгодніцкі фільм пра чарговую хвалю беларускага адраджэння: 25 сакавіка 1985 года, Варшава. Пры шчыльна заслоненых вокнах і запаленых свечках у памяшканні Беларускага грамадска-культурнага таварыства праходзіць строга законспіраваная сустрэча студэнтаў. Даклад пра стварэнне БНР чытае доктар Юры Туронак з бел-чырвона-белай стужкай на грудзях...

У тыя шматспадзеўныя гады і ў менскія студэнцкія асяродкі даходзіла выдадзеная за заходняй мяжой літаратура. Тую кантрабанду па адных яму вядомых сцежках спраўна дастаўляў у беларускую сталіцу беластоцкі студэнт Юрка Ляшчынскі. Ён часам паднач оўваў у нашым інтэрнаце на вуліцы Кастрычніцкай, дзе мы і сартавалі пачкі з самвыдатаўскімі часопісамі, са спеўнікамі і падцэнзурнымі брашуркамі. Не ведаў я тады, ды і пазней не падазраваў, што да шматлікага варшаўска-беластоцкага самвыдату меў самае непасрэднае дачыненне Юры Туронак — дзяліўся прывезенымі ў свой час з Лондана тэкстамі, перадрукоўваў на машынцы песні Данчыка...

Прыміце ж, паважаны кніганоша, хоць запозненую падзяку ад спажыўца той друкаванай прадукцыі, якая прыносіла ў Беларусь адчувальны подых свабоды!

А цяпер пра два шкадаванні, адчутыя мною пасля прачытання кнігі Юрыя Туронка «За кардонам Бацькаўшчыны». Шкадаванне першае. Гісторык прыгадвае, што ліставаўся з удавой прэзідэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка Нінай Ляўковіч і нават пазнаёміўся з ёю падчас паездкі ў Парыж. Шкада, што стасункі гэтыя не прывялі да выяўлення архіва БНР, які, па сведчаннях відавочцаў, захоўваўся на гарышчы Абрамчыкавага дома ў Вільпінце. Шкадаванне другое. Мемуары Туронка выдадзеныя недаравальна мізэрным накладам — усяго 100 асобнікаў. Гэта роўна ў тысячу разоў меней ад накладаў згаданых вышэй граматыкі Тарашкевіча і правапісу Лёсіка, выпушчаных у свет пад нямецкай акупацыяй! І гэта пры тым, што Туронкавы кнігі, якім пашчасціла на выхад у Беларусі, неаднаразова перавыдаваліся. Што з гэтай акалічнасці вынікае? Вынікае, што шаноўнаму гісторыку рана карчаваць пні на лецішчы ў Трыпуцях. Трэба рыхтаваць другое, дапоўненае выданне сваіх мемуараў.

*Міхась СКОБЛА*

---

**Міхась СКОБЛА** — паэт, журналіст, даследчык літаратуры. Нарадзіўся 23 лістапада 1966 г. на хутары каля мястэчка Дзярэчын Зэльвенскага раёна. У 1991 г. закончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Выдаў зборнікі паэзіі «Вечны Зьніч» (1990), «Вочы Савы» (1994),«Нашэсьце Поўні», кнігу літаратурных пародыяў «Розгі ў розьніцу» (1993), зборнік вершаў для дзяцей «Камень-перунок» (1998), кнігу гістарычных нарысаў «Дзярэчынскі дыярыюш» (1999). Укладальнік анталогіі беларускай паэзіі XX ст. «Краса і сіла» (2003), шматлікіх твораў класікаў нацыянальнай літаратуры ў серыі «Беларускі кнігазбор», анталогіі перакладаў сусветнай паэзіі XX ст. на беларускую мову «Галасы з-за небакраю» (2008) і інш.

# «ЛЮСТЭРКА ЭПОХІ...»



Станіслаў Манюшка. Літаграфія XIX ст.

Славуты сын нашай зямлі Станіслаў Манюшка (1819–1872), які лічыцца бацькам не толькі польскай, але і айчыннай нацыянальнай оперы, апроч вядомых музычных скарбаў пакінуў па сабе іншы помнік: лісты і артыкулы. З першымі якраз цяпер і можна будзе пазнаёміцца айчыннаму чытачу: падрыхтаваная па-беларуску перапіска дазваляе яскрава пабачыць не толькі душу самога кампазітара, але і душу далёкай эпохі Дуніна-Марцінкевіча і Сыракомлі, Кіркора і Міладоўскага, карацей, некалькіх малавядомых дзесяцігоддзяў XIX стагоддзя.

Аўтографы паэтычныя і нататкі будныя... Аўтографы нотныя і пасланні лістоўныя (жыццёвыя)... Першыя прызначаюцца і расчытваюцца літаратура- ды музыказнаўцамі, іншымі даследнікамі-гісторыкамі, каб і праз стагоддзі, пераўвасобіўшыся ў рыфмаваныя страфы або ў гукі, чараваць слухачоў Гармоніяй. Тым, чым вабіць, палоніць, на чым трымаецца і чым захапляецца Сусвет. Другія — звычайныя ліcцяняткі, напісаныя найчасцей похапкам (пакуль не ад'ехаў паштовы дыліжанс), з пільнай нагоды нешта паведаміць, узгадніць, папярэдзіць. Як пры святле васковых свечак, вырываюць яны трапяткія аблічча чалавечых натураў і самой эпохі. Знаёмячыся з карэспандэнцыяй кампазітара, фізічна адчуваеш, як цяжка й невыносна, змагаючыся з зямнымі турботамі, бедамі, жыццёвым брудам, ствараць Вечнае. Як няпроста імкнуцца стаць лепшым за рэчаіснасць «паўночна-заходняга краю», на якую асудзіў нашых продкаў (паняволеных, але нескароных) акупацыйны рэжым.

Ролю Станіслава Манюшкі ў нацыянальнай музычнай культуры ёмка акрэсліў Уладзімір Караткевіч: «*Калі беларус слухае оперу «Галька» С. Манюшкі, ён адчувае ў ёй ... выразную беларускую песенную аснову. І праўда, вялікі кампазітар нарадзіўся ў Убелі пад Мінскам, выхоўваўся на народнай песні, напісаў аперэту «Ідылія» (тэкст да яе склаў адзін з заснавальнікаў беларускай літаратуры В. Дунін-Марцінкевіч), у якой паны гаварылі па-польску, а сяляне па-беларуску. Ён увогуле напісаў на словы Марцінкевіча чатыры творы, і гэта, уласна, пачатак оперы беларускай*» (з раздзела «Голас забароненай Бацькаўшчыны» ў непаўторным эсэ «Зямля пад белымі крыламі»).

І гэта трэба быць беларусамі, каб, маючы ў сябе цудоўны нацыянальны тэатр оперы і балета, пакідаць яго безыменным! Аднак перш чым нават уганараваць тэатр манюшкаўскім імем, трэба мець у рэпертуары хоць нейкія творы Манюшкі. *Як дуду надзьмеш, так дуда і грае.* Манюшка ў нацыянальнай оперы «не йграе аніяк». Маўчанне доўжыцца дзесьці з 1969–1970 гг., з часу 150-годдзя кампазітара. Нягожа абуджацца-прычашчацца да радзімых крыніцаў раз-два на вяку!

Таму яшчэ адзін папрок: гэта трэба быць беларусамі, з абсалютнай індэферэнтнасцю не толькі да свайго роднага, але і да сваёй гісторыі, каб ленавацца нахіліцца ды паслухаць біццё сэрца матухны-гісторыі. Учуць у грукаце кланаваных «песняроў» XXI стагоддзя пракаветнае ніхто проста не здольны, бо ў вісках залётных ансамбляў не знойдзеш анічога, злучанага з нашым меласам. Ці, як раней казалі нашыя продкі, «*пад тую музыку толькі яблыкі красці*».

Беларускі пераклад «Ліставання» падрыхтаваны на падставе капітальнага выдання: «Moniuszko Stanisław. Listy zebrane. Przygotował do druku Witold Rudziński przy współpracy Magdaleny Stokowskiej. Kraków, 1969». На яго 700 старонках пададзена больш за 800 аўтэнтычных матэрыялаў, што выйшлі з-пад пяра кампазітара: лісты, дакументы, артыкулы. Яно да сёння неперааўзыдзенае і не ўзнаўлялася.

Прапануем нізку пісем кампазітара, з якіх паўстаюць каларытныя малюнкі нашай сталіцы, «заштатнага» губернскага места.

*Язэп Янушкевіч*

### *Жонцы. Менск, 24 чэрвеня 1843 г.*

Тэатр уяўляе касцёл бэрнардынаў у Менску. Нядзеля. Тлум (цісканіна). Маладзён у акулярах, знуджаны мармытаннем ксяндза-казанніка, прадзіраецца праз людскі натоўп і нарэшце, выціснуты да бабінца, выпроствае пакамечаны капялюш, прыводзячы яго ў першапачатковы стан, — і пры такім занятку застае яго адна дама, і размова распачынаецца з гучных выклічнікаў.

— Мой князь!!!

— Каралева!

— Што тут ты робіш?

— Які выпадак прывёў цябе ў нашыя краі?

— Ай ты, жартаўнік — жартаўнік! Вось гэта нечаканка, далібог неспадзяванка...

— Не будзем пра мяне! Ты, зорка, гэтак нечакана мільганула на гэтым цёмным даляглядзе, адкуль, куды едзеш?

— Была ў Віцебску. Ах, які горад! Мой родны горад! Усё каралі, князі, валадары свету! І я паміж імі валадарыла. Не жадалі мяне адпускаць, нават была змушаная даць сябе выкрасці жыду-фурману, і цяпер я па дарозе ў Вільню!

— Ба!.. Каралева дазволіць прыняць лёгкі сняданак у свайго слугі?

— Не магу, мой князь! Толькі адсвяткую шабас і еду далей. Ты не будзеш пісаць да сваіх?

— Пісаць я не буду, але, прыехаўшы ў Вільню, скіруйся зараз жа да спадарыні палкоўнікавай [1] і скажы, што ты мяне сустрэла.

— Ай ты, жартаўнік! Бывай жа здаровы!

— Шчаслівай дарогі.

— А некалі, як прыедзеш жа ў Вільню, будзем мы валадарыць! Будзем, будзем.

Так размінулася тая далікатная пара,
Паважны маладзён і баба старая —
Хто ж гэта тая баба? Мэер *szkulepa*! [2]
А хто маладзён? *je ne sais pas*! [3]

Мінулы ліст быў гэтак няўважліва пісаны, што пра тую сустрэчу я забыўся папярэдзіць каханую Омку. Мэерава ўжо дагэтуль павінна была б давалачыся да вас. Што ж ты скажаш пра яе вагу? Як бачна, вандроўка па кароткіх гасцінцах розным па-living — па-рознаму служыць, бо бедны Манчыньскі памкнуўся з канцэртам, і калі сабралася 11 асобаў, вымушаны быў *ad meliora tempora* [4] адкласці. Сам сабе нашкодзіў. Цэлымі днямі спіць, ніякага знаёмства не заводзіць, а якія лепшыя надарыліся, дык і тыя не ўмее шанаваць, і аддаўся ў пратэкцыю менскім дурням маляваным. Дзякуй табе за віленскія плёткі, але не дзякую за жудасныя весткі пра нашыя інтарэсы. Калі мае лісты гэтак жа спраўна даходзяць, як твае, табе трэба дзівіцца, што ўжо трэці атрымліваеш з паўторным паведамленнем, што я выбіраюся з Менска да Ігнася з паўнамоцтвамі, якія ён павінен падпісаць. Калі атрымаецца рэалізаваць паспяхова той праект, мы можам усю скуплінскую справу з усімі яе турботамі лічыць скончанаю, бо Календа — чалавек вядомы, у сталых кантактах з грамадзянствам і які мае ад іх давер, а што найгалоўней, у яго самога ёсць контрагент на частку Скупліна, таму, маючы два бакі ў сваіх руках, яму будзе лёгка скончыць тую справу, якую б мы, самі робячы, і за некалькі гадоў не спарадчылі б. Але я ізноў падрабіўся пад стыль ліставання Сідаровіча, таму як хутчэй вяртаюся назад.

Быў я на менскім балі-маскарадзе! Даволі таго паведаміць, каб ты магла зразумець, як за мае 4 злотыя я быў частаваны. Людзей гэтым разам, не так, як заўсёды, было няшмат — але і тых мне хапіла. Распуста, манернічанне, моладзь, дзяўчаты, удовы і замужнія жанчыны... усе вартыя адзін аднаго!

Зан меўся выехаць некалькі дзён таму, але калі панна Свентаржэччанка прыехала ў Менск, бачыў яго яшчэ ўчора на шпацыры з ейнай кампаніяй. Гэта сапраўды дзяўчына ідэальных уяўленняў і вартая выключэння з дзявоцкай хеўры... Не маю шчасця ведаць яе асабіста, але даволі пачуць аповеды пра раманныя гісторыі, каб яе ацаніць.

Маме, самай добразычлівай маёй дабрадзейцы, найпяшчотней дзякую за некалькі слоўцаў — віншую з пячаткамі![5] Вельмі прыгожыя. Не маю часу асобна падзякаваць Міцкевічу за цудоўную «Мазурку», хачу гэты недахоп выправіць вусна.

Няма патрэбы апісваць, як жа я сумую па вас, бо ты мяне ведаеш. Неспадзяванкі табе прыездам маім я не зраблю, будзь спакойная.

Элёнка дарагога пацалуй і зрабі з ім за мяне гу-та-та!

Цябе я найсардэчна цалую, твой Станіслаў.

[1] Цешчу Манюшкі, Марылю Мюлераву, часта звалі «*палкоўнікавай*».
[2] *Мэер szkulepa* — размова пра акторку Барбару Мэер.
[3] Я не ведаю (фр.), травестацыйнае чатырохрадкоўе фрагмента балады Адама Міцкевіча «Свіцязянка».
[4] Да лепшых часоў (лац.).



Z wielkim moim żalem opuszczam Lwów, a ten żal powiększa niemożność przedstawienia się Jaśnie Wielmożnej Pani. Cieszę się tylko nadzieją że śród lata zdołam się jakoś iż będę mógł tu wrócić, ażeby bez żadnych koncertowych kłopotów, odetchnąć uprzejmością Galicyi.

Z głębokiem Uszanowaniem

Jaśnie Wielmożnej Pani Hrabiny

najniższy sługa

Stanisław Moniuszko.

1865 r. w Marcu 2 d. — Lwów.

Ліст Станіслава Манюшкі да графіні Марыі Патоцкай з Сангушкаў. 2 сакавіка 1865 г.

***Жонцы. Менск, 18 ліпеня 1843 г.***

Мая найдаражэйшая Аміно!

Праз некалькі хвілінак выязджаю з Навіцкім на Чарніцу (?) у Скуплін і сёння чакаў толькі пошты з Вільні, а паколькі не сёння, але ажно паслязаўтра пошта адсюль пойдзе да вас, то ўручаю гэтае лісцянятка ў рукі нашага фактора — не ведаю, як дойдзе. Шкадую, што не бачыўся з Жыльветрам, але не вельмі, бо мы дакладна ўквэчаныя[1] ўдзячнай афіцынай[2]. Пішучы гэта, мне прыходзіць думка, чаму і Завадзкія сваю друкарню назвалі афіцынай, напэўна, дзеля прывязанасці да нас. Пабачыцца са Стафановічамі не маю часу, таму пра справу Жалкоўскай нічога не паведамляю. Прыгаворваюць яны таксама нейкую гувернантку з Рыгі, але гэта яшчэ цалкам няпэўна і таму хочуць мець у запасе другую.

Я пісаў табе, просячы, каб напісала Кляшчыньскім і ад майго імя, а ты зноў звяртаешся да мяне з тым самым інтарэсам. Найдзіўнейшае ў гэтым тое, што мы ў адзін дзень, а можа і ў адну і тую ж самую гадзіну, пісалі пра гэта, бо пошта адсюль выходзіць у тыя самыя дні, што і з Вільні. Не ручаюся, што Кляшчыньскія нашыя лісты атрымаюць той самай поштай, перапрашаючы адно другое. Ты нічога новага не паведамляеш мне пра карэспандэнцыю панны YY са спадарыняй I[3]. Гэтая пара вартая адна адной і вартая шкадавання. Адна цяцёрка, другая цецярук. Адна марудная, а другая надта жвавая, у выніку чаго атрымліваецца, што разам утвараюць фатальную «бяжыць-ідзе». Прашу прабачэння!..

Менск такі глухі, як.. стрый[4]. Здаецца, што спакойны і не чуе, а ў вантробах сваіх точыць і душыць. Гэты тыдзень быў для мяне жахлівы, сапраўды пакутніцкі. Што за нуда! Што за людзі!! Гвалт! Колькі разоў выязджаю з гэтай мясцінкі[5], заўсёды ў мяне жаданне памыць рукі, твар і ногі абцерці.

Паслязаўтра імяніны таты, здаецца, што будзем святкаваць у Барысаве. Пашытую камізэльку аддам яму. Як паведамляюць з Чарніцы, Казюк здаровы, а можа адтуль і пісалі табе наўпрост. Бедны наш Элёнак! За якія грахі пакутуе гэтае дзіцянё — пацалуй яго ад мяне найпяшчотней, а маме-дабрадзейцы тысячу падзякаў за некалькі кінутых словаў. Сябе, на колькі можаш, любі і шануй; тваё найдаражэйшае здароўе — мой адзіны скарб. Прыкладу ўсе намаганні, каб як найхутчэй быць каля цябе.

Твой Станіслаў.

[1] *дакладна ўквэчаныя* — Ян Карловіч на копіі ліста тлумачыць: «*абгавораныя*», «*ачэрненыя*».
[2] *удзячнай афіцынай* — гэтак у сваіх лістах Манюшка зваў суседзяў, якія жылі ў флігелі хаты Мюлераў у Вільні. Гульня і сугучнасць словаў: «*oficyna*» — флігель; невялікая друкарня (саст.).
[3] Верагодна, удава Ігнася Манюшкі.
[4] Дзядзька (з боку бацькі).
[5] Адрасат ужыў пагарджальную форму слоўца «mieściska» — «гарадок», «городишко».
[6] Мабыць, дзядзька Ігнась Манюшка.
[7] Пані Омка (Алеся) чакала ў тую пару дзіця.

### *Жонцы. Менск, 15 чэрвеня 1845 г.*

Мая найдаражэйшая!

Я быў вельмі неспакойны за твой спакой.

Не мог я стрымаць слова, каб у чацвер выслаць табе ліст. Вандроўка наша гэтак зацягнулася, што замест панядзелка ўвечары дабраліся мы ў Менск толькі ў аўторак а першай гадзіне апоўдні, а гэта з прычыны разгону[1], які нам адразу на першай станцыі ад Вільні і на перадапошняй загадаў двойчы начаваць.

Бацькоў у хаце я не заспеў — былі ў Кальварышках[2], і я чакаў іх цэлыя чатыры гадзіны. Натуральна, што сюрпрыз быў выдатны.

На кантракты я не толькі не спазніўся, але нават з асобаў зацікаўленых у нашай справе быў самы першы: Слізень паехаў атрымліваць грошы. Машчыньскі да хворага. Козел нават учора прыехаў — але гэта звер рагаты: я не дужа спадзяюся, што з ім дамоўлюся — паслужыць толькі за пудзіла іншым пакупнікам. Адамавы толькі за дзень да мяне прыехалі.

Ваньковічы заўтра выязджаюць, таму ў панядзелак будуць у Вільні — няма патрэбы казаць, як варта прыняць іх належным чынам у нашай хаце, гэта значыць сціпла і годна.

Ігнась днямі павінен абавязкова прыехаць. Вось нагаварыў усяго, што нас датычыць найбліжэй. На будучым тыдні Доплер павінен выступць у шляхецкай зале. Учора ён іграў у Хржановіча (там, дзе жыў Навачак) і ўсіх захапіў надзвычайна. Можна спадзявацца, што да ста квіткоў будзе лёгка распрададзена без пратэкцый вялікіх мясцовых шышак. Да прыезду Морыса тэатр быў у вельмі занядбаным стане. Затое ўчора на першым ягоным выступленні была прорва люду і публіка разышлася ў вялікім захапленні; я не быў, але тата з мамай у ложы Адамаў. Ёсць тут Малеўскі, твой улюбёнец, ён на дарозе ў Вільню. Калі я кажу пра тэатр, міжволі другі спектакль просіцца пад пяро, пра які не хацеў бы й казаць, ба! нават не быць ягоным сведкам: працэсія Божага Цела адбылася з усёй пабожнасцю малітоўнага люду, якога можна былоналічыць да 3 000, і з усёй самай пампезнай ахвярнасцю з боку духавенства і ўсіх прысутных. Даволі сказаць, што біскуп не быў, а Імшу цэлебраваў інфулат[3] Дамброўскі. <...> Балдахін быў аточаны дзясяткам гарнізонных салдатаў з стрэльбамі і ў фуражках — падчас усяе працэсіі грымела музыка, выпярэджваючы развясёлы марш, напэўна, каб развеяць сумныя думкі, якія выклікаў выгляд усяго гэтага шматлюднага натоўпу. Я толькі з Ф. Завадскім, як сапраўдныя віленчукі, узнаўлялі ў памяці пышнасць і імпазантнае рэлігійнае ўражанне ад працэсіі Божага Цела ў Вільні. <...>

Што ж там у нашай Пагуляначцы?[4] Як дзятва, як пачуваецца Омка? Ці памятае пра мужавыя дзесяць загадаў? Ці шануе сваё найдаражэйшае здароўе?[5] Ці не ўваходзіць у непрыязныя, як дагэтуль, адносіны з Маліноўскім?.. Учора ўвечары я атрымаў ад Ёдкі ліст — іду цяпер яго адведаць.

Здаецца, што Аляксандра тут няма — калі б быў, дык я сустрэў бы яго ў харчэўні Цыбульскіх, дзе ён заўсёды харчуецца. У Дамініка[6] быў, але ён яшчэ спаў.

Злітуйся, мой Анёлку, напішы мне найшчырай, як ты там даеш рады ў касе з сваімі выдаткамі? Ростань на некалькі дзён з пярсцёнкам, гэтак для мяне дарагім, будзе для мяне яшчэ больш мілай, калі ты будзеш мець патрэбу ў дапамозе[7] — прашу цябе і малю пра гэта.

Маме каханай ручкі цалую.

Тата ёй напіша. Дзятву і цябе найпяшчотней абдымаю.

Твой Чацвер, ці гэтым разам Пятніца, або: Пятнічак.

[1] *...з прычыны разгону* — «гэта значыць з-за адсутнасці паштовых коней» (заўвага Яна Карловіча на копіі, ВМТ Кс 26). Гл. таксама ў «Слоўніку» І.Насовіча («Усі коні ў разгонцы»).

[2] *Кальварышкі* — «вёска ў некалькіх кіламетрах ад Менска» (заўвага Карловіча на аўтографе карэспандэнцыі). Дакладней, маёнтак у Менскім павеце Сёмкава-Гарадзецкай воласці першага стана, за 2 вярсты ад Менску (Список населенных мест Минской губернии. Составил В.С.Ярмолович. С. 79).

[3] *інфулат* (ад infuia — мітра) — прэлат, які мае права насіць мітру. Пра асобу біскупа Дамброўскага звестак няма.

[4] *Пагуляначка* — прадмесце Вільні (Пагулянка), на якім Манюшкі неаднаразова праводзілі вакацыі.

[5] *Ці шануе здароўе*? — жонка кампазітара зноў была цяжарнай.

[6] *У Дамініка быў...* — згадка пра дзядзьку (Дамініка Манюшку).

[7] Размова пра заклад пярсцёнка з прычыны матэрыяльных цяжкасцяў.

*Публікацыя і пераклад з польскай мовы*
*Язэпа Янушкевіча.*

**Язэп ЯНУШКЕВІЧ** — літаратуразнаўца, кандыдат філалагічных навук. Нарадзіўся ў мястэчку Ракаў у 1959 г. У 1981 г. скончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. У 1984 г. — аспірантуру ў Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы Акадэміі навук Беларусі.
Аўтар звыш 200 публікацый, у тым ліку кніг «Беларускі Дудар: Праблема славянскіх традыцый і ўплываў у творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча» (1991); «У прадчуванні знаходак: З адной вандроўкі ў архівы Варшавы, Вроцлава, Кракава» (1994); «Неадменны сакратар Адраджэння: Вацлаў Ластоўскі» (1995); «За архіўным парогам» (2002). На высокім тэксталагічным узроўні падрыхтаваў і выдаў творчую спадчыну шматлікіх дзеячаў беларускай культуры і літаратуры: аднатомнікі твораў Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча (1984, 2001), Францішка Багушэвіча (1991, 1998, 2001), Вацлава Ластоўскага (1997, 2001).

Дзмітрый Міраў

# Думкі аб выхаванні чалавека



Фларыян Бохвіц.

Сто семдзесят гадоў таму, зімой 1841 года, у Вільні быў дадзены дазвол на выданне твора «Асаблівасці маіх думак і пачуццяў» беларускага і польскага філосафа і педагога Фларыяна Бохвіца. Імя гэтага вядомага ў XIX стагоддзі мысляра сёння, на жаль, амаль забытае, аднак філасофскія і педагагічныя ідэі Бохвіца зноў набываюць актуальнасць.

Жыццё Фларыяна Бохвіца было цесна звязанае з Беларуссю. Будучы філосаф нарадзіўся ў 1799 г. у мястэчку Мір у шляхецкай сям'і сярэдняга дастатку. Бацька Фларыяна Рамуальд быў пратэстантам, а маці Анэлія — перакананай каталічкай. Яна выхавала сына ў духу сваёй веры. Школьныя гады Фларыяна прайшлі ў Нясвіжы, дзе ён вучыўся ў школе пры кляштары дамініканцаў. Затым Бохвіц працягваў адукацыю на юрыдычных факультэтах Кіеўскага і Віленскага ўніверсітэтаў. Пасля атрымання вышэйшай адукацыі ён некаторы час працаваў адвакатам у Навагрудку, уваходзіў у склад мясцовай асацыяцыі адвакатаў. Аднак адвакацкая практыка не захапляла Фларыяна Ф. Бохвіца. Ён жадаў вясковай цішыні, дзе мог займацца філасофскімі развažаннямі. Ажаніўшыся з Паўлінай Маеўскай, сваячкай Адама Міцкевіча, Фларыян Бохвіц купіў у 1838 г. невялічкі маёнтак Вашкоўцы на Ляхавіччыне, дзе заняўся сельскай гаспадаркай.

У Вашкоўцах сям'я жыла ў старой драўлянай хаце, значную частку якой займала сабраная Ф. Бохвіцам каштоўная бібліятэка з багатым зборам часопісаў. У гэтым утульным месцы збіралася ў тыя гады мясцовая інтэлігенцыя, прыязджалі сюды літаратары і філосафы, сябры Фларыяна Бохвіца.


ZASADY
MYŚLI
I
UCZUĆ MOICH
PRZEZ
F. BOCHWICA.
WILNO
NAKŁADEM I DRUKIEM
TEOFILA GLÜCKSBERGA
KSIĘGARZA I TYPOGRAFA WILEŃSKIÉJ CESARSKIÉJ MED. CHIR. AKAD. I SZKÓŁ BIAŁORUSKIEGO NAUKOWEGO WYDZIAŁU.
1842.

Тытульны ліст кнігі «Асаблівасці маіх думак і пачуццяў».

У Вашкоўцах Бохвіц напісаў свае філасофскія працы. Першы яго твор — «Сутнасць маёй думкі. На памяць жонцы і дзецям» — быў выдадзены ў Вільні ў 1838 годзе. Працягам гэтай працы стала кніга «Сутнасць маёй думкі аб мэтах існавання чалавека». У 1842 г. убачыла свет кніга Бохвіца пад назваю «Асновы маіх думак і пачуццяў», а ў 1847 г. — «Думкі аб выхаванні чалавека». У цэнтры ўвагі мысляра знаходзіліся маральныя і педагагічныя праблемы. Фларыян Бохвіц распрацаваў шэраг этычных праблемаў, падкрэсліваючы значэнне працы ў жыцці грамадства, заахвочваючы прыхільнае стаўленне да прыватнай уласнасці і павагу да дзяржаўнай законнасці. Ён выступаў за выхаванне найбольш карысных для грамадства людзей шляхам зліцця адукацыі з працоўнай дзейнасцю і гарманічнага развіцця разумовых і фізічных здольнасцяў. У прадмове да «Думак аб выхаванні чалавека» філосаф адзначаў, што чалавек, які з'яўляецца на свет

**Дзмітрый Міраў** — гісторык. Нарадзіўся 30 мая 1986 года. У 2009 г. скончыў гістарычны факультэт Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна. У 2011 г. паспяхова абараніў дысертацыю на ступень магістра гістарычных навук. Даследуе дзейнасць польскіх узброеных сілаў на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Аўтар шэрагу артыкулаў краязнаўчай тэматыкі ў перыядычных выданнях Беларусі і Польшчы. Жыве ў Баранавічах.

толькі адзін раз, павінен рэалізаваць усе свае здольнасці, каб не знікнуць з гэтага свету, як цень. Фларыян Бохвіц лічыў, што людзям дадзена здольнасць даведвацца пра ўсё на свеце, што іх здзіўляе, што з'яўляецца мудрым, дабрачынным, боскім. Гэтая здольнасць развіваецца ў чалавека з дзяцінства, а бацькі павінны дапамагаць у гэтым, схіляць дзіця да добрых учынкаў. У гэтай здольнасці, пісаў Ф. Бохвіц, чытаецца воля Бога, каб людзі праз навуку і маральныя ўчынкі развівалі ў сабе веды, каханне і ўласную волю. Як бачым, сваю педагагічную сістэму выхавання і навучання Фларыян Бохвіц пабудаваў на прынцыпах асветы і рэлігійнай маралі. І сапраўды, у супрацьлегласць ідэям вальнадумства і атэізму, што панавалі ў эпоху Асветніцтва, мысляр адстойваў вяршэнства рэлігіі ва ўсіх чалавечых думках і справах. Таму Фларыяна Бохвіца лічаць прадстаўніком хрысціянскай філасофіі. Акрамя гэтага, значнае месца ў яго творах займаюць такія праблемы, як прыхільнае стаўленне да бацькоў, да інстытутаў шлюбу і сям'і. На думку Ф. Бохвіца, Бог з самага пачатку натхніў людзей ідэяй шлюбу, што заўсёды лічыўся ўсімі народамі святочным, святым звычаем, без якога людзі апусціліся б у сваім развіцці на адзін узровень з жывёламі.

Філосаф закранаў таксама пытанні грамадска-палітычнага характару. Ён не бачыў будучыні індывіда па-за грамадствам. У «Думках аб выхаванні» ёсць такія радкі: «Чалавек не можа таксама абысціся без грамадства. Маці патрабуе дапамогі бліжніх, каб нарадзіць і гадаваць дзіця. Адзін чалавек, без узаемадзеяння з іншымі, не зробіць для сябе адзення, ежы, жылля. Таму з-за патрэбы ў кантактах з грамадствам у нас узнікаюць узаемаадносіны, абавязкі, якія патрабуюць ад унутранага „Я" думаць, кахаць і кантраляваць сваю волю». Але не толькі грамадства павінна паляпшаць жыццё кожнага чалавека, а і сам чалавек у працэсе свайго жыцця павінен прыносіць карысць грамадству. Таму адзін з тэзісаў Ф. Бохвіца абвяшчае: «Нам трэба вучыцца таму, што сапраўды развівае нашыя веды, што робіць нас карыснымі грамадству на розных пасадах і ў розных жыццёвых абставінах. Нам трэба вучыцца таму, што цікавіць чалавецтва і тлумачыць сэнс яго існавання». Філосаф пісаў, што людзям дадзены даволі працяглы час маладосці і таму першыя дваццаць гадоў жыцця проста прызначаны для навукі. І самы ўбогі, і самы багаты чалавек, лічыў Ф. Бохвіц, у кожным без выключэння стане, павінен атрымаць у час маладосці пэўную адукацыю.



Сядзіба Бохвіцаў у Вашкоўцах (сучасны выгляд).

Менавіта ў такім духу былі выхаваныя сыны і ўнукі Фларыяна Бохвіца, якія сталі адукаванымі і ўсебакова развітымі людзьмі. Адзін з сыноў Фларыяна Бохвіца, Ян Атон, актыўны ўдзельнік паўстання 1863 года, пісаў вершы, быў вядомым грамадскім дзеячам, спецыялістам у галіне сельскай гаспадаркі, асабліва садоўніцтва. Ян Атон актыўна займаўся памалогіяй — навукай аб гатунках пладовых раслінаў і адборы найбольш перспектыўных з іх. Яго даследаванні былі апублікаваныя ў працах «Некаторыя агародніцкія назіранні», «Як закладваць і даглядаць сады». Недалёка ад Вашкоўцаў ён заснаваў уласную сядзібу, названую ў гонар бацькі Фларыянава, і зарэкамендаваў сябе добрым гаспадаром. Тадэвуш Бохвіц, старэйшы сын Яна Атона, вядомы як блізкі сябар Элізы Ажэшкі. Іх перапіска склала больш за трыста старонак мастацкай прозы. Акрамя таго, Тадэвуш ведаў некалькі замежных моваў, сур'ёзна захапляўся гісторыяй журналістыкі.

Пісьменнік, педагог і філосаф Фларыян Бохвіц пражыў у сваім маёнтку ў Вашкоўцах да канца жыцця. Ён памёр 9 жніўня 1856 года, а пахаваны быў на каталіцкіх могілках у вёсцы Дарава (цяпер у Ляхавіцкім раёне). Надпіс, зроблены на помніку мысляру, быў вельмі сімвалічным: «Хай твой прыклад паказвае нам дарогі праўды».

Творы Фларыяна Бохвіца былі выдадзеныя ў Вільні на польскай мове і з'яўляюцца сёння бібліяграфічнай каштоўнасцю. Знайсці іх даволі складана, аднак у аматараў айчыннай гісторыі ўсё ж ёсць шанц прачытаць працы філосафа ў электронным варыянце. Хочацца спадзявацца, што яны будуць перакладзены і выдадзены ў Беларусі для шырокага кола чытачоў.

Сяргей Кандрычын

# ПАВАГА — АДКАЗНАСЦЬ — ЛЮБОЎ: ДАРОГА НАПЕРАД

*(роздум навукоўца)*

Тэкст Святога Пісання жывы для ўсіх — і для пастуха старажытнага Рыма, і для топ-менеджара нашых часоў. Ён адаптаваны да кожнага этапу гісторыі, асабліва да найбольш выпрабавальных яе момантаў, а спосабы яго разумення мяняюцца разам з ростам здольнасцяў чалавека. Сёння мы можам прызнаць існаванне рознага зместу, або сэнсаў рознай складанасці ў тэксце Святога Пісання, і выбар ступені складанасці залежыць ад нашага вопыту і розуму, які набываецца ў працэсе развіцця асобы і ўсёй цывілізацыі[1]. Менавіта таму гэта Кніга на тысячагоддзі, і розныя сэнсы, закладзеныя ў ёй, не замінаюць духу вучэння, а толькі па-новаму прымушаюць успрымаць яго. Словы Святога Пісання адразу ажываюць, калі чалавек іх усведамляе, і гэтыя ж словы набіраюць вялізную моц, калі трывала ўваходзяць у яго жыццё.

Дух Бібліі — стан пошуку і руплівай працы, а не стан супакою і асалоды, гэта рух душы, а не застылыя яе формы. Біблейскія запаведзі задаюць кірунак руху, прымушаюць да працы розуму і працы духу. Сапраўднае хрысціянства — гэта заўсёды творчы працэс (пра які марыў М. Бярдзяеў).

Кожная асоба ў выключных абставінах і ўмовах, якія выпалі на яе долю, або ў сітуацыі «тут і цяпер», павінна адрозніць дабро ад зла, здзейсніць свой выбар, прыняць рашэнне аб нейкім самастойным учынку. Якім будзе гэты ўчынак — залежыць ад духоўных і фізічных здольнасцяў асобы, а таксама ад тых этычных і культурных нормаў, якія засвоіў чалавек на працягу жыцця.

Мараль і нормы культуры складаліся цягам гісторыі ўсяго чалавецтва, і гэты працэс не спынены. У штодзённай практыцы мы нават не задумваемся аб «нармальнасці» ці адпаведнасці нормам большасці нашых учынкаў, бо яны вызначаны полем дзеяння адпаведнай культуры. Роля хрысціянскай маралі ў фармаванні культурнага поля вялізная, і значнасць гэтай маралі ўзрастае, калі чалавек трапляе ў выпрабавальныя сітуацыі, дзе ён вымушаны «выкарыстаць агульныя веды пра дабро і тым самым выказаць сваё меркаванне аб правільнасці формы паводзінаў тут і цяпер» (Ян Павел II).

Менавіта надзея на добры ўчынак у час выпрабавання закладзена ў сарцавіну хрысціянства, задача якога бачыцца ў назапашванні добрых учынкаў. «Усё, што дабро, то нашае» (святы Юстын).

Звычайна нашы паводзіны вызначаны ўплывам асяроддзя і спраектаваныя на пазіцыю асяроддзя або на ацэнку звонку. Аднак ацэнкі нашых дзеянняў па восі «дабро — зло» з боку вонкавых назіральнікаў могуць розніцца. Тыя ж вонкавыя назіральнікі могуць мець цалкам рознае стаўленне да нашых станоўчых ці адмоўных учынкаў. Таму, каб не згубіцца ў разнародных вонкавых арыенцірах, мы намагаемся дастасаваць нашы дзеянні да запатрабаванняў нейкай асобнай (рэферэнтнай) групы, увага і думка якой для нас найбольш істотныя. Разам з тым у час выпрабавання нават добра вядомая пазіцыя паважаных намі асобаў ці інстытутаў не вызваляе ад неабходнасці самастойнага ўчынку (хоць нярэдка ўся наша самастойнасць заключаецца ў хаванні за нейкую публічную думку).

Трэба добра ўсведамляць, што без надзейных механізмаў псіхалагічнай абароны (Фрэйд) ніякая асоба не здольная на паўнавартаснае жыццё. Мы павінны ўспрымаць уласныя паводзіны як адпаведныя нормам, нягледзячы на правакуючыя

**Кандрычын Сяргей** — кандыдат сацыялагічных навук, урач кардыёлаг. Аўтар шматлікіх артыкулаў па сацыялогіі. Нарадзіўся ў 1964 годзе ў Гродне. Жыве і працуе ў Мінску.

вонкавыя ўплывы і магчымыя адрозненні ў ацэнках. Толькі вось мяжа паміж паталагічнымі і адаптыўнымі формамі гэтай абароны даволі няпэўная і хісткая. Напрыклад, што з таго, калі мы даведаліся, што ў афрыканскіх краінах штодня паміраюць ад голаду сотні дзяцей, а ў Расіі амаль штогод згараюць дамы прытулку інвалідаў разам з людзьмі? А можа дастаткова цвяроза паглядзець на тое, што робіцца вакол нас? Ці адчуваем мы асабістую адказнасць за тое, што адбываецца навокал? І як рэалізуем яе «тут і цяпер»?

Рэлігія можа стаць надзейным спосабам духоўнай абароны, аднак калі яна дапамагае адгарадзіцца ад мірскіх справаў, стварае штучную заслону ад жыцця, то выступае ўжо як сродак паталагічнай абароны, ператвараецца ў «мёртвую веру». Добра вядомыя прэтэнзіі да рэлігіі як да сродку, што «перамяшчае цэнтр жыцця па-за межы самога жыцця» (Ф. Ніцшэ), ці да сродку «ілюзорнага шчасця», які падобна опіуму парушае сувязь асобы з рэчаіснасцю (К. Маркс).

Відавочна, што гэтыя філосафы «рэжуць праўду-матку», і нам вядомыя наступствы тых грамадскіх працэсаў, да якіх мела дачыненне іх «бескампрамісная» філасофія. Іх пазіцыя аднабаковая і небяспечная, але яна мае пад сабою моцную глебу, бо падзел паміж вераю і жыццём насамрэч існуе і нельга не заўважаць яго існавання. Гэты падзел непазбежны, і ён не на карысць веры і не на карысць жыцця.

Жыццё чалавека павінна мець плён — ім павінны стварацца нейкі матэрыяльны ці духоўны прадукт. Калі добрага плёну няма, то лёс чалавека падобны да лёсу кепскага семені, пасеянага на кепскай глебе. Рэлігія (дакладней, рэлігіі) заклікана дапамагчы стварыць гэты выніковы прадукт на нейкай адметнай культурнай глебе. Вера надае сэнс працы і жыццю. Любыя спробы рацыяналізацыі жыцця без аднясення да найвышэйшых каштоўнасцяў выглядаюць няпэўнымі, у той час калі рацыянальныя трактоўкі праяваў духоўнай сферы ў прынцыпе немагчымыя. У гэтым заключаецца парадокс рацыянальнасці: бо рацыянальнасць, якую здольны ацаніць чалавек, абмежаваная тым сегментам яго жыцця, што прадстаўлены ў выглядзе таварна-грашовых адносінаў ці базавых фізіялагічных патрэбаў. За межамі гэтай дзейнасці падставы рацыянальнасці паступова губляюцца, бо набіраюць сілу нормы культуры, інстынкты ці іншыя рэгулятары паводзінаў, а іх тлумачэнне зводзіцца да банальнага «так трэба» або «так было заўсёды». Падобным тлумачэнням ёсць альтэрнатыва — таямнічая разумнасць свету, цалкам закрытая для рацыяналізму (Г. Марсэль).

Заўважым, што дакаранні ў адарванасці ад жыцця больш адносяцца да інстытуту рэлігіі і Касцёла, чым да самога вучэння. Любыя сацыяльныя інстытуты (любая Царква) не могуць быць дасканалымі, яны заўсёды павінны расці, а думкі, ідэі і дух Святога Пісання з'яўляюцца стымулятарамі гэтага *росту*.

Паспрабуем вызначыць тую сферу, дзе падзел паміж патрэбамі штодзённага жыцця і ідэямі хрысціянства, а дакладней, паміж законамі жыцця грамадства і Законам біблейскім павінен быць мінімальны. У гэтай сферы ўзаемадзеянне веры і розуму павінна быць найбольш плённым, бо мы ўжо хіба дараслі да таго, каб свядома ўспрымаць веліч і прастату Божых запаведзяў. Насамрэч, чалавецтва праходзіць шлях ад метадаў рэгуляцыі паводзінаў у выглядзе сляпога жаху перад найвышэйшай сілай ці нязнаным абсалютам да разумення і актыўнага ўдзелу ў Божай працы, прынамсі, да частковага ўсведамлення значэння біблейскіх запаведзяў: «каб праз іх вы сталі саўдзельнікамі Боскай сутнасці» (2 П 1, 4).

Сёння, калі разуменне веры робіцца ўсё больш індывідуалістычным[2], стаўленне да Закону павінна быць асноўным механізмам, што згуртоўвае прыхільнікаў хрысціянства. Падзел паміж Законам і верай (ці «Законам і Дабравесцем») правесці можна, але ён пераважна штучны, бо вера без Закону існаваць не можа (мёртвая вера), а Закон без веры можа існаваць у нейкіх «прымітыўных» формах, але гэтыя формы — ненадзейны прытулак духу. Незалежна ад падыходаў атрымоўваецца, што добрая вера — гэта тая, якая найлепей дапамагае здзяйсняць Закон.

Змест Дэкалогу даволі празрысты, але заўсёды з'яўляюцца цяжкасці і выпрабаванні пры рэалізацыі Закону ці пры наданні яму канкрэтнага сэнсу. Разуменне таго, што маральнасць можа існаваць асобна ад нейкіх канкрэтных формаў веры — істотны фактар уплыву на выбар рэлігійнай пазіцыі. А калі прызнаць, што праўда не можа быць інстытуцыяналізаваная ці цалкам спасцігнутая Царквой, суадносіны паміж розумам і верай робяцца яшчэ больш няпэўнымі. Аднак гэты стан няпэўнасці, або адчуванне неабходнасці пошуку, выглядаюць больш натуральнымі, чым непахіснае ўсведамленне сваёй правільнасці. Менавіта ў сітуацыі ломкі ці ак-

тыўнага фармавання поглядаў, або ў «перыяды сумненняў і хваляванняў», з'яўляецца магчымасць для веры і розуму выступаць «адносна адно аднаго ў якасці крытычнага і ачышчальнага фактару, а таксама стымулу, які натхняе на далейшыя пошукі і глыбокі роздум» (Ян Павел ІІ). Гэта перыяды духоўнага росту.

Дух Бібліі даўно жыве па-за самім тэкстам. Прыгадайма, колькі разоў і пры розных абставінах мы чулі або пра бервяно, якое не заўважаем у сваім воку, або іншыя ўрыўкі з хрысціянскіх запаведзяў. Сёння ўспрымаецца як відавочнае: «Усё, што хочаце, каб вам рабілі людзі, і вы ім рабіце. Бо ў гэтым Закон і Прарокі» (Мц 7, 12)

Хіба не варта пачынаць дыскусію з разумнікамі, якія задаюць пытанні накшталт: «А калі чалавек не жадае, каб да яго адносіліся добра? Або калі ён злы на сябе і на ўвесь свет?» Відавочна, што гэта сфера паталогіі і тут павінны дзейнічаць нормы Закону і дапамогі. Сёння нельга прымітыўна, неасэнсавана прымаць і выказваць «любоў да бліжняга» ці «любоў да Бога», бо калі гэта проста дэкларацыі, то яны застаюцца пустым гукам. Хрысціянская любоў — гэта не салодкія ўсмешкі: «Дзеці, не будзем жа любіць словам ці моваю, але ўчынкам і праўдаю» (1 Ян 3, 18).

І справа не толькі ў вялізнай семантычнай нагрузцы, якую мае слова «любоў» як у хрысціянстве так і ў паспалітай мове. У выказванні гэтай любові закладзены творчасць і праца, як і ва ўсім вучэнні. Трэба разумець, што «бліжні» — гэта не толькі той, хто жыве побач або з кім штодня сустракаешся на вуліцы ці на працы, але і той, з кім уступаеш у сутыкненне ці барацьбу; або гэта асоба, з якой маеш найбольш кропак суаднясення і ад якой залежыць твой лёс.

Вучэнне Хрыста не дазваляе селектыўна ставіцца да нашага атачэння або праяўляць «любоў» і добразычлівыя адносіны толькі там, дзе іх праявіць зручней (зноў жа, больш рацыянальна). Нельга адводзіць позірк ад самых вострых момантаў нашага жыцця — выпадкаў сутыкнення з «бліжнімі», асобамі і групамі, якія нам не сімпатычныя: напрыклад, іншыя палітычныя партыі ці іншыя канфесіі (бо няма нічога больш невыноснага, чым агітатары за памылковы палітычны курс або актыўныя прыхільнікі «памылковай» рэлігіі). Прыгадайма, што каб эфектыўна разабрацца з ідэйным ворагам ці канкурэнтам, часцей выкарыстоўваецца ярлык, запускаюцца механізмы стэрэатыпізацыі: «вораг народа», «вораг нацыі», «слуга д'ябла», «не той крыві», «не той веры», «ерэтык»...

Мы запраграмаваныя на супрацьдзеянне і канкурэнцыю, але наколькі гэта будзе адпавядаць нормам маралі залежыць ад нас. Чалавек не можа жыць адасоблена ад свету, ён непазбежна ўступае ў сістэму іерархічных адносін і спрабуе дасягнуць вынікаў: намагаецца быць лепшым вучнем (у тым ліку і лепшым вучнем Хрыста), лепшым спартсменам, лепшым бізнесменам і г.д. «Ці не ведаеце вы, што на стадыёне бягуць усе бегуны, але ўзнагароду атрымлівае адзін? Дык бяжыце так, каб атрымаць яе!» (1 Кар 9, 24).

Гэта натуральна, бо гэта рух самога жыцця, але цяжка ўявіць сабе гэты рух без правілаў і этычных нормаў. Калі на хакейную пляцоўку выйсці са стрэльбаю, усім зразумела, што гульня адбудзецца не па правілах, а калі тое ж робіцца ў палітыцы, то нехта спрабуе акрэсліць гэта як «жорсткія рэаліі жыцця». У сутыкненні асобаў і думак нормы хрысціянскай маралі набываюць значэнне асноўнага рэгулюючага механізма (у ідэале гэта прававыя нормы, толькі да іх далучаюць механізмы дзяржаўнага рэгулявання). Альтэрнатыва першынству маралі толькі адна — «вайна кожнага супраць усіх» і монстр-дзяржава ў якасці ўсё кантралюючага Левіяфана (Гобс).

У штодзённых сутыкненнях хрысціянская любоў больш разумецца як павага да бліжняга, як фармальная так і рэальная. «Мірыся з праціўнікам тваім хутка...» (Мц 5, 25). «Любіце ворагаў вашых...» (Мц 5, 44). Згадаем выпадкі выказвання «павагі» пасажырамі ў перапоўненым транспарце... Часам працэдура праяўлення павагі (ці непавагі) адбываецца аўтаматычна, як элемент культурнай традыцыі, але ў большасці выпадкаў яна патрабуе духоўных высілкаў.

Змест хрысціянскай любові, безумоўна, заснаваны на павазе да чалавека як да адметнай асобы са сваімі поглядамі і дасягненнямі. Кожны з нас востра ўспрымае адсутнасць павагі і разумення. Сітуацыя тыповая для аўтарытарнага грамадства. Згадаем вядомае п'янае адкрыццё: «Ты меня уважаешь?» Паспрабуйце выкарыстаць замест «уважаешь» слова «любіш».... Атрымаецца зусім не тое...

Павага і любоў да асобы, павага да жыцця неразрыўныя з адказнасцю за жыццё іншых. У першую чаргу за тое жыццё, да зараджэння якога ты маеш непасрэднае дачыненне. Пытанне аб рэгуляванні рэпрадукцыйнай функцыі не мае простага

рашэння. З аднаго боку тут пазіцыя Касцёла — «pro vitae», з другога — рэальнае жыццё, якое не дазваляе фармальнага стаўлення.

Чалавек, які прымае на сябе адказнасць за народжанае ім дзіця, з'яўляецца гарантам яго нармальнай будучыні, але калі ён такой адказнасці не мае, жыццё дзіцяці ператвараецца ў шэраг выпрабаванняў, за якія ўжо ніхто канкрэтна адказнасці не нясе або яна пасіўна перакладаецца на ўсіх. Прывядзем прыклад планетарнага маштабу: з аднаго боку — Кітай з палітыкай рэгулявання нараджальнасці, з другога боку — афрыканскія краіны з некантралюемым ростам насельніцтва і дзіцячай смяротнасцю ад голаду і хваробаў. Можа, хтосьці і знойдзе нейкія станоўчыя моманты ў другім прыкладзе і нават вызначыць вінаватых, якія не дазваляюць гэтым станоўчым момантам рэалізавацца, але «афрыканскі» прыклад менш сімпатычны, бо там мала рэальнай павагі да жыцця.

Дыскусія аб маральных аспектах карыстання сродкамі кантрацэпцыі і перарывання цяжарнасці не дазваляе выкарыстоўваць фармальныя штампы і спрашчэнні. Цвёрдая пазіцыя Касцёла ў шматлікіх выпадках дазваляе ратаваць будучае жыццё, бо ў нашым грамадстве часцей узнікае праблема не са шматдзетнымі сем'ямі, а з нараджэннем першага, а можа і адзінага дзіцяці (добры прыклад у стужцы «Востраў»).

Аднак гэтая цвёрдасць пазіцыі Касцёла павінна быць дзеля жыцця, а не для захоўвання формаў веры. Добра вядома, што найбольшая спакуса для верніка і для Касцёла — выносіць прысуд. Калі пазіцыя адносна практыкі перарывання цяжарнасці сканцэнтраваная толькі на самім моманце аборту, а ўсе астатнія пытанні, якія існуюць да і пасля аборту разглядаюцца як другасныя або самавырашальныя, то слабасць такой пазіцыі відавочная. Варта прызнаць комплексны характар праблемы, у вырашэнні якой адказнасць за біялагічнае і сацыяльнае жыццё маці і дзіцяці мае першаснае значэнне.

У якасці прыкладу звернем увагу на некаторыя «гендэрныя» аспекты праблемы. Увесь цяжар выпрабаванняў і сам «цяжкі грэх» кладзецца на плечы маладой жанчыны (часам і яе бацькоў). Мужчына выконвае больш «станоўчую» ролю: ён усяго толькі садзейнічаў узнікненню новага жыцця, і тое, што ён адмаўляецца ад удзелу ў яго станаўленні, безумоўна, кепска, але значна «меншы грэх», чым здзяйсняе яго ўжо былая сяброўка. Святар вынесе маральны прысуд, а далейшы лёс маці і дзіцяці перакладаецца на ласку Пана Бога. Не выключана, што да гэтай жанчыны падыдзе нейкі «добрасумленны вернік» і прыгадае, што, маўляў, ты дачка Евы, якая саграшыла, і цяпер павінна адказваць за гэты грэх. Найбольш «прываблiваюць» парады некаторых палітыкаў: маўляў, вы нараджайце дзяцей для дзяржавы, а калі вы не хочаце іх выхоўваць самі — мы іх забярэм і ўсім забяспечым. Зразумела, чаго ва ўмовах нашай сацыяльнай сістэмы варты той клопат.

Між тым пашыраецца з'ява сіроцтва пры жывых бацьках. Нярэдка жанчына адмаўляецца ад дзіцяці ўжо ў раддоме (нават атрымлівае ад дзяржавы грошы за «адказніка»). Але наколькі такія паводзіны лепшыя за аборт, цяжка сказаць. Павінна быць адказнасць за гэтых пакінутых дзяцей, якія часцей схільныя да дэструктыўных ці крымінальных паводзінаў, часцей паміраюць ад хваробаў, пакутуюць у жыцці і нясуць пакуты іншым (Кетле).

У сувязі з гэтым варта ўспомніць і пра адказнасць за жыццё маладых жанчын, якія пад прэсам асяроддзя часам намагаюцца захаваць у тайне сваю цяжарнасць і вырашаюць рабіць крымінальны аборт, што нярэдка мае драматычныя наступствы. А можа гэта проста кара грэшніцам і не варта спыняцца на нешматлікіх выпадках іх смерці?..

У жыцці няма ўніверсальных рашэнняў, і ад самастойнага выбару чалавека ніхто не вызваляе. Тым не менш ад гэтага выбару мы часцей намагаемся ўхіліцца, бо самастойны ўчынак патрабуе значных высілкаў, часам выклікае неспакой і небяспеку для жыцця. Многія людзі нават не адчуваюць неабходнасці ў прыняцці ўласнага рашэння і хаваюцца за плечы «аўтарытэтаў» ці афіцыйных дактрынаў. Менавіта тады і з'яўляюцца на свет гістарычныя выслоўі кшталту: «Я за тых, за каго правадыр» або «Я проста выконваў загад»....

Аднак ёсць і сумленная альтэрнатыва: кожны з нас павінен скіроўвацца на духоўную сілу Пана Бога, якога адчуваў бы сваім сэрцам, а не рабіць сабе няпэўных куміраў. Гэта першае патрабаванне Закону, самае галоўнае і самае цяжкае для выканання.

Прыстасавальніцтва (канфармізм) ва ўзаемадзеянні з асяроддзем — непазбежны элемент нашага жыцця. Дзеянні сацыяльнага прэсу фактычна нельга пазбегнуць і зададзеныя ім формы паводзінаў таксама выконваюць або адаптыўную, або паталагічную функцыю («...яшчэ ў

гэтую ноч, перш чым заспявае певень, тройчы адрачэшся ад Мяне»; Мц 26, 34).

Чалавек павінен разумець свае слабасці і памылкі і намагацца іх выправіць — у гэтым сэнс пакаяння. І зноў жа, гэтая праца немагчыма без арыенціра на найвышэйшую сілу і вялікія прыклады працы Духа. Аднак гэтую працу павінен выконваць сам чалавек. Ён павінен прапусціць праз сябе, праз сваё сумленне суму сітуацыйных уздзеянняў і прыняць уласнае рашэнне. Гэты працэс часцей павінен быць зарыентаваны на асяроддзе.

Калі сацыяльнае асяроддзе здаровае, то асоба атрымлівае моцны стымул для такой працы, і наадварот, калі паталагічнае вонкавае ўздзеянне інстытуалізаванае (фармальна ўзаконенае), то стымул для духоўнай працы не ўзнікне.

Здаровая дзяржава — гэта тая, функцыянаванне якой не пярэчыць Закону. Наогул, ці можа пярэчыць сучаснае заканадаўства Закону або ці можа Закон пярэчыць заканадаўству (ці магчыма сітуацыя закон vs Закон)? Не будзем шукаць юрыдычныя хітрыкі ці разважаць аб «літары і духу» розных законаў. Адно пэўна — Закону пярэчыць тое заканадаўства, якое не выконваецца ці проста дэкларуецца або выконваецца селектыўна (для «нашых»).

Сучасныя веды дазваляюць ацаніць дзейную моц хрысціянскіх запаведзяў. Іншымі словамі, мы дараслі да таго, каб зразумець, што біблейскія запаведзі не супярэчаць законам жыцця грамадства (або сучасныя маральныя і этычныя нормы павінны грунтавацца на гэтых запаведзях)[3].

На чым сапраўды варта сканцэнтравацца, дык гэта на ўвядзенні ў школьную праграму вывучэння асноваў хрысціянскай маралі. У Расіі гэтую неабходнасць зразумелі, але там узніклі цяжкасці з рознымі рэлігійнымі плынямі. У Беларусі ёсць усе падставы ўводзіць «хрысціянскую мараль» у саму назву прадмета. Прадмет павінен быць свецкім, але прадстаўнікі асноўных хрысціянскіх канфесіяў павінны прымаць удзел у распрацоўцы праграмы і ажыццяўляць кантроль за яе выкананнем. Пытанні праграмы павінны грунтавацца вакол маральных і духоўных каштоўнасцяў тэксту Святога Пісання, а пытанне практыкі веры застанецца па-за вучэбным курсам. Ці будзе гэта яшчэ адзін «пусты» прадмет — залежыць ад яго выкладчыкаў.

Сёння зразумела, што ў бліжэйшае дзесяцігоддзе нашае грамадства чакаюць цяжкія выпрабаванні. Спыніць самазнішчальныя механізмы немагчыма, але каб выйсці з гэтых выпрабаванняў у якасна новым стане, грамадству патрэбны пэўныя духоўныя здольнасці. Без плённай працы духу пераход на новую ступень гістарычнага развіцця ў прынцыпе немагчымы. Таму любыя зрухі ў духоўным жыцці, а тым больш у сферы адукацыі, могуць мець вырашальнае значэнне для нашай будучыні.

Аднак сама навука і добрыя веды законаў толькі падстава для сумленнага жыцця і яны не забяспечваюць іх аўтаматычнае выкананне. Нам востра патрэбна напружаная праца духу, а гэтая праца заўсёды калектыўная. Варта падкрэсліць сведчанне Святога Пісання аб тым, што Суду падлягаюць не толькі асобныя людзі, але і цэлыя народы, бо выніковы прадукт нашага жыцця і нашай працы мае сацыяльны характар (ён можа быць створаны толькі супольнасцю). Трэба ўсяляк здзяйсняць і падтрымліваць дабро, намагацца быць бліжэй да яго і як мага далей ад ілжы і хамства (намагацца ізаляваць зло). І формы духоўнай працы могуць быць самыя розныя: музычнае свята[4], супольная пілігрымка...

Нават калі ў нас знойдуцца сілы на Дзяды запаліць зніч за кожным вакном і каля кожнага помніка на могілках, то нас ужо не будуць палохаць ніякія выбары ці рэферэндумы, бо раніцай у краіне абудзяцца не проста людзі — гэта будзе Народ.

---

[1] Напрыклад, вызначым асаблівасці ўспрымання часу ў розных сістэмах вымярэння:
«І ўбачыў Бог усё, што Ён стварыў; і было яно вельмі добрым. І быў вечар, і была раніца, дзень шосты» (пар. Быц 1, 31).
«Умілаваныя, гэта адно няхай не будзе схавана ад вас, што ў Пана адзін дзень, як тысяча гадоў, і тысяча гадоў, як адзін дзень» (2 П 3, 8).
Калі вы ў стане зразумець, што значыць адзін дзень Бога, які ёсць альфа і амега, то карыстайцеся сваёю разумовою схемаю, але з павагаю адносцеся да здольнасцяў і поглядаў іншых. Паўтаруся, тэкст Бібліі жывы для ўсіх, ён спраўны і ў часе, і ў разнародным людскім асяроддзі.
Другі прыклад — у тэксце Святога Пісання выразна прагледжваецца дынаміка ў адносінах да гістарычнага і духоўнага значэння рабства:
«Рабы, якія пад ярмом жывуць, павінны лічыць гаспадароў сваіх годнымі ўсялякае пашаны, каб не было нагany на імя Божае і вучэнне» (пар. 1 Цім 6, 1).
«Кожны няхай застаецца ў тым стане, у якім пакліканы. Рабом ты пакліканы? Не турбуйся. Але калі можаш стацца вольным, скарыстай з лепшага. Бо раб, пакліканы ў Пану, ёсць вольнік Пана; гэтаксама і пакліканы вольнік ёсць раб Хрыстовы. Вы куплены дарагою цаною; не рабіцеся рабамі людзей» (пар. 1 Кар 7, 20–23).

[2] Індывідуалізацыя адносінаў да веры і вучэння непазбежны працэс, але ён не павінен замінаць дзеянню тых механізмаў, што згуртоўваюць вернікаў. Напрыклад, індывідуалізацыя рэлігійных поглядаў у сучаснай Польшчы абмяркоўваецца ў працы: Mariański J. W co i jak wierzą katolicy w Polsce (Analiza sociologiczna) Roczniki Nauk Społecznych. Tom XXXVI, zeszyt 1–2008, s. 73–103.

[3] Дэкалог пераважна вызначае тое, што чалавек не павінен рабіць, або аберагае «ад пастак жыцця». У той жа час за выкананне (і выбар?) канкрэтнай праграмы жыцця адказны сам чалавек.

[4] Прыгадаем шматтысячныя святы народнай песні, якія праводзіліся ў Таліне ў савецкія часы.




# УРОК СВЯТОГА ЯЗАФАТА

Святий Йосафат Кунцевич. Документи щодо беатифікаці (1623–1628 рр.). Катехизм, укладений Йосафатом Кунцевичем. Правила і конституції, написані святим Йосафатом для своїх священиків / Упорядкування й переклад з латинської о. Йосафата Романика, ЧСВВ – Жовква: Місіонер, 2010. – 324 с.

Гісторыя ўкраінска-беларускіх узаемаадносінаў, відавочна, адна з найцікавейшых старонак еўрапейскай гісторыі. Калі задумацца, то, перабываючы цягам стагоддзяў у межах розных дзяржаваў, ці то Вялікага Княства Літоўскага, ці то Рэчы Паспалітай, ці то Расійскай імперыі, гэтыя два народы, усведамляючы сваю адметнасць, ніколі не супрацьстаялі адзін аднаму, нават тады, каля ўся сярэднявечная Еўропа цярпела ад міжусобных звадак і войнаў.

Ва Украіне апошнім часам актыўна выказваюцца думкі пра напісанне супольнага з расіянамі падручніка гісторыі. А калі Украіна і вымагае нейкага супольнага погляду на гісторыю, то гэта мае быць толькі ўкраінска-беларускі праект, бо напраўду нас лучыць значна больш, чым падаецца на першы погляд. Найбліжэйшаю да ўкраінскай мовы, як пераканальна давёў Юры Шавялёў, ёсць мова беларуская; дзесьці ад XIII да XV стагоддзя існуюць пэўныя складанасці з аднясеннем пісьмовых помнікаў да тае ці іншае традыцыі, хоць ужо на мяжы XVI–XVII стагоддзяў у тагачасных Украіне і Беларусі выразна ўсведамлялі розніцу паміж дзвюма мовамі. А ўнёсак у развіццё абедзвюх нашых культураў Мялеція Сматрыцкага, Тэадосія Сафановіча, Сімяона Полацкага, Дзмітрыя Тупала, Георгія Каніскага немагчыма пераацаніць. Адной з найцікавейшых праяваў украінска-беларускага мінулага з'яўляецца і стварэнне на нашых землях Уніяцкае Царквы.

Сённяшняя аж залішне секулярная прастора ва Украіне не пакідае месца для паважнай ацэнкі крыніцаў, датычных духоўнай гісторыі, хоць яны ёсць не менш важнымі (а часам і асноўнымі) дакументамі мінулых стагоддзяў, чым крыніцы свецкія, а даследаванне іх дапамагае больш дакладна аднавіць тагачасныя падзеі, асабліва калі гаворка ідзе пра падзеі супярэчлівыя. Вось жа кніжка «Святий Йосафат Кунцевич. Документи щодо беатифікації...», якая пабачыла свет ва ўкраінскім выдавецтве «Місіянер», дзякуючы высілкам айцоў ЧСВВ, дае магчымасць больш дакладна сфармуляваць сітуацыю памежжа XVI–XVII стст., якую выдатны гісторык М. Грушэўскі слушна назваў «вайною Русі з Руссю».

Той, хто цікавіцца гісторыяй гэтага перыяду, заўважыць, што яна, як правіла, тлумачыцца выключна з пазіцыяў праваслаўя. Сапраўды, са школьнай лаўкі нам метадычна гаворыцца пра ўніятаў, якія адабралі храмы, эксплуатавалі і чынілі збыткі з праваслаўнага насельніцтва Украіны ды Беларусі. Адным словам, былі рэлігійнымі фанатыкамі, пазбаўленымі ўсяго людскага.

Прапанавая «Місіянерам» кніжка дае магчымасць зірнуць на гісторыю рэлігійных супярэчнасцяў вачыма іншага боку — Царквы Уніяцкай. Асноўны масіў тэкстаў, як вынікае ўжо з самой назвы, рэпрэзентуюць дакументы беатыфікацыйнага працэсу св. Язафата, пераважна сведчанні сучаснікаў архібіскупа ды сведкаў віцебскай трагедыі. А ўжо праз прызму тых падзеяў прачытваецца гісторыя станаўлення Аб'яднанай Царквы ды ўзаеміны з тагачаснаю польскаю ўладаю, урэшце, яе няпростыя стасункі з Царквою Праваслаўнаю.

Усё гэта можна адсачыць, абапіраючыся на згадкі пра высілкі св. Язафата, скіраваныя на аднаўленне занядбаных храмаў, яго апеку над беднымі ды хворымі, шматлікія візіты на соймы з мэтаю адстойвання сваёй Царквы. Але ці не найяскравей праз прызму сведчанняў адсочваецца гісторыя супрацьстаяння дзвюх моцных асобаў — архібіскупа Полацкага Уніяцкай Царквы Язафата Кунцэвіча і архібіскупа Полацкага Праваслаўнай Царквы Мялеція Сматрыцкага ды іхняя трагедыя.

Яны абодва нарадзіліся ва Украіне: Язафат — ва Уладзіміры, Мялецій — у Смотрычы. Першы так і не змог атрымаць належную асвету, але, прагны да ведаў, самастойна чэрпаў іх з кніг, прычым меў такую незвычайную памяць, што мог пры нагодзе цытаваць вялікія фрагменты. Сучаснікі нават цвердзілі, «што можна было б назваць яго хронікай або бібліятэкай усіх кніжак». Валодаючы польскаю, славянскаю ды рускаю

мовамі (гэткая назва на землях тагачаснай Польскай дзяржавы дастасоўвалася як да ўкраінскай, так і да беларускай моваў), ён, як мог, спрыяў перакладу крыніцаў, напісаных на лаціне, і пашырэнню іх сярод грамадства, заахвочваючы да прыняцця уніі. Яго апанент на той час атрымаў бліскучую адукацыю на Захадзе, быў абазнаны ў гуманістычнай філасофіі, перакладаў творы Пятраркі. Бліскучы палеміст, ён заклікаў грамадства пазбаўляцца даўняй бацькоўскай традыцыі. Кожны з іх адстойваў сваю праўду, і сутнасць іх трагедыі відавочна палягае ў тым, што ім давялося жыць у час, які не пераносіў кампрамісаў. Язафат загіне ад рук натоўпу, што ўварвецца ў ягоную рэзідэнцыю ў Віцебску. Яго пахаваюць з пашанотай — развітацца з ім прыйдзе нават пастыр кальвіністаў са сваёю грамадою (гэта пры тым, што Язафат быў актыўным працаўнікам рэфармацыйнай ідэалогіі). А потым архібіскуп будзе кананізаваны ды вызнаны за святога Каталіцкаю Царквою абодвух абрадаў. Горад Віцебск пакараюць, пазбавіўшы званоў ды адабраўшы магдэбургскае права.

Паміж прычынаў, што прывялі да забойства архібіскупа, назавуць і тэксты Мялеція Сматрыцкага. І той, пачуваючыся міжвольным наклікальнікам трагедыі, здзейсніць паломніцтва на Усход. У ягонай душы здарыцца надлом – уражаны людскою жорсткасцю, якую спарадзіла рэлігійная звада, ён будзе разважаць над шляхамі вырашэння сітуацыі. Вярнуўшыся, М. Сматрыцкі напіша «Апалогію», у якой абгрунтуе збліжэнне Праваслаўнай Царквы з Рымам. На тую кнігу кіеўскі праваслаўны мітрапаліт накладзе анафему, а яе аўтара змусяць выбачыцца за падобныя думкі. І тады Мялецій Сматрыцкі прыме унію (як напіша яго першы біёграф Якуб Суша, «да гэтага падштурхоўвала бязвінна пралітая кроў Язафата») і на схіле гадоў павінен будзе адракацца ад усяго, што з такой заўзятасцю бараніў у маладосці, — фактычна ваявацьме сам з сабою... Свой апошні спачын ён знойдзе ў мястэчку Дэрмань, пераажыўшы свайго апанента на 10 гадоў. З часам ягоная магіла будзе згубленая, але след яго не згубіцца ў часе, і нашчадкі ажно да XIX стагоддзя будуць засвойваць моўныя азы з яго «Граматыкі», якую Міхайла Ламаносаў назаве разам з матэматыкай Магніцкага «вратами» сваёй вучонасці.

Вядома, не ўсё так відавочна ў сітуацыі пачатку XVII стагоддзя, як можа падацца на першы погляд. Зразумелая рэч, наклікальнікамі віцебскай трагедыі не маглі быць выключна творы М. Сматрыцкага ды падбухторванні да бунту праваслаўных святароў; прычынаў трэба дашукваца таксама і ў дзейнасці саміх айцоў базыліянаў. Яшчэ ў большай меры такія выразна антыкаталіцкія настроі былі выкліканыя палітыкай польскай шляхты, якая, прыкрываючыся лозунгамі веры, уціскала правы ўкраінцаў і беларусаў. І, вядома ж, дакладнага вывучэння і публікацыі патрабуюць дакументы, звязаныя з дзейнасцю на гэтых землях айцоў езуітаў. З іншага боку, вынішчэнне казацтвам каталікаў ды жорсткія расправы над святарамі ЧСВВ* (да якіх часам залічваліся нават праваслаўныя святары — і гэтыя сведчанні пададзеныя ў кнізе) аніяк не спрыялі замірэнню супраціўнікаў. Украінскімі інтэлектуаламі будзе створана нямала палемічных трактатаў, напоўненых узаемнымі абразамі ды з'едлівымі кпінамі, якія ў некаторых выпадках выціснуць на другі план багаслоўскія аспекты супрацьстаяння.

Мінецца амаль паўстагоддзя, і Лазар Барановіч, рыхтуючы да друку свой палемічны трактат «Новая міра», зазначыць: «Я заўжды быў перакананы ў тым, што пярэчыць ім (то бок, «лаціна-ўніятам») трэба міралюбна, каб яны ўспрынялі гэта з павагаю; істотны сам прадмет, які мусіць зацікавіць іх, – і перамога будзе нашай». З тае пары ўкраінская праваслаўна-каталіцкая палеміка часцей будзе спосабам дэманстрацыі літаратурнай здатнасці апанентаў.

Ды як бы там ні было — гэта наша гісторыя.

Да бясспрэчных плюсаў выдання можна аднесці і змешчаныя ў ім тэксты «Катэхізму» ды «Правілаў» Язафата Кунцэвіча, што дазволіць даследчыкам больш поўна характарызаваць дзейнасць архібіскупа. Для беларускіх даследчыкаў будуць цікавымі згадкі пра тое, што працэс вёўся па-беларуску (потым дакументы, згодна з тагачаснымі вымогамі, былі перакладзеныя на лаціну), ды пратранскрыбаваныя беларусізмы, якія часам зберагліся ў тэкстах сведчанняў.

Кніжка «Святий Йосафат Кунцевич. Документи щодо беатифікації...» ёсць унікальным дакументам эпохі, які спрыяе больш поўнаму яе аднаўленню, і гэтым яна каштоўная для беларускіх і ўкраінскіх навукоўцаў. Не менш важнае ёсьць тое, што яна дазваляе асэнсаваць: перабіранне цераз край, кіраванне эмоцыямі, а не здаровым сэнсам, сляпы фанатызм *a priori* ніколі не прыводзяць да дабра, а здольныя толькі руйнаваць.

*Кацярына БАРЫСЕНКА*

* ЧСВВ — Чин святого Василія Великого (традыцыйная назва ордэну базыліянаў на ўкраінскай мове).

**Кацярына Барысенка** — літаратуразнаўца, паэтка. Выкладчыца Кіеўскага педагагічнага ўніверсітэта імя Барыса Грынчэнкі, кандыдат філалогіі. Даследуе ўкраінскае пісьменства эпохі барока. Аўтарка зборніка вершаў «Visus» (2004). Перакладае англійскую паэзію. Падрыхтавала пераклад выбраных твораў Эдварда Эстліна Камінгса «Тюльпани й димарі» (2004; суаўтар перакладаў Іван Андрусяк).

У вянок памяці Уладзіміра Конана

# «Шчаслівыя чыстыя сэрцам...»



У ноч з 5 на 6 чэрвеня на 78-м годзе жыцця адышоў у вечнасць доктар філасофскіх навук, вядомы культуролаг і літаратуразнаўца, даўні наш аўтар і добры сябра Уладзімір Міхайлавіч Конан. Яго заўчасны адыход — невымерна балючая страта для нацыянальнай культуры і навукі і такая нечаканая і горкая страта для ўсіх нас, яго сяброў і знаёмых... Цяжка ўявіць «Нашу веру» без яго глыбокіх, удумліва аналітычных артыкулаў, немагчыма паверыць, што ўжо нельга яму патэлефанаваць, каб параіцца, каб замовіць артыкул, які мог напісаць толькі ён — выдатны вучоны, мысляр, глыбока веруючы чалавек, які дасканала ведаў Святое Пісанне, які аналізаваў праблемы нацыянальнай філасофіі, культуры і літаратуры ў хрысціянскім кантэксце. Кожная публікацыя доктара Конана ў квартальніку «Наша вера» была падзеяй, бо ён адкрываў новыя глыбіні і ў гісторыі эстэтычнай думкі ў Беларусі, і ў творчасці нашых класікаў, вяртаючы нам сапраўдных Купалу, Коласа, Багдановіча, беларускіх святароў Станкевіча, Астрамовіча, Гадлеўскага. Варта хоць бы прыгадаць некаторыя артыкулы Уладзіміра Конана, надрукаваныя на старонках «Нашай веры», каб зразумець, наколькі яны важныя і актуальныя найперш для нашага выдання: «Біблейскія і хрысціянскія матывы ў беларускай этнічнай культуры», «Дантэ і Янка Купала: матывы раю і пекла», «Хрысціянства ў кантэксце беларускай культурнай традыцыі», «Лідар беларускага каталіцкага адраджэння» (пра ксяндза Адама Станкевіча), «Эсхаталагічныя матывы ў паэзіі Якуба Коласа», «Жанр малітвы ў паэзіі Янкі Купалы», «Андрэй Зязюля: хрысціянская філасофія і асветніцкая дзейнасць», «Евангельская прыпавесць у беларускім фальклоры», «Ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі: філасофскае абгрунтаванне беларускай ідэі», «Страчаны і знойдзены рай: матывы паэзіі Янкі Купалы», «Хрысціянская філасофія жыцця ў творчасці Якуба Коласа», «Адраджэнне беларускай біблеістыкі» і іншыя... Апошні артыкул Уладзіміра Конана, прысвечаны выдатнай постаці беларускага хрысціянскага асветніка Кірылы Тураўскага, змешчаны ў папярэднім нумары квартальніка. Можна ўявіць, як бы добра глядзеліся ўсе гэтыя артыкулы, сабраныя пад аднаю вокладкаю, выдадзеныя асобнаю кнігаю...

Стаяць у вачах старонкі конанаўскіх рукапісаў: радкі на паперы кладуцца наўскасяк, як бы спяшаюцца нам насустрач, як бы збягаюць з пагоркаў яго роднай Наваградчыны...

Уладзімір Міхайлавіч жыў аскетычна, засяроджана, нібы стараючыся абараніць, захаваць сваю душу ад бязладнай сталічнай мітусні, жыў па Божых запаведзях. Здаецца, што асноваю яго праведнага жыцця быў бэнэдыктынскі прынцып *Ora et labora* — малітва і праца.

Праваслаўны па веравызнанні, ён быў узорам таго, як можа хрысціянін у гэтым падзеленым свеце дзейсна рэалізоўваць запавет Хрыста: *Ut unum sint* — «Каб усе былі адно».

Сустракаючыся з ім, размаўляючы, слухаючы яго ціхі, разважлівы голас, не раз згадваліся словы з Нагорнай пропаведзі: «Шчаслівыя лагодныя... Шчаслівыя міласэрныя... Шчаслівыя чыстыя сэрцам, бо яны Бога ўбачаць». Цяпер вельмі хочацца верыць, што ён, наш светлы і мудры сябра, па-сапраўднаму шчаслівы ў Доме Айца і ўжо «тварам у твар» аглядае Яго міласэрнае аблічча.

*Рэдакцыя часопіса «Наша вера»*

У вянок памяці Уладзіміра Конана

# Ён шукаў ісціну...

*З развітальнага слова падчас жалобнай літургіі*

<...> Жыццё філосафа — само па сабе таямніца і загадка для звычайнага чалавека. Таямніца, таму што яно напоўнена пошукамі таго, што па-над зямное, над эмпірычнае, самае галоўнае. Розум філосафа аддадзены не зямному мудраванню, але роздумам аб вечным, нязменным, таму што знаходзіцца па-над часам і патрэбамі моманту. Жыццё філосафа прысвечана пошуку ісціны, якая дае мудрасць.

Хто блізка ведаў Уладзіміра Конана, пацвердзіць, што ён валодаў менавіта такім дарам філосафа. Ён шукаў ісціну  ў розных галінах ведаў і культуры: у гісторыі эстэтычнай думкі Беларусі, архетыпах фальклору і народнай культуры, у тэндэнцыях сацыяльнага жыцця. Яго знаходкі адлюстраваны ў кнігах і артыкулах, асабліва энцыклапедычных. Ён даследаваў культуру свайго народа, якую — асабліва сялянскую — моцна любіў.

Уладзімір Конан быў лідарам у культуры думкі, таму што яго думкі былі наперадзе нашых думак. У зямным плане лідарам ён не быў. Ён быў самотнікам, які сузіраў з вакон сваёй кватэркі хвалі Чыжоўскага вадасховішча. У апошнія гады жыцця ён сузіраў са сваіх вакон купалы царквы, што нядаўна была там пабудавана. Ён у ёй маліўся, калі пачаў занемагаць, і сюды ў цэнтр, да нас, стала складана дабірацца. Мы ведалі яго як самотніка і аскета. Яго ўнутранае жыццё было ад нас схавана.

І вось цяпер мы прысутнічаем на галоўнай таямніцы жыцця філосафа, таму што ў святле веры смерць — гэта не проста пераход у нейкую неакрэсленую вечнасць, да новага, незразумелага жыцця. Смерць падводзіць рысу частковаму і недасканаламу пазнанню ісціны. Смерць — гэта аб'яўленне ісціны як яна ёсць, гэта спазнанне быцця Божага асабіста і намацальна, канкрэтна (1 Ян 3, 2). Таму што ісцінай ёсць сам Бог, крыніца ўсялякай ісціны.

Для філосафа — шукальніка ісціны з любоўю, гэта самая шчаслівая падзея, якая вянчае яго пошукі і інтэлектуальныя намаганні. Не сумняваюся, што цяпер Уладзімір Конан шчаслівы, шчаслівы бачаннем Ісціны «як яна ёсць».

*Айцец Юрась Залоска*
*08.06.2011 г.*

Данута Бічэль

## Слова пра Уладзіміра Конана

Божа Усясвету, будзь пахвалёны!
А мы па зямлі сваёй ціха паходзім...
Нашы малітвы, нашы каноны...
Мудры філосаф Конан Валодзя...

Ён застаецца духоўным братам,
мы ёсць у адным Хрыстовым саюзе!
І дабрыня не ведае стратаў,
дажджом рассяваецца па Беларусі...

Ён ціхім словам вяртаў нашу славу...
Ён узмацняў да голасу трубнага —
Адама Станкевіча, князя Усяслава,
паэта святога Кірылу з Турава...

Ён сам, як Кірыл, «увайшоў у слуп»,
узняўся высока светлаю вежаю...
Стварыў Беларусі містычны зруб,
умацаваў яго думкамі свежымі.

Аднойчы ў любові прызнаўся: «Дануся,
каб сказаць два сказы пра тваю паэзію,
я словы збіраў і так доўга мучыўся...
Больш тады толькі мучыўся,
як пісаў пра Езуса...»

У тлуме жыцця, у святой прастаце —
як удавалася мудраму Конану
усю глыбіню нараджэння ў Хрысце
сумяшчаць з аскетычным бытам вясковым?

Беларусь касцёльную і царкоўную,
святароў замучаных, у слове ўваскрэслых,
пазнавалі ў аповедах Валодзі Конана,
паяднаныя яго духоўнаю песняй!

Бог нам прыслаў яго невыпадкова
на скрыжаванне стагоддзямі болю...
Няхай плыве ў святле яго слова
Каўчэг Беларусь якіянам любові!

Служачы Богу і роднай Краіне,
напрацаваўся самотна да скону...
У змроку душу тваю Бог не пакіне...
Сноў табе светлых, Валодзя Конан!

*06.06.2011 г.*

У вянок памяці Уладзіміра Конана

# Вялікі Конан

Беларусь у жалобе: пайшоў з жыцця Уладзімір Конан. Сёння мы перад гэтым імем ставім слова, якое дагэтуль уголас прамаўляць стрымліваліся — Вялікі Конан. Вялікі вучоны — філосаф і літаратуразнаўца. Вялікі патрыёт Беларусі. Вялікі працаўнік. Вялікі настаўнік.

Пайшоў — не завяршыўшы працу над трэцім томам капітальнага навуковага даследавання «Гісторыя эстэтычнай думкі Беларусі». А так хацеў завяршыць! Так спяшаўся, выбіваючыся з апошніх сіл, дадаць яшчэ і яшчэ колькі старонак да напісанага! Нават на бальнічным ложку, дзе апынаўся апошнім часам усё часцей, не выпускаў з рук пяро. І пры сустрэчы, і па тэлефоне са шкадаваннем у голасе казаў: «На жаль, урачы дазваляюць працаваць не больш як чатыры гадзіны ў суткі». Не думаю, што ён пільнаваўся гэтай перасцярогі. Ён баяўся, што не паспее давесці працу да канца. І не паспеў. Жыццёвыя сілы вычарпаліся даастатку.

Пры агромністых заслугах перад навукай, пры высачэзным аўтарытэце і зайздроснай для навукоўца вядомасці Уладзімір Міхайлавіч Конан быў чалавекам легендарнай сціпласці. Вытыркацца, афішаваць сябе, заяўляць пра свае поспехі, падкрэсліваць сваю неардынарнасць — усё гэта было для яго чужое і непрымальнае. У той жа час ён быў надзелены высокім пачуццём чалавечай і нацыянальнай годнасці. Зрэшты, гэта жыло ў ім непадзельна, было адным і тым жа, бо па-за нацыянальным, па-за родным беларускім духам свайго чалавечага існавання ён не ўяўляў.

Трывалай апорай у гэтым самасцвярджэнні вялікага беларуса была Хрыстова вера — самы інтымны абсяг яго запаветнай Любові. Вось чаму я думаю, што пройдзе пэўны час — і беларуская Праваслаўная Царква далучыць яго да ліку святых — кананізуе імя вялікамучаніка Уладзіміра. І знойдзецца, не сумняваюся, добры, а мудры чалавек, які напіша вельмі патрэбную беларусам кнігу «Жыціе Уладзіміра Конана» — чалавек, варты гонару быць аўтарам такой кнігі, чалавек чыстай, чулай душы, тонкага, прыгожага пісьма, чалавек, грунтоўна дасведчаны ва ўсіх завоях жыццёвай дарогі Конана, і ў тым, што складае моц і веліч яго творчага духу, і ў тым, што цягам усяго жыцця, ад маладосці да старасці, жывіла і ўсё вышэй і вышэй узнімала выявы яго геніяльнага дару.



Уладзімір Конан і Ніл Гілевіч у Вязынцы. 1992 г.

Думаю што гэтым чалавекам будзе нехта з верных вучняў Вялікага Настаўніка, той, хто ў поўнай меры зведаў фенаменальную шчодрасць яго душы. О, конанаўская шчодрасць! І яна ўвойдзе ў гісторыю благаслаўлёнага руху беларускай інтэлігенцыі да Беларусі.

Бывай, Уладзімір Міхайлавіч. Бывай — і даруй, што не быў такім шчодрым на ўвагу да цябе, якім быў ты, брат мой.

*Ніл Гілевіч,*
*7 чэрвеня 2001 г.*



Уладзімір Конан прамаўляе слова на прэзентацыі кнігі «Ксёндз Адам Станкевіч і каталіцкае адраджэнне ў Беларусі». 2004 г.

У вянок памяці Уладзіміру Конану

# АДМЕТНЫ ПОЧЫРК

Дзіўна. Ніколі ніхто з пісьменнікаў, філосафаў, журналістаў не казаў мне чаго-небудзь кепскага пра гэтага чалавека. І сам ён ніколі нічога кепскага не сказаў мне пра кагосьці з нашых агульных знаёмцаў. Не памятаю такога.

Ён быў «маім» аўтарам. Не толькі ў тым сэнсе, што я чытаў яго і на яго спасылаўся ў сваіх публікацыях. Ён быў тым аўтарам, якога я рэдагаваў і чый почырк мне помніцца. Адметны, чытэльны, ясны почырк.

Ужо не памятаю, калі першы раз сустрэў у друку ягоныя імя-прозвішча. Ва ўсякім разе не пазней, як у 1969-м. У тым годзе з дапамогаю добрых людзей я, вылузаўшыся з-за кратаў псіхіятрычнага аддзялення другое менскае клінічнае бальніцы, атрымаў працу ў капыльскай раённай газеце. І якраз на той год прыпадаў юбілей Адама Бабарэкі, літаратурнага крытыка, пісьменніка, філосафа, чалавека з трагічным лёсам. Яму было б семдзесят. І вось я, супрацоўнік раённай газеты, пішу лісты... Не пасаромеўся і звярнуўся з просьбаю напісаць пра Адама Бабарэку да ягоных калег па «Узвышшы» — да Кандрата Крапівы і Максіма Лужаніна. І што вы думаеце? «Парнаснікі» знайшлі час і палічылі магчымым і нават патрэбным напісаць для раёнкі. Напісаў я і Уладзіміру Конану, бо імя Адама Бабарэкі ўвайшло ў маю свядомасць дзякуючы гэтаму аўтару. Здаецца, той ліст я накіраваў на адрас Інстытута філасофіі і права Акадэміі навук БССР. Не памятаю. Затое дакладна памятаю, што атрымаў адказ. І артыкул для нашай газеты. А потым у Бабарэкавай Слабадзе-Кучынцы былі адзначаны ўгодкі знакамітага земляка. Вось там і тады я пазнаёміўся з Уладзімірам Міхайлавічам асабіста. Праўда, не памятаю, тады ці пазней я пачуў ад яго знакамітае «даражэнькі», бо ва Уладзіміра Міхайлавіча было звычкаю, звяртаючыся да даўніх знаёмцаў і калегаў, казаць гэтае слова.

Ён, мусіць, быў паслядоўнікам Сенекі — бо вядома, што гэты філосаф вучыў не раскідвацца, быць пастаянным. Аднойчы ўзяўшыся за даследаванне гісторыі эстэтычнай думкі ў Беларусі, ён застаўся верны гэтай тэме да канца свайго жыцця. Ведама, яму даводзілася выходзіць і на сумежныя дзялянкі (як ты будзеш пісаць пра эстэтычныя погляды і густы, калі не ведаеш творчасці таго ці іншага пісьменніка, мастака?). Ведама, яму даводзілася браць удзел і ў грамадскім жыцці, нават у жыцці партыйным (Уладзімір Міхайлавіч паводле палітычных поглядаў быў сацыял-дэмакрат), але ён ніколі не забываў пра галоўнае.

Уладзіміру Конану, можна сказаць, пашанцавала. Ужо ў 1930-я магла з'явіцца фундаментальная гісторыя беларускага мастацтва Мікалая Шчакаціхіна. Але вучонаму не далі завяршыць працу. Шмат напрацовак было ў Адама Бабарэкі. Але і яму не далі працаваць. Цяжка працавалася і Уладзіміру Конану. Выхаваны ў народных хрысціянскіх традыцыях, у традыцыях цярпімасці (паказальна, што ён, праваслаўны, напісаў працу пра каталіцкага святара Адама Станкевіча), Уладзімір Конан мусіў жыць і працаваць у сістэме, у якой панаваў дух нецярпімасці. Чалавек шырокага кругагляду, ён быў скаваны патрабаваннямі класавасці і партыйнасці навукі, мусіў працаваць з аглядкай на гмах ЦК і будынак на вуліцы імя чэкіста Урыцкага, дзе месціўся Галоўліт. І калі ў Лондане была апублікавана праца Алега Бембеля «Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс» (1985), ягонаму «шэфу» Уладзіміру Конану было вельмі нясоладка. А што было б, калі б у «чырвоным доме» даведаліся, што ён, Уладзімір Конан, быў хросным бацькам свайго «падначаленага»? (Алег Бембель, цяпер інак Мікалай, прыняў хрост у 1982 годзе.) На шчасце, камуністычная эпоха адыходзіла ў нябыт. І калі яна сканала, Уладзіміру Конану было што сказаць і напісаць пра эстэтычныя погляды волатаў нашаніўскай пары, пра маладнякоўцаў і ўзвышаўцаў...

Ад часоў паганства да нашай «светлай явы» — такі быў абсяг ягоных зацікаўленняў. Адданы галоўнаму, ён працаваў за навуковы калектыў. І вынікам працы стала фундаментальная «Гісторыя эстэтычнай думкі Беларусі» ў трох тамах. Летась выйшаў першы том. Дасведчаныя людзі кажуць, што хутка выйдзе другі. Ці быў падрыхтаваны да друку трэці том? Нават калі не, у філосафа меліся публікацыі, накіды. І добра было б, каб яны ўбачылі свет у трэцім томе. Гэта было б найлепшым ушанаваннем памяці выдатнага вучонага.

*Анатоль Сідарэвіч*

# ПАКЛІКАНАЯ



Валянціна Коўтун і Крыстына Лялько падчас сустрэчы з папам Янам Паўлам II. Кастэль Гандольфа, верасень 1995 г. Фота Артуро Мары.

*«Напэўна, гінуць ад маланак // найлепшыя з высокіх дрэў»*, — напісала ў адным з ранніх вершаў Валянціна Коўтун. Кажуць, што сапраўдныя паэты — гэта яшчэ й прарокі, асабліва ў дачыненні да ўласнага лёсу. Валянціна Коўтун была сапраўднаю, самабытнаю паэткаю, выдатнаю пісьменніцаю, перакладчыцаю... Смерць, як тая нечаканая белая маланка ўдарыла ёй у сэрца, выхапіла з шумлівага лесу жыцця ў самым росквіце творчых сілаў, перакрэсліўшы, абарваўшы гэтулькі няздзейсненых задумаў і планаў... Яе паэзія ад самага пачатку ўражвала сваёю складанаю метафарычнасцю, свежаю запамінальнаю вобразнасцю, узнёслаю афарыстычнасцю думкі. Валя была арыгінальнаю і непаўторнаю як у творчасці, так і ў жыцці: кожны дзень яе зямнога жыцця быў творчы... У рамане «Крыж міласэрнасці» «гродзенская самотніца» Эліза Ажэшка гаворыць сваёй маладзейшай сяброўцы, галоўнай героіні рамана Алаізе Пашкевіч (Цётцы) пра тое, што «творчасць — гэта цуд, большы за ўсе скарбы свету». Для самой аўтаркі рамана творчасць заўсёды была найвялікшым і найдаражэйшым скарбам. Яго памнажэнню Валя аддавала ўсе свае сілы і ўсю сябе. Творчасць была яе крыжам міласэрнасці, і яна несла яго ахвярна і годна.

Яна была вельмі працавітая. Калі ёй не пісалася, Валя брала ў рукі пэндзаль. Засталіся яе экспрэсіўныя, адметныя малюнкі і карціны.

Валянціна Коўтун адышла ў вечнасць 30 красавіка, у суботу, напярэдадні свята Божай Міласэрнасці... Увесь каталіцкі свет рыхтаваўся да беатыфікацыі Вялікага Папы Яна Паўла II, з якім Валі пашчасціла сустрэцца ў 1995 годзе. Тады яна падарыла Святому Айцу другую частку рамана «Крыж міласэрнасці», якая была толькі што надрукавана ў часопісе «Полымя». У той час Валянціна Коўтун узначальвала Усебеларускі жаночы фонд імя Еўфрасінні Полацкай, тады ўжо думала пра будучы раман «Пакліканыя», прысвечаны святой асветніцы... Пра Алаізу і Еўфрасінню, пра дзвюх слаўных дачок беларускай зямлі Валя й распавяла на той сустрэчы ў Кастэль Гандольфа, пра якую пасля згадвала так часта і светла...

Не бывае нічога выпадковага ў гэтым жыцці... Крыж міласэрнасці да канца спраўдзіўся ў Валіным лёсе. Хочацца верыць, што яе душа, якую Бог паклікаў да сябе напярэдадні беатыфікацыі Яна Паўла II, мае ў небе свайго надзейнага заступніка.

*Крыстына Лялько*

# Валянціна Коўтун



**Валянціна Коўтун** — паэтка, празаік, перакладчыца, кандыдат філалагічных навук. Нарадзілася 6 красавіка 1946 года ў вёсцы Дземяхі Рэчыцкага раёна на Гомельшчыне. Скончыла Малоткавіцкую сярэднюю школу. Вучылася ў Львоўскім дзяржаўным універсітэце імя І. Франка, а з IV курса — на філалагічным факультэце БДУ, які скончыла ў 1969 годзе. Працавала літкансультантам «Сельскай газеты», рэдактарам аддзела крытыкі і літаратуразнаўства часопіса «Полымя», загадчыкам рэдакцыі выдавецтва «Юнацтва». Напісала кнігі паэзіі «Каляровыя вёслы» (1971), «На ўзлёце дня» (1977), «На зломе маланкі» (1981), «Метраном» (1985), за якую атрымала Літаратурную прэмію імя А. Куляшова, «Лісты да цябе» (1988); раманы «Крыж міласэрнасці» (1988–1995), «Пакліканыя» (2002); зборнік апавяданняў «Калінавая гронка залатая» (1988); кнігі для дзяцей «Мы робім казку» (1983), «Вясёлы заасад» (1986). Выступала таксама як крытык і літаратуразнаўца. Аўтар кніг «Святло народнага слова: Паэтычны лад беларускай народнай песні» (1984), «Крыніца паэзіі: На шляхах эпізацыі» (1987). Памерла 30 красавіка 2011 года.

* * *

Я цяпер, як даўней, маладая
І шчаслівая быццам...
Пытай...
Нехта змоўчыць, а хто й запытае:
Дзе тут поле тваё? Дзе ратай?..

Калі хочаце стацца сябрамі,
Ні спагад, ні папрокаў не трэ.
За слязінамі, як за гарамі,
Нехта долю маю ўжо арэ.

Там плывуць белагрудыя гусі,
Адкіпеўшы над золлю дарог.
Лепшы хлопец на ўсёй Беларусі
Мне трывогу сваю прыбярог.

Калі хочаце стацца сябрамі,
Нараканняў і згадак не трэ.
Над спагады сляпымі кастрамі
Ты,
    душа мая,
                крылы не грэй.
Палюбіць і паверыць павінна,
І разгледзець пад вечар пільней,
Дзе... Якая... Чыя дамавіна
Заўтра будзе па росту і мне.

Зненавідзім хлусню і падонкаў,
Каб дастацца да неба, сябры!
Там і поле маё над старонкай,
І ратай, што крыляе ўгары!

* * *

Гудуць, як сны, вячэрнія званы,
Надломяць вёрсты позірк, як галінку.
У сінтаксісе праўды і маны
Я адхварэю знакамі прыпынку.

Скажу: «Люблю»...
І твой гарачы цень
Распяты зноў на кожную крывінку.
Не пачынай са здрады гэты дзень,
Не трэба слоў!
Мне страшны зрыў прыпынку.

Сяброўка, знай:
Калі маю душу
Лязом хлусні таркнеш хоць на хвілінку,
Папрокаў слёзы жорнамі скрышу, —
На ўсё жыццё з адмецінай прыпынку.

Радзіма-кветка, не змахні мяне
З павек сваіх, як чыстую расінку.
Нас нехта ўздыме,
нехта пракляне...
Няўжо й далей эпохамі прыпынку?

Убач, народ, вазьмі мяне з вякоў...
А прыйдзе час, — у жвір таркні сцяжынку,
Так абгарні зямлёй з усіх бакоў,
Каб мяккім быў мне вечны жах прыпынку.

І толькі ты, паэзія, адна
Не месцішся ні ў сэрца, ні ў катрынку.
Бяссмерцем неба, беспрасвеццем дна
Удар па мне,
апошні гром прыпынку!

* * *

*Л.*

Акардэон абветраных дарог
Усхліпнуў зноў пад светлымі рукамі...
Цябе мне лёс, напэўна, прыбярог,
На палынах настоены вякамі.

Бярэзнікі пасеклі на крыжы.
О як баляць нам цені дарагія...
Ёсць настальгія славы і душы,
Калі прасцей, —
па продках настальгія.

Тваіх мядункаў зрошаны абрыс
Такой антычнай змучанай пароды.
І неба, разгайданае, уніз,
У позірк мой,
сарвецца назаўсёды.
Мы пойдзем разам...
Смелыя, нібы
Рассыпаны па ўсіх рачулках кладкі.
Цвіценне дум разбіта на сады,
І адцвітанне будзе без аглядкі.

О як трывожна бліскаюць гады,
І кожны дзень, як вокамгненнасць брытвы.
Мы пойдзем разам...
Гордыя, нібы
Развораны ў палях зярнят малітвы... —

Пакосамі агню і адкрыцця,
Бярэзнікамі,
злучанымі раннем.
І вецер, хутаранскае дзіця,
Прытуліцца да губ тваіх
рыданнем.



Валянціна Коўтун. «Старая кузня».
Картон, алей, аўтарскі паўтор, 2011 г.

* * *

На самай звонкай ноце пішуць людзі
Пра маладосць, любоў і дабрату.
А для расстання, для ўсяго, што збудзем,
Я першай ноты так і не знайду.

Іх столькі, нотак — светлых і адчайных,
Што духавыя трубы ўсіх часоў,
Як табуны, сыходзяцца ў маўчанні
На вадапой разлітых валасоў.

Папрок вачэй. І досыць будняй звягі.
Перажывем ілюзіі, як дзень.
Хіба згрызоты нашы варты ўвагі
Ў бясконцым гуле ўсіх праблем і дзей?

Калі мембранай стала ўся айчына, —
Мы з ёй нязменна правяраем слых.
Ці ж важна, як жывецца мне, адзінай,
Калі жывеш, як за сябе, за ўсіх.

Але начамі з вечнымі вачамі
Ідзе кіно ў сусвету на сцяне:
Каханне... Ты! І той высокі камень,
Які з любві ўжо выкацілі мне.

## Вячэрняе

Гараць, гараць вуголлем мазалі.
Парогі дзён.
Аж змучыла дарога.
У раўнадушша ўсе парады:
«плі!»
І спачуванне, як для некралога.

Усё часцей на іх гляджу вачмі
Каханага,
сяброўкі,
нумізмата.
Акроплены крывёю акрабата,
О чорна-белы свет мой, адпачні...
Прыглушвай, сэрца, вечны свой пароль,
Вядомы толькі гібелі і ўлонню.
Жыву страсцямі продкавых Асоль
І ўсіх памылак
проста ўжо
не помню.

* * *

Палюбіць, калі ні ў чым не страшна,
Мне цяпер, на згоне лет, страшней.
Хто смяяўся з гордасці ўчарашняй,
Сёння ўжо за слабасць папракне.

Гэта восень мройна залаціцца,
Хоць і фарбай пырсне ў сівізну.
Гэта сталасць, жоўтая ільвіца,
Кожны дзень, я ж чую, — на спіну!

Ў тым палёце развітальнасць будняў,
Апантанасць сэрца і дабро.
Скажаш: позна... Ўсё глыбее студня,
Ўсё даўжэй ляціць уніз вядро.

Зачарпні цяпла майго і болю,
Пражыві, што мне ўжо не пражыць.
З гэтым: «Позна!» мы выносім з бою
Смерць сваю. Не цела, дык душы.

* * *

Было табой усё. І на дасвецці
Той жоўты луг знямогай асляпіў.
Было табой усё. І нават вецер
Знаёма гэтак лашчыў і любіў.
Наш поўдзень вырас проста
з перадплечча.
Пара цярпенне з радасцю змірыць.
Істота ўся, як развітанняў веча,
Не проста ные. Ные і баліць.
Мы крышым краты даўкай адзіноты,
А людзі кажуць: што ж гэта яны?
Ты снег ці сонца?
Даўні сябра, хто ты?
Навошта зноў трывогі без віны?
Нібыта мы ў акно знадворку б'ёмся,
Нібыта не ў абдымкі йсці, а ў бой.
Навошта так? Яшчэ ж не расстаёмся,
Яшчэ мы не сустрэліся з табой.

* * *

Пласцінкі голас.
Чуйны злом брыва...
Эдзіт Піаф спявае парыжанам.
На крыжык рук упала галава.
Ты знала?
як? —
што мне цяпер пагана?!

Пласцінкі голас.
Кружыць нотны знак.
Між намі год і нацый адгароджа.
Няўжо, Піаф, ты знала?
Толькі як? —
Што мне цяпер так светла
і прыгожа...

* * *

Мілы наш сучасны дрывасек,
Ваш тапор маю бярозу ссек.
Ваш тапор бяжыць, як факстэр'ер,
Языком залізвае старанна
Свежыя пянькі на тых палянах,
Дзе да хмар аж высіўся давер.

Паглядзі, наш мудры дрывасек, —
Вунь гняздо, што напал ты рассек.
Для чаго звілі яго? Калі?
Што пытаць... Во бор ужо ўспаролі
Факстэр'еры металічнай волі...
Іх сляпцы пусцілі па зямлі.

Бор мы садзім. Там, дзе быў стары.
Чуеце, як брэшуць тапары?!

* * *

Ну вось і я чакаю на адлігу,
І мне дарэчы спросціцца, празрэць,
Перагартаць старую тую кнігу —
У пераплёце рук тваіх і дрэў.

Перамаўчаць і рэўнасць, і каханне,
Перамяніцца ў ціхі неагонь...
І ўсё ж, і ўсё ж пергаментным світаннем
Хоць раз ды зліцца з роспачным канём.

О-гой праз боль, праз поле даўняй веры,
Удар хлыста. Усмешка ці бар'ер?
Маёй вясне з пакуты і паперы
Ты хоць на міг, на ўзлётны міг павер.

Павер зямлі абветрана-зялёнай,
Павер траве, дзе млеюць спарышы.
Мне гэтак страшна, горка і спакойна,
І ні на ўздых не вырвацца з душы.

* * *

Вось і ўсё.
У печы паліць хата.
Гаспадыням добрым не зманю.
Дым стаіць над комінам цыбаты, —
Пасынак бярозкі і агню.

Смейцеся, заезджыя хірургі,
Вы прыроду знаеце наскрозь.
Маладыя ўедныя папругі
Для мяне ў мае сябрыны ёсць.

Гэты збой...
Дыханне астранаўта.
Гэты скальпель нерва і пяра.
Вось і ўсё. Ляціць над векам хата,
Як мадонна з вечнага кастра.

Ліжуць пяты рэйкі і замовы,
Смейцеся, хірургі-мастакі.
Ў гэтым сэрцы — мудрыя высновы,
Ў гэтым небе — парастак рукі.

Азірнуся ў колер перадкрылля,
Ападу ў жывыя дзірваны.
Нават маці — з іменем Марыля.
Нават бацька — вогнішчам віны.

*З кнігі вершаў «Метраном».*
*Мінск, 1985 г.*

# «СЛОЎ РАСПАГОДЖАНАЯ ДАЛЬ…»

## ДУХОЎНАЯ СПАДКАЕМНІЦА ЦЁТКІ І ЕЎФРАСІННІ

Пісьменнікі не знікаюць бясследна, хоць, бывае, адыходзяць заўчасна. На ўзлёце творчасці абарваўся зямны шлях Валянціны Коўтун — пісьменніцы самабытнай, яркай, якая глыбока разумела сутнасць зямнога жыцця і пражывала свойісны шлях у пошуку Нябеснага Валадарства. Яе творчасць пра гэта яскрава сведчыць. Дык узыйдзем жа, акуратна і басанож, на яе духоўна-творчую сцяжыну, каб дакрануцца хаця б крыху да гэтай высокай і трапяткой сутнасці.

Першы паэтычны зборнік вершаў Вялянціны Коўтун, дзяўчынкі з глыбокага Палесся з беларускай настаўніцкай сям'і, што вандравала па вясковых школах у рэчыцка-пінскім геаграфічным арэале глыбокіх савецкіх часоў, называўся «Каляровыя вёслы» (1971). Ці не воплескі дняпроўскіх, а пазней прыпяцкіх хваляў гартавалі яе ўзрушаныя, на сонцы выспеленыя, настоеныя радкі, каб яны потым натхнёна і бескампрамісна выдыхнуліся, прыйшлі да сучасніка з першага ж праграмнага верша «Песня»:

*Радкоў лясная ўсхваляванасць,*
*Слоў распагоджаная даль,*
*Зноў растрывожаны світанак*
*Сваю расу траве аддаў...*

*І постаць светлая Радзімы,*
*Мой новы дзень на скразняку, –*
*Усё стаіць перад вачыма,*
*Падпёршы кулаком шчаку...*

У маім уяўленні Валянціна Коўтун так і застаецца натхнёнай спашукальніцаю «слоў распагоджанае далі»... І гэта ж яна сама ва ўлюбёнай позе — «падпёршы кулаком шчаку», — сядзела дні-ночы — ночы-дні напралёт над сваімі радкамі, снуючы трапяткую, свярблівую думку: аб Радзіме, аб сутнасці таленту, аб руплівіцах на гэтым шляху (Цётцы, Еўфрасінні ды часткова прыдуманай ёю самой лагернай пакутніцы — пісьменніцы савецкіх часоў Лесі Беларускі), аб каханні, што запаляе сэрцы ўзрушаным неспакоем... Гэта ж менавіта тыя самыя «вечныя пытанні», дзеля якіх і прыходзіць у свет ПІСЬМЕННІК з ласкі Божай, і нараджаецца ТАЛЕНТ... Талент, які ніколі не пытаецца і не будзе пытацца, ані колькі яму за гэта заплацяць, ані як яго за гэта ўганаруюць...

У творчай асобе Валянціны Коўтун спалучаліся розныя таленты: лірычны, эпічны, драматычны, талент філолага-навукоўца, які ўмее не толькі тварыць, але і трапна разважаць аб творчасці, а таксама талент фалькларыста, які быў глыбока прасякнуты хараством народнай песні... Вызначальнаю рысай яе шматграннага літаратурнага таленту была, на маю думку, узнёслая метафарычнасць, што нараджалася натуральна, нязмушана — пад уплывам рэальных уражанняў і бруйлівай фантазіі. Не штучныя, а менавіта ёмістыя, — яе метафары ўвасаблялі адметнае, вобразнае *жыватварэнне* словам. «Паэты растуць і разгортваюць свае крылы не толькі разам са сваім часам, але і з усім бязмежжам Творчасці. Гэта і касмічнае люстэрка і выява ўнутры яго...», — пісала Валянціна Коўтун у прадмове да сваёй кнігі выбраных вершаў, якую сімвалічна назвала «Свяча любові» (2006). І ў самой назве, і ў згаданых радках — сутнасць разумення Творчасці і шляху Творцы. Менавіта любоўю поўніліся радкі яе твораў, любоў яна перадавала ўсім нам — чытачам-сябрам ды чытачам-незнаёмцам — як запаленую свечку, каб асвятляць нераскаяную цемру чалавечага супраціву Богу...

Раніла яе найперш глыбокая здрабнеласць пісьменніцкага чыну і духоўная абніжанасць валадароў слоў. Так і напісала ў канцы мая 2001 года ў «Незавершаным вершы»: *«У Калыме секлі елкі элітныя... // Сталі мудранькія... прыкарытныя...».* І гэта — аб калегах-пісьменніках, аб творцах — валадарах слоў... Балючыя радкі... І каялася за ўсіх:

*Дзе падзеліся нашы Костусі?..*
*Ці звлудзіліся? Ці забраснелі?*
*А былі ж Алаізамі... Янкамі...*
*Сёння бавімся прамайлянкамі...*

*Былі вязнямі, эмігрантамі,*
*Сталі, можа, калабарантамі?..*
*Беларускія супляменнікі...*
*Гаварлівыя нашы пісьменнікі.*
*Каемся, Госпадзі!*



На пісьменніцкім з'ездзе. У першым радзе:
Валянціна Коўтун, Ніна Мацяш, Ларыса Геніюш;
у другім радзе: Данута Бічэль, Уладзімір Караткевіч. Мінск, 1981 г.
Фота У. Крука.

Глыбока кранае мяне і паэзія кахання Валянціны Коўтун: не проста пачуццёва-прачулая, жыццёва-дакладная, але і філасафічная, мудрая, можна сказаць, па-біблейску «сафійная». Яна пісала ў сваіх развагах аб каханні, што гэта «страсць зямная і псалмы нябесныя», глыбока разумеючы дваістую сутнасць вялікага пачуцця — або вялікай ствавальнай і жыццяноснай энергіі, дадзенай Богам для чалавека ў якасці наймацнейшай рухальнай сілы яго зямнога прабывання, у якой перапляліся цялесныя адчуванні (*«страсць зямная»*) і духоўная звышсіла (*«псалмы нябесныя»*). Так яна і чулася ў сваім зямным прабыванні: ва ўдзячнасці за ўзрушлівыя калівы пачуццёвае радасці ды ў прасветленым разуменні іх нестасоўнасці з вымярэннем чалавечага быцця вечнасцю. У ёй жа — у вечнасці — чалавек застаецца толькі сам-насам з Богам. Чытаючы яе вершы, мне здаецца, што яна гэта адчувала і свядома і несвядома:

*Сівых анёлаў стомленае веча.*
*Жарсці забытай хвалі паплылі...*
*І рукі, што я клала Вам на плечы,*
*У крылы зноў цяпер перараслі.*

*Здавалася, такі прастор шырокі,*
*Такая непазбежнасць вышыні!*
*Але чаму ў палёце адзінокім*
*Не пра вякі гаворым, а пра дні?..*

Як мне здаецца, менавіта гэтае яе імкненне «гаварыць пра вякі», тады як жыццёвы рух асуджае нас толькі на маўленне «пра дні», прывяло яе да жадання ўвасобіць у літаратурных творах постаці Еўфрасінні Полацкай і Алаізы Пашкевіч (Цёткі). Яна і сябе вымярала па гэтых высокіх імёнах, арыентуючыся на іх як на Ідэал служэння Праўдзе і Справядлівасці, Годнасці і Красе, а таксама і, можа, найперш — Свабодзе. Свабодзе ўзнімацца над вярыгамі зямнымі, плоцевымі, грахоўна-спакуснымі, прыгожымі ў гэтай заўсёдна зманлівай для чалавека на яго зямным шляху спакуснасці. Бо спакуса па сутнасці сваёй не можа быць непрывабнаю! На тое яна і спакуса, каб блішчэць, задзіўляць «хараством» і «дасканаласцю» ды клікаць у свае гарачыя абдымкі... Постаці Еўфрасінні і Цёткі давалі права і моц расшчапляць абдоймы спакусаў, выходзіць на суровыя прасцягі Праўды евангельскага Дэкалогу і Вечных Ісцінаў, дзе найперш шануюцца ахвяра і аскеза, убогасць і міласэрнасць, уменне красамоўна маўчаць і немудраслоўна гаварыць...

А Пісьменніку на гэтым шляху, можа, трэба быць найбольш абачлівым і руплівым, каб не растрачваць свайго таленту, дадзенага Богам, на пустое: на тое, каб угодліва патрапляць густам меркантыльнага свету, які толькі і чакае задавальнення сваіх распусных фантазій. Сапраўдны пісьменнік — гэта найперш Божы слуга і Ягоны апостал Слова! Такі пісьменнік свядома абыходзіць спажыўныя купіны забаўляльных, эратычных ды забойчых сюжэтаў, дзе сцёртасць мовы кампенсуецца парушэннем цэнзурных нормаў выражэння. Ён рупіцца толькі пра тое, каб распарадзіцца належным чынам каштоўнасцю важкіх, з Неба спасылаемых Словаў... Мне здаецца, Валянціна Коўтун была якраз такім Пісьменнікам!

Першым жа гістарычным вобразам, даступным для літаратурнага асэнсавання-ўвасаблення, сталася для Валянціны Коўтун менавіта Алаіза Пашкевіч — легендарная наша Цётка — натхнёная спявачка аб Беларусі на самым пачатку XX стагоддзя, згарэлая, як свечачка, у вогнішчы трасцаў-хваробаў пакутліва нараджальнага тады беларускага нацыятворчага шляху. У сваім першасным з'яўленні Цётка «наведала» паэтычную фантазію Валянціны Коўтун лірычна: пісьменніцай была створана паэма «На зломе маланкі», якая ўвянчала яе паэтычны зборнік з такой жа самаю назвай у 1981 годзе:

*То цемры чад, трызненне сноў,*
*То раптам вецер бразне форткай...*
*Аглухла Вільня ад званоў.*
*У парку ціха ходзіць Цётка...*

Уяўляецца, што менавіта праз вобраз Цёткі пісьменніца шукала адказы на балючыя пытанні нацыянальнага быцця беларусаў, так і не вырашаныя ні на пачатку, ні ў канцы XX стагоддзя: асабліва што датычылася роднай мовы і ідэнтычнасці, укарэненай у рэчаіснасць годным радаводна-шляхетным дрэвам мінуўшчыны, у кроне якога спяваюць шчаслівыя райскія птушкі цяперпершчыны ды будучыні... Цётка вярталася да Валянціны зноў і зноў, стукаючыся ў пісьменніцкае сэрца, аж пакуль з яго, урэшце, не выпрыснуліся драматычная паэма «Суд Алаізы» (зборнік «Метраном», выдадзены ў 1985 г., уганараваны Літаратурнай прэміяй імя Аркадзя Куляшова ў 1986-м) і раман «Крыж міласэрнасці» (1987).

Драматычны твор, як і раман, вымагаў і адпаведных мастацкіх сродкаў рэалізацыі. Апрача рэальнай гераіні — Алаізы — тут дзейнічаюць вымышленыя персанажы, якія насамрэч маглі быць адмоўнымі ці станоўчымі спадарожнікамі лёсу ўлюбёнай гераіні. Так ці інакш, яны ўплывалі на пазіцыю Алаізы-рэвалюцыянеркі, змагаркі з царскім самадзяржаўем, і на пазіцыю Цёткі-пісьменніцы, грамадзянкі ўяўленай краіны будучыні — залатавалосай, сінявокай, дасканалай у сваім харастве, — Беларусі, якая апрачхнулася, нарэшце, і якая збірае сваіх дачок-сыноў на годнае будаўніцтва нацыянальнага Дому... Многія радкі твора ўспрымаюцца сімвалічна, маюць панад сюжэтавы сэнс, як, напрыклад, гэтыя: *«Ёсць пацукі. Ёсць геніі радзімы... // Каго ты, будучыня, станеш зваць сваім?»*.

Вяршыняй творчасці Валянціны Коўтун як празаіка, несумненна, стаў раман (ці, як яна сама яго жанрава вызначыла, раман-жыціе) «Пакліканыя» (2002), прысвечаны Еўфрасінні Полацкай. Сюжэтнай канвой твора стала падарожжа Еўфрасінні ў Ерузалем. Пісьменніцы ўдалося глыбока і пераканаўча ўзнавіць і сам вобраз святой патронкі Беларусі і панараму жыцця Полацкага княства ранняга Сярэднявечча. Знешні кантэкст падзеяў і ўнутраная логіка вобраза галоўнай гераіні ў рамане Валянціны Коўтун поліфанічна сплятаюцца. Галоўным жа акордам твора гучыць ідэя пакліканасці — пакліканасці да святасці, да служэння Богу і Айчыне, да жыцця ў любові і міласэрнасці.

Вобраз Еўфрасінні прысутнічае і ў многіх вершаваных творах Валянціны Коўтун. З ім як бы злучана яе пісьменніцкае светаўспрыманне, бо ён дапамагае расстаўляць акцэнты, вызначаць сапраўднае, адрозніваць праўду ад хлусні, высокае ад прыземленага. У сваёй кнізе «Свяча любові» Валянціна Коўтун назвала цэлы цыкл літаратурных партрэтаў «З роду Еўфрасінні». У вершы «Беларускім паэтэсам» з гэтага цыклу, прысвечаным Алаізе Пашкевіч (Цётцы), Ларысе Геніюш, Яўгеніі Янішчыц, яна пісала:

*...Набрацца мужнасці – і жыць!*
*І ў ззянні слоў праз год прагоны,*
*Праз мір і войнаў каламуць,*
*Як кветкі, вашыя імёны*
*На шлях Айчыны пакладуць!*

Паэтычны голас Валянціны Коўтун быў мужным і шчырым, часам горкім у сваёй праўдзівасці, калі яна разважала над праблемамі сучаснага нацыянальнага быцця беларусаў, як, напрыклад, у вершы «Свабода» (*«Ўпіваецца ў народ двухмоўе – // Змяі раздвоены язык...»*), часам узнімаўся да прарочасці. Было заўважна, асабліва ў паэзіі апошняга дзесяцігоддзя, як узрастала духоўнасць пісьменніцы, якая шукала адказы на пытанні зямнога быцця ў нябёсным. Яна разумела пісьменніцкі шлях як служэнне, а не як дасяганне выгодаў ды славы. Вось сутнасныя радкі з верша «Замест рэквіема»:

*О, продак мой, не асудзі,*
*Што праўдай не душа, а сытасць.*
*І пашкадуй, і павядзі*
*Да Божай чашы ад карыта.*

А ў вершы «Аднагодкам», прысвечаным Сяргею Законнікаву, яна разважала аб сяброўстве як адной з вечных каштоўнасцяў быцця, аб вернасці і страце ілюзій, і як суцяшэнне для блізкіх, *«калі піла падлічвае гады»*, дзялілася спазнаным у глыбіні ўласнае душы адкрыццём, якое гучала як запавет ад Валянціны:

*Адчуўшы смак хвіліны і бяссмерця,*
*Спазналі ўдар крыла і забыцця.*
*І ўсё-такі... Сябры мае...Паверце...*
*...Не баймася... Ні смерці, ні жыцця.*

Гэтыя радкі выразна сведчаць пра тое, як арганічна ў паэзію Валянціны Коўтун перацякала духоўнае святло евангельскіх ісцін, як яно станавілася жывым спазнананнем праз зямны шлях, непрыдуманай праўдай яе творчай існасці. Няхай жа палае Свяча яе Любові для нашага духоўнага спажытку.

*Ірына Багдановіч*



# Чэслаў Мілаш «Будзь са мной цярпеннем Тваім...»

## Да 100-годдзя з дня нараджэння

Чэслаў Мілаш — той рэдкі вялікі чалавек і вялікі паэт, які здолеў змясціць у сваё стагадовае зямное жыццё Вялікую вайну 1914–1945 гадоў, што незваротна змяла з нашай Усходняй Еўропы «стары добры свет» з польскім дваром, габрэйскім мястэчкам і «тутэйшай» вёскай з «людзьмі польскай веры» ды «людзьмі рускай веры», а потым «халодную вайну» 1945–1991 гадоў, якая скончылася ўпадкам камунізму, на чыім месцы цяпер невядома які «новы свет», заняты галоўным чынам тым, што ўпраўляе «еўрарамонт» пасавецкай спадчыны з яе індустрыялізацыяй, урбанізацыяй і культурнай рэвалюцыяй.

Чэслаў Мілаш пісаў і друкаваў сучасныя вершы на працягу сямідзесяці гадоў, і ў тым яго «сапраўдная мудрасць і праўдзівая глыбіня». На мой розум, так сталася, як было, бо для яго літаратура была гісторыяй чалавека, навукай пра чалавека, а не «прыгожым пісьменствам» ці «гульнёй у словы», што б там ні пісаў сам Чэслаў Мілаш пра сваю паэзію і пра сябе.

Калі ў 1935 годзе Чэслаў Мілаш першы раз прыехаў у Парыж, дзе амбасадарам Літвы быў яго вялікі сваяк Оскар Мілаш, ужо лаўрэат Нобелеўскай прэміі і жывы класік французскай літаратуры, то найперш папярэдзіў сваяка, што ён сам верыць у левыя погляды ажно да сацыялізму, а той вялікі Оскар толькі пасміхнуўся і сказаў маладому Чэславу, што ён «найперш шляхціц, а шляхціц — гэта чалавек абавязковы», што б і дзе з ім ні было». Тут можна толькі дадаць, хоць можна і не дадаваць, што яшчэ ў 1855 годзе Станіслаў Юндзіл вывеў формулу: «хто не быў сацыялістам да трыццаці гадоў, той не мае сэрца, а хто так і застаўся сацыялістам пасля сарака гадоў, той не мае розуму», але неяк так выйшла ў Чэслава Мілаша, што да канца сваіх дзён быў ён не проста чалавек абавязковы, але і чалавек абавязаны. Здавалася, заўжды пісаў для сябе і стараўся жыць для сябе, але чым далей, тым болей выходзілі ў яго нават не бязлітасныя аналізы нашага шалёнага свету, але за прароцтвам прароцтва, хоць ніколі не пісаў наўпрост ні палітычных прагнозаў, ні маральных інструкцый — пісаў пра сябе, а выходзіла калі не пра ўвесь сусвет, то пра ўвесь чалавечы свет «нашай Усходняй Еўропы».

Каб пра што-кольвек сведчыць, найперш мусіш ясна акрэсліць, а што ж такое ты сам, сведка — і калі такога акрэслення ад Мілаша дабіваліся, калі пад канец XX ст. ён пераехаў з каліфарнійскага Бэрклі ў польскі Кракаў, то Мілаш цалкам паважна па змесце, хоць з непрыхаванай іроніяй у словах заявіў, што ён «артадаксыйны каталік», таму што «ліцвін польскай культуры»... Хто ведае гісторыю кальвінскай і каталіцкай рэфармацый XVI–XVII стст. у Вялікім Княстве Літоўскім і Рускім разам з гісторыяй усіх маскоўскіх, казацкіх, турэцкіх і шведскіх войнаў 1558–1667 гадоў, той Мілаша зразумее, а хто ведае толькі школьную ці «нацыянальную» гісторыю як далёкага, так і нашага часу, таму зразумець Чэслава Мілаша будзе сапраўды цяжкавата. Зрэшты, сам Мілаш так «падвёў рысу» незадоўга да свае смерці: кажа, і я з усімі, і са мною ўсе мелі клопаты — ад Івашкевіча з Гедройцем да Бродскага з Гавелам — а вось за мяне разумнейшы быў адзін Караль Вайтыла vel Ян Павел II, бо я сам сябе часта не разумеў, а ён заўсёды спраўляўся...

Сёлета Чэслаў Мілаш пражыў свае сто гадоў і жыве паміж нас далей.

*Алесь Чобат*

# Чэслаў Мілаш

## Прадмова

Ты, каго не мог ацаліць, — паслухай мяне.
Зразумей простую мову, бо сорамна іншай.
Клянуся, што я не чарую словам,
Бо кажу табе моўчкі — як маўчаць птушка і хмара.

Што мяне мацавала, табе вылазіла смерцю.
Развітанне з эпохай ты браў за пачатак новай,
Натхненне нянавісцю за прыгажосць лірыкі,
Сляпую сілу за дароблепае да канца завяршэнства.

Тут табе і даліна павольных тутэйшых рэкаў. І мост
Крочыць белай імглой. Тут табе і пераламанае места,
І чайкі плачуць, і вецер над тваёю магілай,
Калі гавару з табой.

Што такое паэзія, якая не ратуе
Ні людзей, ні народаў?
Супольства службовай брахні,
П’яная песня, каму зараз нехта перарве горла,
Чытанка ў пустым пакоі маладой пані.

Тое, што хацеў я добрай паэзіі, а не ўмеў нічога,
І тое, што было позна, калі ўбачыў, чаго вартая мэта,
Вось у тым і толькі ў тым збаўленне маё.

Пасыпáлі даўней магілы просам ці макам,
Каб мёртвыя прыляталі есці, — як птушкі.
А гэтую кнігу кладу на магілу, мой даўні,
Каб ты ніколі не адведваў нас болей.

*Варшава, 1945*

## *Mittelbergheim*

Станіславу Вінцэнту

Спіць віно ў бочках з дубоў над Рэйнам.
Будзіць мяне звон касцёла над віназборам.
*Mittelbergheim*. Чую малую крыніцу,
як цячэ на падворку ў цэбар,
чую на вуліцы стук ступакоў,
плугі, драўляныя колы, подых тытуню пад паветкай,
схілы гор — і восень побач са мной.

Мае вочы яшчэ спяць. Не падганяй ты мяне,
Агонь, Моц, Сіла, — зарана яшчэ.
Я пражыў шмат гадоў і, як у тым сне,
чуў, што дасягаю рухомай граніцы,
за якой праяўляюцца колер і гук,
за якой паяднанае ўсё на зямлі.
Не адчыняй маіх вуснаў гвалтам,
дай паверыць, што сам дасягну
і сам прычалю ў Міттэльбергхайме.

Я ведаю — я абавязаны. Са мною восень,
драўляныя колы, лісце тытуню пад паветкай,
тут і навокал... Тут мая зямля,
дзе б я ні глянуў і на якой ні пачуў бы мове,
як дзіця пяе, як гавораць каханыя,
і я шчаслівей за другіх, бо магу браць усё —
усмешку, зорку, пагляд, складку шоўку на каленях.
Спакойна азіраючыся, магу ісці праз горы
на світанку дня —
над вадой, над местам, над дарогамі і звычаямі людзей.

Агонь, Моц, Сіла, ты мяне так трымаеш
у мазольных далонях, чые барозны
глыбокія, як яры, вычасаныя паўднёвым ветрам,
Агонь, Ты пэўнасць даеш,
калі прыходзіць час жаху, тыдзень сумневу —
зарана яшчэ, хай віно даспее
хай спадарожныя спачываюць у Міттэльбергхайме...

*Эльзас, 1951*

## Вы, пераможаныя

Вы, пераможаныя
І даўно адусюль прагнаныя,
Год за годам узіраецеся ў фотакартку белага двара
І таварыства ў летніх строях пад ганкам,
Прабачце мне, панічы з радаводам,
Бо яшчэ ў школе вам здрадзіў,
Калі выбраўся скруціць шыю ў краінах
вялікага розуму,
Там над тлумам вернікаў не плыве балдахін
На свята Божага Цела
І вяз*а*нкі зялёных галінак
Не здобяць парафіяльны касцёл.

Цёмныя яліны ў поўні месяца, самота і гнеў
Былі мне патрэбныя,
Каб мог узняць да зусім другой моцы
Мой павет і вас, мае цені,
Хто ідзе на мой голас.
Быў я сам увесь пакалечаны,
Быў адлучаны ад бацькоўскіх звычаяў,
І была мне дадзеная іншая вернасць.

## У месце

Места было каханым, шчаслівым,
У чырвоных півонях, у белапозніх бэзах,
Барокавыя вежы падпіралі нябёсы.
Добра было вярнуцца дамоў з маёўкі
І ставіць польныя кветкі ва ўсіх пакоях,
Добра было глядзець праз акно на вуліцу,
Па якой хадзілі да школы, —
На мурах вострая граніца сонца і ценю —
Добра было веславаць на азёрах.
Кахацца прычальвалі на зарослыя хмызам астравы,
Потым заручыны і шлюб у касцёле святога Юрыя.
А потым канфратэрня[1] гуляе ў мяне на хрысцінах.
Цешаць мяне, стараюцца музыканты,
красамоўцы, паэты,
Поўныя тлуму брамы, калі цягне вуліцай
Шэсце Цмока.
Штонядзелю сядаў у касцёле на лаве фундатараў.
Насіў тогу і ланцуг залаты, падарунак сумесцічаў.
Стараўся, бо ведаў — і ўнукі мае вернымі месту
будуць.

Калі б так папраўдзе было! Калі б не змяла
завея мяне
За моры, за акіяны... Бывай, страчаны лёс.
Бывай, места болю майго. Бывайце, бывайце...

## Ляшчына

Не пазнае́ш ты мяне, ляшчына, а гэтая —
Хто з цябе лук вырэзваў на свае дзіцячыя гульні,
З гнуткага твайго цела, якое бегла да сонца.
Разраслася ты — і цень аграмадны,
і новыя галінкі гадуеш.
Шкада, што я даўно не той і твой хлопец.
Цяпер адзін кій вырэзваць магу —
бачыш, хаджу з ляскай.

Любіў я цела тваё — бронзавае, з белым налётам,
Ляшчынавага колеру.
Радасна, штоператрывалі дубы і ясені,
Але найболей ты мяне цешыш,
Кругом чароўная ў бліскучых арэхах,
З пакаленнямі вавёрак, з іх бясконцай гульнёй.
Гэта падобна да задумы Геракліта.
Калі сам стаю тут,
Калі спамінаю даўно мінулага сябе
І жыццё, якое было — і якое жыццё магло быць.

Не трывае нічога, але трывае ўсё.
Такая вось аграмадная сталасць,
І там спрабую змясціць сваё прызначэнне,
Якога — калі папраўдзе — сам я мець не хацеў.
А быў я шчаслівы, калі трымаў твой лук у руках
І падкрадваўся берагам над ракой.
А што было пазней, наўрад ці вартае,
каб пацiснуць плячыма.
Бо там адзін жыццярыс, біяграфія —
Гэта значыць, адна хлусня.

*POST SCRIPTUM*

Біяграфія — гэта выдумка і вялікі сон.
На краю неба паміж бярозаў стос аблокаў
Адно на адным.
Жоўтыя іржавыя вінаграднікі падвячоркам.

Нядоўга быў я слугой і вандроўнікам.
Цяпер адпусцілі мяне
І вяртаюся палявою дарогай.

[1] Студэнцкае кола найбліжшых сяброў, «бра́тняк».

## Unde Malum[1]

адкуль зло?
як гэта —адкуль?
з чалавека
з аднаго чалавека
і толькі з чалавека
*Тадэвуш Ружэвіч*

На жаль пане Тадэвуш
добрая прырода і злы чалавек
гэта рамантычныя выдумкі —
калі б так было
то можна было б неяк цярпець
але пан тут паказвае
толькі глыбіні свайго аптымізму

даволі дазволіць чалавеку
вынішчыць свой род без астатку —
і наступяць нявінныя ўсходы сонца
над вызваленай флорай і фаўнай

на месцы колішніх фабрыкаў
вырастуць дубровы
кроў разадранага ваўкамі аленя
ніхто не ўбачыць
і ястраб будзе падаць на зайца
без сведкаў

зло знікне са свету
калі знікне разуменне што гэта зло

так пане Тадэвуш
зло — і дабро! —
ідзе з чалавека
з аднаго чалавека
і толькі з чалавека

[1] «Пад рысай»; канчатковая выснова, вынік (лац.).

## Малітва

Мне пад дзевяноста, а яшчэ спадзяюся,
Што скажу, выкажу, выкрышу з сябе ўсё.

Калі не перад людзьмі, то перад Табой,
Хто карміў мяне палыном і мёдам.

Сорамна, бо мушу верыць, што вёў мяне Ты і бараніў,
Як за невядома якія перад Табой заслугі.

А я быў падобны да лагернікаў, што дзве галінкі сасновыя
вязалі на крыж і маліліся на нарах ноччу ў бараку.

Насіў я Табе просьбы сябелюбца, а Ты ласкавы быў
іх спаўняць,
Каб сам я ўбачыў бяздонне свае дурноты.

Калі ж я шкадаваў другіх і маліў пра цуд,
То заўжды маўчалі і зямля і Неба.

Западозраны маралістамі з прычыны веры ў Цябе,
Здзіўляўся я без канца прастадушнай упартасці
няверуючых.

Але ж чаго я сам так скачу перад Велiччу,
калі лічу рэлігію добрай толькі слабым — як сам?!

Самы ненармальны з усяго класа ксяндза Хомскага,
З тых дзён углядаюся ў шалёны вір прызначэння.

Пяць пачуццяў маіх паволі замыкаеш Ты на замок,
А я стары чалавек на канапе ў адной цемры.

На ўсё выданы, што мучыла мяне без канца,
Бег я наперадзе самога сябе, вершыкі ўсё складаў.

Выбаў мяне ад віны, якая была і якой не было,
Дай пэўнасць, што працаваў на Тваю хвалу.

У імгненне смерці маёй будзь са мной цярпеннем Тваім,
якое не можа свет ацаліць ад болю.

*Пераклад з польскай мовы*
*Алеся Чобата.*

**Алесь Чобат** — паэт, перакладчык. Нарадзіўся 23 жніўня 1959 г. у мястэчку Скідзель. У 1981 г. скончыў Беларускі тэхналагічны інстытут у Мінску. З 1994 г. належыць да Саюза беларускіх пісьменнікаў, а з 1995 г. — да міжнароднага ПЭН-клуба. Напісаў кнігі паэзіі «Год» (1992), «Новая Галілея» (1995), «Тутэйшая Сага» (2000), «Край мой шчаслівы» (2007), а таксама кнігі па аналітычнай гісторы Беларусі «Зямля святога Лукі» (2002; польскі пераклад 2003) і «Легенда пра чатырох мушкецёраў» (2004). Пераклаў з польскай мовы кнігі Аўгустына Орфэя «Святы Ян Боска» (1993), Чэслава Мілаша «Тое» (2006) і разам з Д. Бічэль — кнігу «Караль Вайтыла. Паэзія. Выбранае. Ян Павел II. Рымскі трыпціх» (2003). Жыве ў Скідзелі.

Данута Бічэль

# У ГЭТАЙ КРАІНЕ…

## Пра выставу Аляксея Марачкіна «Жывапіс» у мастацкай галерэі «Крыга» ў Гародні

Аляксей Марачкін нарадзіўся 30 сакавіка 1940 года ў вёсцы Папоўшчына (Новая Слабада) на Магілёўшчыне. Скончыў Язёрскую дзесяцігодку (1958), Віцебскі педагагічны інстытут (1962), Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут — аддзяленне жывапісу (1972).

Працаваў школьным настаўнікам у вёсцы Рубель Столінскага раёна, у горадзе Жодзіна, у Менску. Выкладаў у БДТМІ, быў загадчыкам кафедры жывапісу Беларускай акадэміі мастацтваў.

Сябра Беларускага саюзу мастакоў з 1977 года. З 1966 года ўдзельнічае ў мастацкіх выставах у Беларусі, Польшчы, Літве, Чэхіі, Славакіі, Фінляндыі, Нямеччыне, Францыі, Вялікабрытаніі, Італіі, Расіі...

Працуе ў розных жанрах жывапісу, у графіцы. Стварыў серыі жывапісных і графічных партрэтаў дзеячаў гісторыі і культуры Беларусі, нізкі «Легенды і паданні Беларусі», нацюрморты, пейзажы, маляваныя дываны.

Творы Аляксея Марачкіна знаходзяцца ў многіх музеях і прыватных калекцыях не толькі ў Беларусі, але і ў замежжы, напрыклад, у музеі «Zimmeli Art» (ЗША).

Адзін з арганізатараў і першы кіраўнік творчай суполкі «Пагоня», якая ў 2001 годзе ганаравала яго срэбным медалём «Адраджэнне Беларусі». Узнагароджаны ордэнам Францыска Скарыны ў 1992 годзе. Жыве ў Менску.



Аляксей Марачкін і гаспадыня галерэі «Крыга» Марыя Мацко на адкрыцці выставы.

...Ідзе дождж, а я іду на адкрыццё выставы ў мастацкую галерэю «Крыга»... Іду паціху і ўспамінаю сустрэчы ў Менску. У мяне з Ірынай Марачкінай была агульная сяброўка — Ірына Крэнь. Калі Ірына знаходзілася ў бальніцы або ў ад'ездзе, я спынялася ў Марачкіных... Правінцыйная паэтка асмельвалася дурыць галаву аднаму з лепшых мастакоў Беларусі!

Аднойчы Аляксей запрасіў мяне на літаратурную сустрэчу ў Акадэмію мастацтваў. Я вельмі хвалявалася, але ўсё адбылося добра, таму што перад тым, як даць мне слова, Марачкін выступіў сам і засярodзіў увагу сваіх студэнтаў, а на ўспамін аб сустрэчы мне падаравалі аб'яву, якую намаляваў сам Марачкін! Успаміналa я і той пісьменніцкі з'езд у 1981 годзе, на якім прысутнічала Ларыса Геніюш, — гэта калі Максім Танк у перапынку паміж паседжаннямі прынёс ёй прыгаршчы цукерак з буфета, а ўсе глядзелі і захапляліся. Мастакі таксама былі запрошаныя на з'езд. Да нас падыйшлі Аляксей Марачкін і Мікола Купава, і Ларыса Антонаўна прапанавала сесці разам у зале «на перакрыжаванку», мы і селі такім парадкам: Марачкін, Геніюш, Купава і я збоку...

Увечары Аляксей і Ірына Марачкіны запрасілі нас у госці ў майстроўню, якая знаходзілася на гарышчы аднаго з тых дамоў, што выходзяць на чыгуначны пляц...

Ішла я і думала пра іх... Думала пра Ірыну, якая была яго натхненнем, яго Музай. Яна дзяліла з ім неспакойны пошук новага, магутнага, свежага прагнення — запоўніць прастору, абмежаваную ў проставугольніку, нечаканай навізной, дабрынёй, бясконцасцю, бляскам, захапленнем, каб здзівіць вочы тых, хто любіць хадзіць пад даждждом без парасона... Жонка, маці, князёўна, служанка, суцяшальніца, заўсёды гатовая любоўю і цярпеннем устрымаць яго ад бляску захаплення і хвалы, супакоіць яго і вярнуць у будзённасць і прастату, каб мог адпачыць і зноў пачынаць пошук... Некаторыя мастакі нават

**Данута БІЧЭЛЬ** — паэтка, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы. Нарадзілася ў вёсцы Біскупцы на Лідчыне. У 1962 г. закончыла Гродзенскі педінстытут імя Я. Купалы. Аўтар кніг паэзіі «Дзявочае сэрца» (1960), «Нёман ідзе» (1964), «Запалянкі» (1967), «Доля» (1972), «Ты — гэта ты» (1976), «Браткі» (1979), «Дзе ходзяць басанож» (1983), «Загасцінец» (1985), «Даўняе сонца» (1987), «А на Палессі» (1990), «Божа, мой Божа» (1992), «Снапок» (1999), «На белых аблоках сноў» (2002), «Стакроткі ў вяночак Божай Маці» (2004), «Ойча наш...» (2008), а таксама кнігаў прозы «Хадзі на мой голас» (2008) і «Мост святога Францішка» (2010).



«Каін і Авель», 2002 г., палатно, алей, 120х176.



«Сабор над возерам», 2006 г., палатно, алей, 60х90.

малююць вобразы сваіх жонак з удзячнасці за тыя церні, па якіх яны ступаюць... А некаторыя не малююць... Затое Аляксей Марачкін намаляваў абраз Маці Божай Апякункі Курапатаў і Маці Божай Апякункі Чарнобылю, узяў свае абразы і прайшоў з імі ў працэсіі па вуліцах Менску! Гэта ўчынак! А жонка, сяброўка, знаходзіцца заўсёды надта блізка, каб убачыць у яе постаці ўтоены вобраз самой дасканаласці...

У той дажджлівы поўдзень яны ўжо былі ў «Крызе», чакаючы наведвальнікаў, і я прыйшла першай. Аляксей адразу пачаў паказваць мне свае палотны, але я не магла засяродзіцца, каб слухаць. Я разгубілася, таму што ведала іншага мастака Аляксея Марачкіна, больш традыцыйнага. Святло душы ішло і ад папярэдніх яго карцінаў, але тут святла было так шмат, што я аслепла... Дзве кантрастныя мадэрновыя карціны «У прадчуванні зімы» і «Таемная восень» займалі левую сцяну, кантраст быў мяккі, цёплы, у ветранай прасторы з халоднаю ракою і сухою асакою і мятліцаю разліта была дабрыня, не змрочны пратэст засыхання... А восень была сагрэтая цёплым сонцам лета.

Сцяну ад дзвярэй займала палатно «Каін і Авель» (2002). Аляксей сказаў, што гэты твор ён прысвяціў Рыгору Барадуліну... Але, дзякуй Богу, у жыцці Барадуліна не было такой страшнай прыгоды, якая здарылася ў старажытнасці... Толькі верш з такім жа загалоўкам напісаў Рыгор Барадулін. На крывавай засохлай зямлі ляжыць знявечаны, распластаны Авель, два ахвярныя ягняты аплакваюць яго цела... Каін, таксама знявечаны грэхам братазабойства, прыціскае нагою штылет, якім толькі што забіў з зайздрасці роднага старэйшага брата... На няроўным жоўтым пясчаным гарбе пустыні відаць прывід братазабойчай вайны, ад якой ляцяць у крывавыя нябёсы збялелыя духі. Неба няма...

Аляксей Марачкін сказаў, што ён пісаў гэты твор, padражаючы Пікасо, але я не ведаю так добра мастацтва, каб прыняць гэта свядома...

На правай сцяне залы змясціўся трыпціх «Сляты Бруна. Камень веры. Анёл. Да 1000-годдзя летапіснай Літвы»... Трыпціх створаны ў той экспрэсіўнай асацыятыўнай манеры, якой карыстаўся Марачкін раней. Вобраз місіянера святога Бруна напісаны ў поўны рост, у багатых цёмна-чырвоных шатах, з крыжам, з Евангеллем і з белай ліліяй. Яго натхнёны твар асветлены, ім кіруе моцная сіла духу абвяшчаць Хрыстовую праўду. Над галавою — німб святасці, а над німбам навісла сякера...

Бруна Баніфацый, арцыбіскуп і пакутнік (974–1009) нарадзіўся ў сям'і графа ў замку Кверфурт у Нямеччыне. У Магдэбургу ў часе вучобы пачуў пра місію святога Войцеха з Лібіцаў. У 997 годзе з каралём Оттанам ён выехаў у Рым, дзе паступіў у абацтва бэнэдыктынаў на Авентуне, прыняўшы імя Баніфацы... Пасяброваў са святым Рамуальдам, які з братамі камедуламі збіраўся на місію ў Польшчу па запрашэнні караля Баляслава Харобрага. Атрымаў тытул біскупа місійнага ад Рым-

скага Папы Сільвестра II.

Праз некалькі гадоў даследуе Русь, Венгрыю, Літоўскія землі, яцвягаў... Апісвае жыццё святога Войцеха, які быў забіты стралой паганскага святара, абезгалоўлены паганамі. Яго астанкі разам з целамі пяці мучанікаў з Мяжырэчча кароль Баляслаў выкупіў за золата і пахаваў у Гнезна...

Святы Бруна ўвасоблены ў прыгожай постаці чужаземца, які палюбіў Польшчу і разам з 18-цю мучанікамі скончыў жыццё недзе на літоўска-яцвяжскім памежжы. І яго цела выкупіў за золата кароль Баляслаў, але дзе пахаваў яго, невядома. Культ святога Бруна хутка пашырыўся ва ўсёй Еўропе.

На правай карціне трыпціха таксама ў поўны высокі рост створана постаць анёла-ахоўніка, у такіх жа чырвоных шатах. На яго крылах і ў доле з-пад плашча відаць белае адзенне. Анёл босы, благаслаўляе праваю рукою. Твар анёла натхнёны, але сумны, над цёмнымі валасамі юнака — чырвоны птах, не падобны да голуба. Пад нагамі абодвух — і біскупа, і яго анёла — цвітуць белыя кветкі, ля паднонжжа растуць елкі... Каля ног анёла паўстаюць балотныя пачваркі або прывіды...

Ці лёгка анёлам у місійных падарожжах за веру ахоўваць людзей, быць сувязнымі ад Бога? Ці шмат можа дапамагчы анёл? Ці баліць анёлу душа, калі яго чалавеку працінаюць стралой сэрца? Ці анёлы сапраўды не маюць сваёй волі?..

Ахвярнасць святога Бруна і яго анёла-ахоўніка паўстае на цэнтральнай карціне трыпціха «Камень веры». Прыгожы абамшэлы валун напамінае пра час, які тут спыніўся, і пра скамянелыя сэрцы яцвягаў, якія некуды зніклі. Услед за яцвягамі шмат якія магутныя сілы імкнуцца, каб зніклі і мы, каб нас тут нібы зусім і не было...Каменю не баліць? Булава і дзіда, скамянелы твар продка, (а можа нашчадка?), заціснуты ў камень... Але ж гэта камень веры! Вера зусім скамянець не можа! У веры застаецца надзея, якая трымае скамянелае жыццё, скамянелае сэрца... Над каменем светла, бо ён прыцягвае да сябе сонечныя промні і рассявае іх у прастору. Продкі-язычнікі верылі ў сонца... Але па-сапраўднаму яны верылі ў адзінага Бога, якога шукалі, якога пакуль што не сустрэлі... Яны баяліся сустрэчы з Богам — слабыя людзі баяцца ўсяго невядомага, таму ад страху забілі Яго пасланнікаў, місіянераў.

...Вера дае супакой, які разліты ў вадзе, у прасторы, у паветраным замку, намаляваным у традыцыях сучаснага дойлідства... Але святло ад каменя праходзіць шмат перашкодаў, рытуальных прадметаў, дробнага камення, пярынаў фантастычных жар-птахаў... Хто мае вочы, можа прачытаць тут сваю драматычную аповесць...

Аляксей Марачкін раздаваў прысутным буклет трыпціху, на адваротным баку якога змешчаны верш мастака, прысвечаны Міколу Ермаловічу, які ў змроч-



«У гэтай Краіне. Партрэт Анатоля Сыса», 2010 г., палатно, алей, 60х75.



«У прадчуванні зімы». 2007 г., палатно, алей, 90х114.

ныя часы панавання сучасных паганаў спаліў сваё сэрца, каб данесці беларусам праўду пра летапісную Літву...

*«...А ён ішоў, наш павадыр, вёў за сабою невідушчых да нашых вояў і мурой, і перуном грымелі пушчы. А ён ішоў... уноч і ўдзень пісаў свой летапіс Старонцы. Будзіў свой Край, адпрэчваў цень. І шлях здаваўся той бясконцым...»*

Мікола Ермаловіч 5 сакавіка 2000 года загінуў у Менску пад коламі аўтамабіля — шафёр, які на яго наехаў, меў прозвішча Бараба...

...На ўрачыстым адкрыцці выставы гаварыла гаспадыня галерэі «Крыга» Марыся Мацко, пасля Аляксей Марачкін апавядаў, як ён ствараў свае карціны, якіх глыбіняў імкнуўся дасягнуць, дзяліўся сваімі таямніцамі мастацтва з прысутнымі, сярод якіх былі сябры яго жыцця, яго вучні... І слухала сівога мэтра моладзь Гародні, якая вучыцца маляваць. Мастацтвазнаўца Марына Загідуліна паведала прысутным пра этапныя шляхі росту Аляксея Марачкіна, які, па яе назіраннях, працуе так і стварае тое, чаго ў Беларусі ніхто не робіць... Па прынцыпе: «Калі не я, дык — хто...»

Нейкая невідочная сіла пацягнула мяне ў праём залы, дзе ў першым пакоі стаялі два крэслы.

Я прысела і ўбачыла пейзаж «Духмяны саснова-летні дзень». Ствалы соснаў святлелі і неслі прахалоду... Я прытулілася містычна да «Сцяны маўчання», якая была не збітая, але сатканая з дашчаных аполкаў балотнага колеру... Узняла вочы ўверх і ўбачыла святыню ў стылі барока, абрысы вежаў якой плылі над возерам; пейзаж «Вецер на Манюце», сапраўды ветраны, вярнуў мяне да рэальнасці... Я адчула, што на мяне нехта ўважліва глядзіць... Мяне свідруюць нечыя вочы... Нечыя знаёмыя вочы свідравалі мяне гэтак раней... На сходах прысядзе недалёка і нешта мудрае скажа — ён увесь час знаходзіўся ў палоне метафараў і іншасказанняў... І ўбачыла — «У гэтай Краіне. Партрэт Анатоля Сыса», 2010 год.

Партрэт удаўся. Глядзіць проста ў сэрца — з горкім шкадаваннем, з глыбокай пакутай... З таго боку люстэрка... З каменя веры... У простай, не вышыванай кашулі, з завостраным штыхом алоўка, зброяй паэта, з надламаным сцяблом рамонка, зламаны нязломны... Зламанае жыццё... Зламанае сэрца... Зламаны шлях паэта... На балотным бруку — перавернуты збанок, але ён не пабіўся, яшчэ засталіся ў ім кроплі памяці і шкадавання, віны жывых. Зводдаль валяецца сабака з такімі ж вачыма, поўнымі ненапісаных вершаў:

*Як той сабака,*
*я шукаю схову —*
*сканаць у ім,*
*каб шкельцы гострых слёз*
*спаўзлі з вачніц,*
*нібы асвіных гнёзд,*
*на вусны*
*і з крывёй збудзілі мову...*

*Няхай хоць перад смерцю*
*я пачую —*
*што*
*крой мая раскажа пра мяне?..*

*Ды гэтай ноччу смерць*
*хай абміне,*
*і, бы ў труне,*
*я ў схове заначую,*
*як той сабака...*
*Я пагібель чую...*

Рассохліся чаўны, пласкадонкі, пахіснуўся плот — трымаецца на дзвюх жэрдках, змацаваных маленькім сцяжком нашай мроі. За паламаным плотам хаваецца рассыпанае сонца, а Дняпро цячэ там, дзе звычайна трымаюць краявід нябёсы... Так я сядзела, і мне хацелася плакаць. Але я не заплакала...Я магла б пачытаць свой верш, які намалявала ў кнізе прозы «Хадзі на мой голас», але я забылася, як ён пачынаецца, бо даўно не чытаю вершаў перад слухачамі...

*...хмары аглухлі, сарваліся, абарваліся хмары со сну ў сон пад адхон, з хваляў сну на сну хвалі — і прапалі, стаміліся і прапалі — у драўляным чаўне на чорным парэпаным дне, не ў горле гарачай печы — у цямрэчы паэта Анатоля Сыса пахавалі, у напластаванні стагоддзяў, туды кроцік не ходзіць, не даходзіць карэнне ў сутарэнне... Чаўны, пласкадонкі, лодкі сталі на якар... і аніякай Дняпровай паводкай твае лодкі з месца не зрушыць... спынены час душыць... якія там ружы?! Памерлі гужы, арэлі — утравелі, удзірванелі...да змёртвыхпаўстання на Божую волю ты паддайся, паэце Сыс Анатолю! Ніякай краплінай слова смагу сваю не натоліш, Беларусі не вымраіш болей неабсяжную светлую волю...*

...На развітанне на дарогу я падпісала Ірыне і Аляксею Марачкіным сваю кнігу «Мост святога Францішка» — як талісман на шлях. Урэшце яны і сустрэліся на мосце святога Францішка, які злучае берагі ракі Дзвіны ў Віцебску, калі вучыліся ў адным інстытуце...

Дома ўключыла радыё. Аляксей Марачкін адказваў на пытанне карэспандэнта, чаму ён прывёз выставу ў Гародню, так:

— Гародню я люблю, бо гэта еўрапейскі горад, апеты паэткай Данутай Бічэль-Загнетавай... У Гародні жыў Васіль Быкаў...

Мне ад гэткіх яго словаў стала цёпла, і я пачала маліцца...

Юры Лаўрык

# ORDO FRATRUM PRAEDICATORUM:[1]

## дамінікане ў свеце і на Беларусі



Дамінікане (паводле выд.: Wielka encyklopedia powszechna ilustrowana. Warszawą 1895. T. XV, s. 791).

*Немагчыма вывучаць гісторыю таго ці іншага кляштара, абмінаючы мінуўшчыну ўсяго закону, да якога гэты кляштар належаў. Паколькі ў беларускай гісторыяграфіі пачаткі і дзейнасць дамініканаў асветленыя даволі слаба, мусім хаця б крыху затрымацца на гэтым пытанні. Мы коратка пагаворым пра тое, з якіх прычынаў узнік дамініканскі закон, як ён пашыраўся ў свеце і якім чынам браты прапаведнікі з'явіліся на Беларусі (зазначым адразу, што пры напісанні гэтага тэксту мы карысталіся даведачнымі выданнямі і сінтэзамі па гісторыі Касцёла)[2]. Асноўная частка нашага даследавання будзе прысвечана стану мінскага касцёла і канвента ў 1796 г. (яна будзе надрукаваная ў наступным нумары). Дамініканскую тэму мы завершым артыкулам «Кнігазборы мінскіх дамініканаў» пад рубрыкай «Кніжныя скарбы».*

**Перадумовы стварэння дамініканскага ордэну**

З'яўленне на пачатку XIII ст. ордэнаў новага тыпу — такіх жа жабрачых законаў, як дамінікане і францішкане — было выклікана даволі неадназначнай рэлігійнай сітуацыяй, што склалася ў Еўропе ў XI–XII стст. На жаль, так нярэдка здаралася ў гісторыі, што слабасць чалавечае натуры прыводзіла да фармалізацыі найлепшых пачынанняў, якія выраслі з найчысцейшых імкненняў чалавечае душы, але ў выніку страчвалі шмат з таго, дзеля чаго задумваліся. Падобная рэч адбылася і з манаскімі законамі. Так, напрыклад, манахі аднаго з першых ордэнаў, бэнэдыктыны, паводле прадпісанняў свайго заснавальніка, павінны былі здабываць кавалак хлеба штодзённага працаю ўласных рук, што выдатна ілюструе іх дэвіз: «Ora et labora!» — «Маліся і працуй!». Аднак, атрымліваючы ад сеньёраў, на чыіх землях знаходзіліся іх кляштары, абшырныя ўладанні і шчодрыя дарункі, манаскія супольнасці з часам узбагачаліся і паступова адыходзілі ад строгага захавання пастановаў св. Бэнэдыкта. Гэта прывяло да патрэбы рэфармавання закону, у выніку чаго з яго вылучылася новая, больш суворая, галіна — цыстэрсы; зрэшты, іх у 2-й палове XII ст. напаткаў той самы лёс.

Падобныя працэсы мелі месца і ў асяродку свецкага духавенства, якое таксама нярэдка занадта моцна прыкладалася сэрцам да зямных дабротаў, губляючы асноўную мэту свайго святарскага служэння.

Узбагачэнне касцёльных інстытуцый і занядбанне імі прынцыпаў першаснага хрысціянства прыводзіла да росту незадавальнення Касцёлам сярод свецкіх вернікаў. Народная пабожнасць, вельмі развітая ў гэты час, патрабавала выхаду, але з прычыны недаверу да клеру і ўплыву ерэтычных вучэнняў (такіх, як, напрыклад, маніхейства, што пачало пранікаць у Еўропу пасля крыжовых выправаў), яна часта вылівалася ў формы, непрымальныя для Касцёла.

Наогул XII ст. характарызуецца шырокім дыяпазонам народных рэлігійных рухаў. Некаторыя з іх Касцёл той ці іншы час і ў той ці іншай ступені талераваў — як, напрыклад, бегардаў і бегінак; з іншымі ж распачаў незміральную барацьбу — як з катарамі і вальдэнсамі. А паколькі ўсе гэтыя рухі займаліся актыўным прапаведваннем сваіх ідэй, сітуацыя ўрэшце запатрабавала рашучага адказу з боку Касцёла — новага апос-

**Юры Лаўрык** — старшы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі. Закончыў бібліятэчна-бібліяграфічны факультэт Мінскага ўніверсітэта культуры, тэалагічны і гістарычны факультэты Люблінскага каталіцкага ўніверсітэта. Даследуе гісторыю беларускай кнігі і бібліятэк.




Падручнік па тэалогіі «Тэалогія розуму і сэрца» аўтарства дамініканіна а. Вінцэнта Кантэнсона, выдадзены ў 1681 г. у Ліёне. (Здымак прадстаўлены Аддзелам рэдкай кнігі Прэзідэнцкай бібліятэкі Беларусі, у фондах якога захоўваецца гэтае выданне.)

тальства, новай евангелізацыі, носьбітамі якой і меліся стаць створаныя на пачатку XIII ст. законы дамініканаў і францішканаў.

**Дзейнасць св. Дамініка**

Дамінікане сваім ўзнікненнем абавязаныя, у значнай ступені, катарам — гэтаму ці не найбольш масаваму і небяспечнаму для каталіцкай веры ерэтычнаму руху Сярэднявечча. Менавіта супраць яго скіраваў вастрыё сваёй дзейнасці заснавальнік закону братоў прапаведнікаў, прадстаўнік візігоцкага шляхецкага роду Гусманаў Дамініга, больш вядомы ў літаратуры пад лацінскай формай свайго імя — Дамінік, што ў перакладзе азначае «Божы».

Нарадзіўся Дамінік дэ Гусман каля 1175 г. у Калеруэга ў Кастыліі (правінцыя Бургос). Сям'я ягоная славілася сваёю пабожнасцю, і хлопец з самага маленства быў прызначаны для духоўнага стану. Таму яго спачатку аддалі на выхаванне сваяку святару, які выконваў свае абавязкі ў блізкім касцёле, а затым — у 1184 г. — адправілі для здабыцця навукі філасофіі і тэалогіі ў катэдральную школу Паленцыі.

Закончыўшы вучобу, Дамінік быў у 1196 г. высвячаны і прызначаны канонікам катэдральнага сабора г. Осма ў Кастыліі, дзе праз пяць гадоў заняў пасаду намесніка прэпазіта капітулы. Неўзабаве па прыездзе яго ў Осма, у 1198 г., была праведзена рэформа капітулы, якая абавязала канонікаў прытрымлівацца прынцыпаў супольнага жыцця на падставе манаскіх статутаў. Далучэнне да манаскай аскезы моцна паўплывала на фармаванне духоўнасці маладога святара, а паколькі ў Осме была прынятая рэгула св. Норбэрта, дык нядзіўна, што і пазней за ўзор правілаў жыцця законнікаў новага ордэну св. Дамінік узяў менавіта прэманстранцкія статуты, распрацаваныя на аснове правілаў св. Аўгустына.

Немалы ўплыў на кшталтаванне асобы і далейшы лёс Дамініка аказала таксама сяброўства з тагачасным прэпазітам капітулы Дыега дэ Асеведа, які пазней заняў пасаду біскупа Осма. Менавіта суправаджэнне гэтага царкоўнага дзеяча ў ягоных дыпламатычных падарожжах і спрычынілася да сутыкнення будучага заснавальніка ордэну дамініканаў з асноўнымі праблемамі або, як сёння кажуць, «выклікамі» свайго часу.

У прыватнасці, падчас адной з такіх паездак Дамінік назіраў пераможны паход вучэння альбігойцаў[3] у паўднёвай Францыі і пераканаўся ў поўнай бяссільнасці царкоўных структураў у барацьбе з гэтай ерассю. Сустрэча Дыега з Асеведа і Дамініка з цыстэрсамі, якія былі накіраваныя Папам для змагання з гэтым рухам, паказала, што традыцыйнымі сродкамі ерасі не перамагчы. Гэта спрычынілася да зразумення неабходнасці выпрацоўкі новых формаў барацьбы, якія нярэдка запазычваліся ў ідэалагічных праціўнікаў. Так, у прыватнасці, было вырашана распачаць новую евангелізацыю, якую б ажыццяўлялі вандроўныя прапаведнікі, што ўласным прыкладам простага жыцця ва ўбостве прапагандавалі б сярод люду ідэалы хрысціянства. Гэтая форма абвяшчэння каталіцкай дактрыны, называная «sancta praedicatio» або «praedicatio Christi», была ў 1206 г. зацверджана папам Інакенціем III.

Пасля таго, як у 1207 г. памёр біскуп Дыега дэ Асеведа, а цыстэрсы ў 1208 г. склалі з сябе абавязкі папскіх легатаў у змаганні з катарамі, Дамінік ачоліў місію ў паўднёвай Францыі. Ён двойчы адмаўляўся ад прапанаванай яму пасады біскупа, аддаючы ўсе сілы і энергію барацьбе з ерассю, а ў 1215 г. узяў удзел у IV Латэранскім Саборы, прысвеча-

ным гэтай праблеме. Біскуп Тулузы Фулькон прызначыў Гусмана з ягонымі супрацоўнікамі афіцыйнымі прапаведнікамі сваёй дыяцэзіі.

Пасля заканчэння Сабору Дамінік непасрэдна ўзяўся за стварэнне ордэну. Ужо ў 1215 г. яму склалі законныя шлюбы першыя дамінікане, а ў 1216 г. ён склікаў капітулу, на якой абвясціў статуты новага ордэну. Узімку 1216–1217 гг. папа Ганоры III булай «Religiosam vitam» ад 22 снежня 1216 г. і брэвэ ад 21 студзеня 1217 г. афіцыйна зацвердзіў дамініканскі ордэн.

У наступныя гады Дамінік пакладае высілкі, каб умацаваць пазіцыі ордэну прапаведнікаў і пашырыць яго ўплыў на ўвесь хрысціянскі свет. Для гэтага ён рассылае сваіх паплечнікаў у найбольш важныя асяродкі каталіцкай думкі — Парыж, Балонью, Мадрыд, а сам выязджае ў Рым. Гэта дало яму магчымасць распаўсюдзіць свае ідэі сярод вернікаў і знайсці новых кандыдатаў для ўступлення ў ордэн. У 1218–1219 гг. Дамінік праводзіць першую візітацыю канвентаў ордэну ў Францыі, Іспаніі і Італіі, а на генеральных капітулах 1220 і 1221 гг. надае яму арганізацыйную структуру, паводле якой ордэн падзяляецца на правінцыі.

Памёр Дамінік 6 жніўня 1221 г. у Балоны, а ў 1234 г. ён быў канізаваны папам Рыгорам IX.

**Ордэн айцоў прапаведнікаў**

Смерць заснавальніка не спыніла імклівага развіцця і распаўсюджвання ордэну дамініканаў. Спярша ў вялікіх, а затым і ў меншых гарадах пачынаюць закладацца кляштары; паступова афармляеццца і набывае выразнасць структура і ідэалогія закону. Ужо ў 1220 г. было прынята рашэнне цалкам адмовіцца ад усялякай уласнасці і жыць выключна з ахвяраванняў (што і надало законам з такой формай самаўтрымання назву мендыканцкіх, або жабрачых). Асноўныя пасады займаліся шляхам абрання, але прыёр быў адказны перад супольнасцю канвента, якая яго выбрала, правінцыял — перад правінцыяльнай капітулай, а генерал — адпаведна, перад капітулай генеральнай.



Касцёл Святой Тройцы ў Кракаве (фота аўтара).

У кожным з канвентаў ствараюцца адмысловыя школы — «студыі» (studium particulare), у якіх выкладалася філасофія ў тагачасным яе разуменні — як сукупнасць ведаў пра навакольны свет і асновы навук, неабходных для яго спазнавання. Прычым навучанню і падрыхтоўцы будучых прапаведнікаў надаецца так шмат увагі, што кожны канвент фактычна ператвараецца ў вучэльню. Праводзіць заняткі ў дамініканаў меў права толькі лектар з вышэйшай адукацыяй, г. зн., які скончыў 4-гадовы курс тэалогіі. Браць жа ў іх удзел былі абавязаныя ўсе насельнікі кляштара, незалежна ад узросту, вучонасці, працягласці святарскага служэння і практычных абавязкаў. Неабходнасць сталага даадукавання і самаразвіцця падкрэсліваецца нават у ордэнскіх статутах, якія патрабавалі, каб законнікі «ўдзень і ўначы, дома і ў падарожжы нешта чыталі або над нечым разважалі».

Апрача таго, у кожнай правінцыі засноўваўся і своеасаблівы ўніверсітэт — «генеральныя студыі» *(studia generalia)*, дзе дасведчаныя прафесары выкладалі поўны курс тэалогіі. Такая пільная ўвага да адукаванасці сваіх членаў ператварыла ордэн прапаведнікаў у самы інтэлектуальны закон у свеце — і такім ён заставаўся на працягу стагоддзяў. Сотні дамініканаў з часам займалі прафесарскія катэдры ў найбуйнейшых універсітэтах Еўропы — у Парыжы, Оксфардзе, Падуі, Кёльне і інш.; выдавалі сотні тысяч тамоў кніг — ад зборнікаў казанняў і да працаў па філасофіі ды тэалагічных трактатаў; услаўлялі свой ордэн, здабываючы славу вядомых ва ўсім свеце пісьменнікаў, тэолагаў, філасафаў і навукоўцаў — як, напрыклад, аўтар «Залатой легенды» Якуб дэ Варагінэ, Альберт Вялікі ці Тамаш з Аквіна.

Разам з тым, асноўнай задачай дамініканаў было ажыццяў-



Дамініканскі канвент пры касцёле Святой Тройцы ў Кракаве (фота аўтара).

ленне душпастырскай дзейнасці, увасобленай у прапаведніцтве і спавяданні. Спярша яны вялі працу ў парафіяльных святынях, будуючы для сябе ж толькі невялічкія — адпаведныя зароку беднасці — касцёлікі, дзе праводзілі штодзённае набажэнства. Аднак паколькі мясцовыя святары далёка не заўсёды з ахвотаю прымалі дапамогу з рук прышлых законнікаў, пачынаючы з сярэдзіны XIII ст. ордэн будуе ўсё больш уласных касцёлаў, каб мець магчымасць прыходзіць з пастырскай дапамогай.

Шмат увагі надаецца і працы законнікаў на місіях сярод паганаў. Паступова евангелічная і місіянерская дзейнасць ордэну не толькі ахоплівае ўсю Еўропу, але перасягае межы кантыненту і пранікае спярша ў Азію і Афрыку, а пазней — у Лацінскую Амерыку, дзе дамінікане не раз выступалі ў абарону правоў індзейцаў (згадайма тут імёны Антонія з Мантэсіна і Баўтрамея дэ Лас Касаса). Напрыканцы XVII ст. — у час сваёй найбольшай пашыранасці і шматлікасці — ордэн аб’ядноўваў у сваіх шэрагах каля 30 000 членаў у 45 правінцыях на розных кантынентах.

**Закон прапаведнікаў у Вялікім Княстве Літоўскім**

На Усходзе Еўропы дамінікане з’явіліся неўзабаве пасля таго, як афарміліся ў ордэн. Заслуга ў гэтым належыць біскупу Кракаўскаму Івону Адравонжу, які атрымаў выдатную тэалагічную і юрыдычную адукацыю ў Парыжы ды Вічэнцы і меў моцныя сувязі з інтэлектуальнымі і духоўнымі каталіцкімі асяродкамі ў Заходняй Еўропе. Падчас свайго знаходжання ў 1219–1220 гг. у Рыме ён сустракаўся са св. Дамінікам і дамовіўся з ім аб стварэнні дамініканскай місіі ў Кракаве. Дзеля гэтага, вярнуўшыся ў Польшчу, ён накіраваў у Балоньскі канвент для праходжання навіцыяту групу аднадумцаў на чале з Яцкам (Гіяцынтам) і Чэславам Адравонжамі, якія раней суправаджалі біскупа ў падарожжы ў Рым і прысутнічалі на ягонай сустрэчы са св. Дамінікам.

На свята Звеставання Найсвяцейшай Панне Марыі ў 1223 г. Івон Адравонж перадаў дамініканам, якія вярнуліся з Італіі, кракаўскі касцёл Святой Тройцы, а ўжо ў 1225 г. была створана Польская правінцыя ордэну, першым кіраўніком якой стаў Яцэк Адравонж. Такім чынам, Польшча зрабілася для дамініканаў (як пазней і для шэрагу іншых лацінскіх законаў) плацдармам, з якога яны з часам пачалі пашыраць свой уплыў на суседнія тэрыторыі. Перадусім гэта датычыла і далучанай да Кароны ў XIV ст. Чырвонай Русі, і Вялікага Княства Літоўскага, якое пасля Крэва перманентна знаходзілася ў стане уніі з Польскай дзяржавай. Новастворанвя кляштары аўтаматычна ўваходзілі ў склад Польскай правінцыі.

Тым не менш заўсёдная нязгода паміж украінцамі і палякамі прывяла да таго, што ў 1612 г. пасля доўгіх змаганняў з пераменным поспехам нарэшце была канчаткова зацверджана самастойная Руская правінцыя пад тытулам св. Яцка. Яна ахоплівала населеныя пераважна хрысціянамі грэка-візантыйскага абраду абшары на ўсход і поўдзень ад Польшчы (нават Малдавію і Трансільванію!). З гэтай прычыны ў яе была ўключаная і значная частка беларускіх земляў, на якіх, праўда, у той час дамініканскіх кляштараў не было (за выключэннем толькі нядаўна заснаванага менскага).

Населеныя балтамі тэрыторыі ВКЛ, а таксама Вільня і паўночна-заходняя частка сучаснай Беларусі, засталіся ў складзе Польскай правінцыі. Размежаванне паміж гэтымі дзвюма адміністрацыйнымі адзінкамі ордэну яшчэ доўга з’яўлялася камянём сутыкнення. Яскравы

прыклад гэтага дае гісторыя менскага канвенту, які хоць і быў заснаваны ў 1605 г. законнікамі з Вільні, але пасля перагляду межаў увайшоў у склад Рускай правінцыі, а яго насельнікі мусілі вярнуцца ў родны кляштар. З другога боку, фундаваны ў 1630 г. канвент у Берасці быў закладзены і ўвесь час заставаўся пад юрысдыкцыяй польскага правінцыяла. Што датычыць балцкіх і рэшты беларускіх тэрыторый, дык яны спярша ў 1644 г. вылучыліся ў асобную кангрэгацыю, а ў 1647 г. утварылі Літоўскую правінцыю пад тытулам Анёла Ахоўніка, на чале якой быў пастаўлены а. Пятроні Каменскі.



Інтэр'ер адной з галерэяў кракаўскага канвенту дамініканаў (фота аўтара).

У межах Вялікага Княства Літоўскага дамінікане найраней асталяваліся ў Вільні. Даследчык гісторыі Віленскай дыяцэзіі кс. Ян Курчэўскі распавядае, што ўжо сам св. Яцэк у 1230 г. прайшоў землі Русі і Літвы ўшыркі і ўдоўжкі, абвяшчаючы Добрую Навіну[4]. Гэтае сцвярджэнне стварае крыху перабольшаны вобраз яго дзейнасці, бо заснавальнік польскіх дамініканаў удзельнічаў у місійнай дзейнасці ў Кіеве і сярод прускіх балтаў, а таму азначаныя вышэй тэрыторыі перасякаў, толькі падарожнічаючы да месца свайго прызначэння. Зрэшты, кс. Курчэўскі і сам піша, што віленскі касцёл Святога Духа, пазней шырока вядомы як дамініканскі, быў перададзены ордэну толькі ў 1501 г. Аляксандрам Ягелонам[5]. А паколькі аб прыналежнасці да дамініканаў тае ці іншае святыні ў ранейшы час нічога невядома, дык і гаварыць пра сталую прысутнасць закону ў сталіцы княства можна толькі з пачатку XVI ці з канца XV ст. Найранейшыя задакументаваныя звесткі пра ўдзел дамініканаў у рэлігійным жыцці Вільні таксама паходзяць з гэтага перыяду — у прыватнасці, сведчанні, што біскуп Войцэх Табар абавязаў іх прамаўляць казанні ў касцёле св. Яна, звязаныя з адыходам колішняй святадухаўскай парафіі да гэтай святыні.

Калі не браць пад увагу фантастычныя, як нам здаецца, звесткі пра заснаванне ў 1320 г. братамі прапаведнікамі навагрудскага кляштара, дык на тэрыторыі сучаснай Беларусі дамініканскія канвенты пачалі з'яўляцца досыць позна. Фактычна за асваенне нашых земляў ордэн актыўна ўзяўся толькі на пачатку XVII ст., зацвердзіўшы спярша ў 1605 г. менскі фундуш ваяводзіны Соф'і Служкавай, а затым заснаваўшы кляштары ў Дзярэчыне і Астраўцы (1618 г.), Шклове (1619 г.), Астроўне (1621 г.), Стоўбцах (1626 г.) і ў іншых месцах. Разам з тым большая частка канвентаў у абодвух асноўных для беларускіх земляў правінцыях закону ўзнікла ў 2-й палове XVII ст. — гэта, у прыватнасці, кляштары ў Пінску (1666 г.), Полацку (1671 г.), Чашніках (1674 г.), Заслаўлі (1678 г.), Слоніме (1680), Хатаевічах і Галаўчыне (1681 г.), Клецку (1683 г.), Ракаве (1686 г.), Друі (1697 г.) і ў іншых месцах. Працэс з'яўлення новых дамініканскіх канвентаў працягваўся нават яшчэ і на пачатку XVIII ст., як пра тое сведчыць заснаванне кляштараў у Дудаковічах (1701 г.) і Халопенічах (1703 г.). Але спынімся на гэтым месцы нашага расповеду, каб уважлівей прыгледзецца да гісторыі менскага канвенту, якому будзе прысвечаны наш наступны артыкул.

[1] *Ordo Fratrum Praedicatorum* — афіцыйная лацінская назва ордэну дамініканаў, якая перакладаецца як «Закон братоў прапаведнікаў». Каб пазначаць сваю прыналежнасць да гэтага згуртавання, ягоныя члены ставяць пасля свайго імя абрэвіятуру гэтага выразу — *OP*.

[2] Грунтоўныя артыкулы, прысвечаныя закону прапаведнікаў у цэлым і непасрэдна асобе св. Дамініка і найбольш выдатным ягоным аднадумцам, а таксама важныя звесткі па гісторыі дамініканаў на Беларусі, можна знайсці ў наступных выданнях: Encyklopedia katolicka / T-wo Nauk. KUL; pod red. R. Łukaszyka, L. Bieńkowskiego, F. Gryglewicza. T. 1–10. Lublin, 1985–2000; Wielka encyklopedia powszechna ilustrowana. T. XV. Warszawa, 1895; Христианство: Энциклопедический словарь. В 3 т. Т. I. Москва, 1993 г. і інш.

[3] Так, ад наймення г. Альбі, называлі французскіх катараў.

[4] Kurczewski J., ks. Biskupstwo wileńskie. Wilno, 1912. S. 21.

[5] Тамсама, с. 168.

## CONTENTS

Article by archbishop Claudio Maria Celli, President of the Pontifical Council for Social Communications, *Infoethics for the Peace in the World of Globalisation* and his speech to the journalists opens this issue of *Our Faith*. It was read in Minsk during the meeting with the representatives of the secular mass media on13th May 2011 (p. 2-8).

In column *Interview* we publish the conversation of German reporter Peter Zeewald, the author of the book «Light of the World. Pope, Church, and Signs of the Time» with the Catholic News Agency (p. 9-11).

Priest Piotra Rudkouski OP in his article *Send down Your Holy Spirit and Renew the Face of the Earth* reflects on the symbolic events in the life of Catholic Church of thr recent time (p. 12-13).

Priest Aliaksiei Jurkajc in his article *The Look into the Past with the Thought about the Present* writes about the currency of the fundamental principles of social doctrine of the Catholic Church, presented in the encyclic of John Paul II *Centessimus annus* (p. 14-17).

We public the article by Valery Buival *Ivan Kramskoi. Christ in the Desert* about this masterpiece of the great Russian artist (p. 18-19).

We continue to publish *The Flowers of St. Fransis* translated by Aksana Danilchyk and the translation of *The Imitation of Christ* by Thomas a Kempis into belarusian language by Dr. Stanislaw Grynkevich (p. 20-26).

Arkadz Shpunt in his article *The Revelation of the Saint Beauty* tells about the exibition organised in the National Art Museum of Belarus dedicated to ten ancient icons brought back to life by Belarusian restorers (p. 26-29).

In article *The Defensive Wall of Belarus* Mihas Skobla itroduces to the readers the book of memoirs by famous historian Jury Turonak *Across the Frontier of the Homeland* (p. 30-33).

Expert in literature Jasep Janushkevich in his article *Teh Mirror of the Epoch* offers to the readers the selection of letters by the composer Stanislaw Moniuszko which draw picturesque images of Minsk (p. 34-37).

Researcher Dzmitry Mirau in the essay *Thoughts about the Upbringing of a Person* writes about the figure of Belarusian and Polish philosopher and teacher Florian Bochwic (p. 38-39).

In the article *Respect Responsibility Love* scientist Siarhei Kandrychyn reflects upon the currency and importance of the Holy Scripture in the modern life of a person and society (p. 40-44).

Researcher from Kiev Katsiaryna Barysionak writes about the book *Saint Josaphat Kuntsevych. Documents on beatification...* recently published in Ucraine (p. 45-46).

In column *In memoriam* we offer you publications in memory of philosopher Uladzimir Konan and writer Valiantsina Koutun (p. 47-58).

In 100th anniversary of Czeslaw Milosz, polish writer awarded with Nobel Prize in Literature we publish the article by Ales Chobat (p. 59-62).

Danuta Bichel writes about the exibition of the works of the artist Alieksei Marachkin in Grodna (p. 63-66).

Researcher Yury Lauryk in his article *Ordo Fratrum Praedicatorum...* tells about the activty of dominicans in the world and in Belarus (p. 67-71).

## RESÜMEE

Diese Ausgabe der Zeitschrift beginnt mit dem Vortrag „Infoethik um des Friedens willen in einer globalisierten Gesellschaft“ des Vorsitzenden des Päpstlichen Medienrates Erzbischof Claudio Maria Celli, der am 13. Mai des laufenden Jahres in Minsk während des Treffens mit weltlichen Massenmedien gehalten wurde, und mit seiner an die Journalisten adressierten Rede (S. 2-8).

In der Rubrik „Interview“ findet sich das Gespräch, das für die Katholische Informationsagentur mit dem deutschen Journalisten Peter Seewald, Autor des Buches „Benedikt XVI. Licht der Welt: Der Papst, die Kirche und die Zeichen der Zeit“, geführt wurde (S. 9-11).

Pater Pjotr Rudkouski reflektiert im Artikel „Möge Dein Geist kommen und das Antlitz dieser Erde erneuern!“ über die wichtigsten Ereignisse im Leben der Katholischen Kirche in letzter Zeit (S. 12-13).

Priester Aljaksej Jurkajzj schreibt im Artikel „Ein Blick in die Vergangenheit mit dem Gedanken an die Gegenwart“ über die Aktualität der fundamentalen Prinzipien der sozialen Lehre der Katholischen Kirche, die in der Enzyklika von Johannes Paul II. „Centesimus annus“ enthalten sind (S. 14-17).

In der Publikation von Waleryj Bujwal „Iwan Kramskoi. Christus in der Wüste“ wird über das Meisterwerk des großen russischen Malers erzählt (S. 18-19).

Fortgesetzt wird die Veröffentlichung der Übersetzung von Aksana Daniltschyk „Die Blümchen des heiligen Franziskus“ und der Übersetzung des Buches von Thomas von Kempen „Nachfolge Christi“, die von Stanislau Grynkewitsch ausgeführt wurde (S. 20-26).

Arkadzj Spunt erzählt im Artikel „Entdeckung der heiligen Schönheit“ über die im Nationalen Kunstmuseum von Belarus eröffnete Ausstellung von zehn altertümlichen Ikonen, die von belarussischen Restauratoren wieder ins Leben gerufen worden sind (S. 26-29).

Im Artikel „Die Schutzmauer von Belarus“ macht Mihasj Skobla die LeserInnen mit den Memoiren des bekannten Geschichtswissenschaftlers Jury Turonak „Außerhalb der Grenze des Vaterlandes“ bekannt (S. 30-33).

Der Literaturwissenschaftler Jasep Janischkewitsch bietet den LeserInnen im Artikel „Der Spiegel der Epoche“ eine Briefreihe des Komponisten Stanislaw Manjuschka an, in der farbenprächtige Bilder von Minsk geschaffen sind (S. 34-37).

Der Forscher Dzmitry Mirau schreibt in der Skizze „Gedanken zur Erziehung der Menschen“ über den belarussischen und polnischen Philosophen und Pädagogen Florian Bochwiz (S. 38-39).

Im Artikel „Achtung — Verantwortung — Liebe…“ reflektiert der Wissenschaftler Sjargej Kandrytschyn über die Aktualität und die Gefragtheit der Heiligen Schrift im Leben des modernen Menschen und der Gesellschaft (S. 40-44).

Die Kiewer Forscherin Katsjaryna Barysjonak schreibt über das Buch „Der Heilige Josaphat Kunzewitsch. Dokumente zur Beatifikation…“, das vor kurzem in der Ukraine veröffentlicht wurde (S. 45-46).

In der Rubrik „In memoriam“ befinden sich die Materialien, die dem Andenken an den Philosophen Uladzimir Konan und an die Schriftstellerin Waljanzina Koutun gewidmet sind (S. 47-58).

Dem 100. Geburtstag des polnischen Poeten und Nobelpreisträgers Czesław Miłosz ist der Artikel von Alesj Tschobat gewidmet (S. 59-62).

Über die Ausstellung der Werke des Malers Aljaksej Maratschkin in Grodno erzählt Danuta Bitschel im Essay „In diesem Land…“ (S. 63-66).

Der Forscher Jury Lauryk erzählt im Artikel „Ordo fratrum praedicatorum…“ über die Tätigkeit der Dominikaner in der ganzen Welt und in Belarus (S. 67-71).

## PODSUMOWANIE

Niniejszy numer czasopisma rozpoczyna się referatem pt. *„Infoetyka na rzecz pokoju w społeczeństwie globalizacji”* przewodniczącego Papieskiej Rady ds. Środków Społecznego Przekazu arcybiskupa Claudio Maria Celli, wygłoszonego w Mińsku 13 maja tego roku podczas spotkania z przedstawicielami świeckich mass mediów, oraz jego przemówieniem do dziennikarzy (s. 2-8).

W rubryce «Wywiad» drukuje się rozmowa autora książki „Światłość świata. Rozmowa z Benedyktem XVI” niemieckiego dziennikarza Petera Seewalda z Katolicką Agencją Informacyjną (s. 9-11).

Ojciec Piotr Rudkouski OP w artykule *„Niech zstąpi Duch Twój i odnowi oblicze tej ziemi!”* rozważa o ważnych wydarzeniach ostatnich lat w życiu Kościoła (s. 12-13).

Ksiądz Aliaksej Jurkajć w artykule *„Spójrzenie w przeszłość z myślą o teraźniejszości”* pisze o aktualności zasad fundamentalnych nauki społecznej Kościoła, przedstawionych w encyklice Jana Pawła II „Centesimus annus” (s. 14-17).

W publikacji *„Iwan Kramskoj. Chrystus na pustyni”* Waleryj Bujwał opowiada o arcydziele wielkiego mistrza rosyjskiego malarstwa (s. 18-19).

Aksana Danilczyk kontynuuje publikację tłumaczenia „Kwiatków świętego Franciszka”; również kontynujemy publikację tłumaczenia dzieła Tomasza a Kempis „O naśladowaniu Chrystusa” dokonanego Stanisławem Hrynkiewiczem (s. 20-26).

Arkadź Szpunt w artykule *„Odkrycie świętego piękna”* opowiada o zorganizowanej wystawie dziesięciu starożytnych obrazów, przywróconych do życia staraniami białoruskich restauratorów, która to miała miejsce w Narodowym Muzeum Sztuki Białorusi (s. 26-29).

W artykule *„Obronna ściana Białorusi”* Michaś Skobła zapoznaje czytelników z książką wspomnień znanego białoruskiego historyka Jerzego Turonka „Za granicą Ojczyzny” (s. 30-33).

Znawca literatury Jazep Januszkiewicz w materiale *„Zwierciadło epoki”* proponuje Czytelnikom listy kompozytora Stanisława Maniuszki, z których powstają malownicze obrazy dawnego Mińska (s. 34-37).

Badacz Dzmitry Mirau w eseju *„Myśli o wychowaniu człowieka”* pisze o osobie białoruskiego i polskiego filozofa i pedagoga Floriana Bochwica (s. 39-39).

W artykule *„Szacunek — odpowiedzialność — miłość...”* naukowiec Siargiej Kandryczyn rozważa na temat aktualności i zapotrzebowania Pisma Świętego w życiu współczesnego człowieka i społeczeństwa (s. 40-44).

Autorka z Kijowa Kaciaryna Barysionak pisze o książce „Święty Jazafat Kuncewicz. Dokumenty do beatyfikacji...”, która niedawno ukazała się w Ukrainie (s. 45-46).

W rubryce «In memoriam» zostały umieszczone materiały poświęcone pamięci filozofa Uładzimira Konana i pisarki Walanciny Koutun (s. 47-58).

Z okazji 100-lecia polskiego poety i noblisty Czesława Miłosza poświęcona została publikacja Alesia Czobata (s. 59-62).

O wystawie dzieł artysty Aliaksieja Maraczkina w Grodnie opowiada Danuta Biczel w eseju pt. *„W tym kraju...”* (s. 63-66).

Naukowiec Jury Lauryk w materiale *„Ordo fratrum praedicatorum...”* opowiada o działalności dominikanów w świecie i na Białorusi (s. 67-71).

## SOMMARIO

Questo numero della rivista inizia con il testo “Infoetica per la pace nella società globalizzata” della conferenza dell’Arcivescovo Claudio Maria Celli, presidente del Pontificio Consiglio per le Comunicazioni Sociali, tenutasi a Minsk durante l’incontro con i rappresentanti dei mezzi di informazione di massa laici il 13 maggio 2011 e con il testo del suo discorso rivolto ai giornalisti (p. 2-8).

Sotto la rubrica *Intervista* è pubblicata la conversazione tra l’Agenzia d’informazione cattolica e il giornalista tedesco Peter Seewald, autore del libro “Benedetto XVI. Luce del mondo: il Papa, la Chiesa e i segni dei tempi” (p. 9-11).

Il Padre Piotr Rudkouski nell’articolo “Che scenda il tuo Spirito e rinnovi le sembianze della terra!” riflette sugli eventi simbolici nella vita attuale della Chiesa Cattolica (p. 12-13).

Il Sacerdote Aliaxei Jurkaz’ nell’articolo “Lo sguardo nel passato con pensiero sulla contemporaneità” scrive della tempestività dei principi fondamentali della Dottrina Sociale della Chiesa, esposti nell’enciclica di Giovanni Paolo II «Centesimus annus» (p. 14-17).

Valery Bujval nella sua pubblicazione “Ivan Kramskoj. Cristo nel deserto” racconta del capolavoro del maestro della pittura russa (p. 18-19).

Continua la pubblicazione della traduzione dei *Fioretti* di San Francesco eseguita da Aksana Danilchyk e la parte successiva del famoso saggio di Tommaso da Kempis l’*Imitazione di Cristo*, tradotto da Stanislau Grynkevič (p. 20-26).

Arkadz Špunt nell’articolo “La scoperta di una bellezza sacra” racconta della mostra di dieci icone antiche, salvate dai restauratori bielorussi, organizzata presso il Museo Nazionale delle Belle Arti (p. 26-29).

Nell’articolo “Il muro protettivo della Bielorussia” Mikhas Skobla presenta ai lettori il libro delle memorie del famoso storico Jury Turonak “Dietro al confine della Patria” (p. 30-33).

Il critico letterario Jasep Januškevič propone ai lettori le lettere del compositore Stanislau Maniuszka pubblicate sotto il titolo “Lo specchio d’epoca” con descrizioni delle immagini suggestive di Minsk (p. 34-37).

Lo studioso Dzmitry Mirau nel saggio “Il pensiero sull’educazione dell’uomo” scrive della personalitŕ del filosofo e del pedagogo bielorusso e polacco Florian Bokhviz (p. 38-39).

Nell’articolo “Rispetto – responsabilità – amore...” lo scienziato Serghei Kandrycyn riflette sull’attualità e sulla richiesta di Sacre Scritture nella vita dell’uomo e della società moderni (p. 40-44).

La ricercatrice da Kiev Katerina Barysionak scrive del libro «Il Santo Jasafat Kunzevič. Documenti per la beatificazione…» pubblicato recentemente in Ucraina (p. 45-46).

Sotto la rubrica *In memoriam* sono pubblicati i materiali dedicati al filosofo e Vladimir Konan e alla scrittrice Valiantina Koutun (p. 47-58).

Al 100° anniversario del poeta polacco, insignito del premio Nobel, Czeslaw Milasz racconta l’articolo di Ales Čobat (p. 59-62).

Danuta Bičel nel saggio “In questo Paese…” racconta della mostra del pittore Aliaxei Maračkin tenutasi a Grodna (p. 63-66).

Il ricercatore Jury Lauryk nell’articolo «Ordo fratrum praedicatorum…» racconta dell’attività dei monaci domenicani al mondo e in Bielorussia (p. 67-71).

---

На 1-й ст. вокладкі — беатыфікацыйны партрэт папы Яна Паўла II.

*Часопіс **«НАША ВЕРА»**, № 2 (56)/2011.*
*Адрас для карэспандэнцыі: а/с 101, 220002, г. Мінск-2; тэл./факс: 293-17-50.* ***E-mail:*** *media@catholic.by.* ***Web:*** *media.catholic.by/nv/*
*Рэдакцыя рукапісаў не рэцэнзуе і не вяртае.*
*Заснавальнік – Мінска-Магілёўская архідыяцэзія РКК у РБ. Вуліца Рэвалюцыйная, 1а, 220030, г. Мінск.*
*Галоўны рэдактар — Крыстына Аляксееўна Лялько. Часопіс выдаецца на ахвяраванні вернікаў.*
*Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за № 903.*
*Падпісаны да друку 23.06.2011 г. Фармат 60x84 1/8. Ум. друк. арк. 8,37. Ул. выд. арк. 6,93. Наклад – 1 500 экз. Зак № 720.*
*Надрукавана ў друкарні ООО «Юстмаж»ЛП № 02330/0552734 ад 31.12.2009.*
*Вул. Каліноўскага, д 6, Г4/К, пакой 201. 220103 г. Мінск.*

# АДКРЫЦЦЁ СВЯТОЙ ПРЫГАЖОСЦІ

Артыкул А. Шпунта глядзі на 26–29 старонках.



1.



2.



3.

Маці Божая Адзігітрыя. XVII ст. Дрэва, тэмпера, алей. Рэстаўратар — А. С. Шпунт.
**1.** Пасля рэстаўрацыі. **2.** Да рэстаўрацыі; **3.** У працэсе раскрыцця аўтарскага жывапісу ад пазнейшых наслаенняў.



Святая ў вянку. XVIII ст. Палатно, алей.
Рэстаўратар — Э. А. Пашкіна.



Фератрон. Маці Божая з прадстаячымі святымі. XVIII ст.
Палатно, алей. Рэстаўратар — С. М. Алішэвіч.



Аляксей Марачкін. Трыпціх.
«Святы Бруна. Камень веры. Анёл».
Палатно, алей, 110x80.